Аддзел культуры Лепельскага райвыканкама

# «ЦЯРЭШКА – СВЯТОЕ ДЗЕЛА»:

## Жаніцьба Цярэшкі на Лепельшчыне (паводле сучасных запісаў)

Выданне падрыхтавала
Тацяна Валодзіна

Віцебск,
2010

УДК
ББК
В

**Валодзіна Т.**
«ЦЯРЭШКА — СВЯТОЕ ДЗЕЛА»: Жаніцьба Цярэшкі на Лепельшчыне (паводле сучасных запісаў) / Таццяна Валодзіна. — Віцебск, 2010. — 112 с.

ISBN

ISBN

УДК
ББК



Сярод выдатных з'яў беларускай фальклорнай спадчыны асабліва месца займае «Жаніцьба Цярэшкі». Гэта адна з найбольш цікавых этнічных формаў каляднага абрадавага ігрышча моладзі, якая дасягнула шлюбнага ўзросту. Асноўнае дзеянне ігрышча — падбор шлюбных пар, жаніцьба маладых — мае тут умоўны, карнавальны, гульнёвы характар, уласцівы падобным абрадавым звычаям многіх еўрапейскіх народаў. Аднак распрацаванасць сцэнарыя «Жаніцьбы Цярэшкі» ў беларусаў, багацце песеннага, танцавальнага і музычнага кампанентаў, асаблівая ўзрушанасць і «прынцыповасць» удзельнікаў дзейства ў выбары пары паказваюць, што для шэрагу пакаленняў нашых продкаў гэтае ігрышча было нечым большым, чым проста святочнай забавай. За ім хаваецца старажытны і вельмі важны для народа абрад, які рэгуляваў фарміраванне новых сямейных гнёздаў. Істотна, што ўтварэнне шлюбных пар адбывалася па ўзаемнай схільнасці маладых людзей, адсюль і энтузіязм моладзі, і стойкая захаванасць гэтага абраду ў хрысціянізаваным грамадстве.

«Жаніцьба Цярэшкі» найбольш прадстаўлена ў Лепельскім, Докшыцкім, Ушацкім, Полацкім і суседніх раёнах, яе тэрыторыя супадае з рассяленнем палачан, з рубяжамі Полацкай зямлі.

Паколькі «Жаніцьба Цярэшкі» адбываецца на Каляды, якраз у той паваротны момант, калі спыняецца змяншэнне дня, зніжэнне сонца і пачынаецца яго адваротны ход на ажыўленне прыроды з зімовага сну, то ў ім можна бачыць і знак павароту прыроды да жыцця, і сляды магічнага садзейнічання жыццестваральнаму працэсу. Трэба заўважыць, што у раёнах найбольшай распаўсюджанасці «Цярэшка» — гэта асноўнае каляднае абрадавае дзеянне, што узмацняе значнасць усіх звязаных з ім вобразаў і матываў.

Падрыхтоўку да «Жаніцьбы Цярэшкі» моладзь пачынала задоўга да Калядаў. Безумоўна, вельмі хваляваліся дзяўчаты, бо партнёр, «дзядулька» ў Цярэшцы нярэдка затым і сватоў прысылаў. У некаторых вёсках Лепельшчыны клопатаў хапала і хлопцам, бо напярэдадні гульні ўвечары разыходзіліся яны па хатах, дзе жылі іх меркаваныя абранніцы. Хлопец нёс бацьку бутэльку, а маці цукерак і прасіў іх дазволу жаніць назаўтра з іх дачкою Цярэшку.

Наступным этапам падрыхтоўкі да «Цярэшкі» з'яўляюцца танцы, калі моладзь, сабраўшыся разам у прыдатнай для агульнай забавы хаце (а раней у карчме), танцуе ўвесь вечар, не выяўляючы намеру «жаніць Цярэшку». Толькі пад поўнач, па загаду ці напамінку старэйшых аб'яўляецца ўсім, што будзе «Цярэшка».

Першым актам уласна «Жаніцьбы Цярэшкі» з'ўляецца выбар «маткі» і «бацькі», іх «скручванне» ў танцы. На ролю бацькоў выбіралі людзей старэйшых, жанатых, абавязкова вясёлых і дасціпных. Часам іх чым-небудзь выдзялялі: надзявалі «матцы» доўгую спадніцу, завязвалі хустку, «бацьку» прычаплялі бараду, вусы, надзявалі вывернуты кажух. Аднак гэта неабавязкова.

Наступны этап «Цярэшкі» — падбор пар. Параіўшыся з «бацькам», «матка» брала хлопца, а «бацька» дзяўчыну (альбо наадварот). Пратанцаваўшы з імі, яны ў танцы ж злучалі маладых, якія з гэтага моманту станавіліся «дзедам» і «бабай». У большасці выпадкаў адзначаецца, што злучалі тыя пары, якія ўжо сябравалі між сабою ці выказвалі адзін да аднаго сімпатыі. Разам з тым людзі старэйшага ўзросту заўважаюць, што перавага аддавалася пажаданням хлопцаў. Цікава, у в.Курмялёўка бацька пад'язджаў да хлопцаў верхам на качарзе.

«Ажэненыя» маладыя не проста танцавалі паміж сабой; узяўшыся намітусь пад рукі, яны «перакручваліся» млынком на месцы пад музыку «Цярэшкі», «Лявоніхі» ці нават полькі, г. зн. «скручваліся», як скручваецца, звіваецца з дзвюх столак нітка ці вяроўка, каб быць трывалай, моцнай. У гэтым бачыцца магія «скручвання» маладых людзей у адну сям'ю, трывалую сямейную пару. Пасля перакручвання пажэненыя атрымлівалі назвы «бабулька» і «дзядулька». Здаралася, хоць і дужа рэдка, што нават пасля танца баба збягала ад свайго дзеда, каб не сесці за стол з ім, і тады навокал смяяліся: «баба дзеда замарозіла».

Падбор пар — кульмінацыйны этап ігрышча, вельмі клапатлівы і адказны для «бацькоў» і вельмі істотны для «дзяцей»: ад удалага выбару пары залежаў настрой не толькі на гэты вечар, але і на увесь год, больш таго, успаміны пра «Жаніцьбу Цярэшкі», радасць ці прыкрасць з нагоды гэтай падзеі многія праносілі праз усё жыццё. Калі ж пары падабраны, расстаўлены, лес маладых вырашаны — напружанне спадае. Цяпер пачынаецца самы вясёлы, насычаны песнямі, гумарам этап пераловўлівання маладых. Кожная пара двойчы выступае на першы план, калі «дзядулька» ловіць сваю «бабульку» і наадварот. Тут адкрываюцца неабмежаваныя магчымасці выявіць свае здольнасці, свой настрой, адносіны да партнёра, свае адчуванне гумару, уменне зграбна рухацца, спрытна злавіць партнёра.

У «Цярэшцы» прысутнічаюць элементы флірту, гульнёвыя дзеянні (лаўленне кожным хлопцам сваей дзяўчыны і кожнай дзяўчынай свайго хлопца), спаборніцтва полаў (выхваленне у песнях дзяўчыны, хлопца, своеасаблівыя песенныя дыялогі), рытуальная імітацыя вянчання, якая часам становіцца рэальнасцю, рытуальнае застолле як ахвяраванне плёну зямлі для забеспячэння яе ўрадлівасці і, як можна выказаць гіпотэзу, ушанаванне сцёртага бегам часу ці спецыяльна некалі схаванага ад нядобразычліўцаў боства з невыразнымі функцыямі свата-жаніха.

Уся гульня праходзіла ў суправаджэнні песень-цярэшак, сярод якіх выдзяляюцца

## I. Песні пры падборы пар:

1. Агульныя песні-цярэшкі, якія змяшчаюць тлумачэнне дзеянняў і настрояў удзельнікаў:
1.1. Песні «маці», якія яна выконвае пры падбіранні пар;
1.2. Прыпеўкі да «Лявоніхі», якія спяваюць пад час «перакручвання» пар.

## II. Песні-цярэшкі, калі «пажэненыя» ловяць адзін аднаго:

1. Песні хлопца-«дзядулькі», калі ён ловіць сваю «бабульку»:
1.1. Захопленасць «бабулькай», выказванне рашучасці злавіць яе, намаўленне не ўцякаць;
1.2. Падсмейванне «бабулькі»;
1.3. Дыялогі-спрэчкі «дзядулькі» з «бабулькай».
2. Песні дзяўчыны-«бабулькі», калі яна ўцякае ад «дзеда».
3. Песні дзяўчыны-»бабулькі», калі яна ловіць свайго «дзядульку»;

3.1. Заклапочанасць «бабулькі» ўдзелам у «Цярэшцы», выказванне рашучасці злавіць «дзеда»;
3.2. Намаўленне «дзядулькі» здацца, не ўцякаць;
3.3. Задаволенасць шлюбам, узвелічэнне «дзядулькі», пахвалы яму;
3.4. Незадаволенасць шлюбам, падсмейванне «дзядулькі», наруганне яму.

## III. Песні, што спяваліся за сталом.

У песні-цярэшцы праяўляецца прызначанасць да выканання ў руху («ходзім і пяём»); яна злучае рысы жартоўных і велічальных вясельных песень; яна ў большай ступені, чым песні іншых жанраў, імправізацыйная. На наш погляд, цярэшка — песня, блізкая адначасова і да вясельных, і да «скакух». Аднак яна ўяўляе сабой не пэўную суму запазычаных рысаў, а цэльную мастацкую з'яву. Усе яе асаблівасці склаліся ў ёй самой, незалежна, у працэсе фарміравання і развіцця самога аднайменнага ігрышча. Ва ўсякім разе ў народзе «цярэшка» — гэта тэрмін, які абазначае жанр песень, такі ж самастойны, як валачобныя, купальскія, жніўныя ці іншыя песні.

Важна і тое, што пры «Жаніцьбе Цярэшкі» гледачоў практычна не заставалася, усе бралі ўдзел, прычым кожны ў сваёй ролі.

Паводле палявых запісаў і ўступа Л.М.Салавей да тома «Жаніцьба Цярэшкі»



***

«Жаніцьбе Цярэшкі» прысвечана нямала ўвагі збіральнікаў і даследчыкаў, вынікам стаў падрыхтаваны Л.М.Салавей і І.Дз Назінай асобны том «Жаніцьба Цярэшкі» з серыі «Беларуская народная творчасць» (Мінск, 1993). У томе ў грунтоўным навуковым артыкуле Лія Мацвееўна і Іна Дзмітрыеўна ўсебакова апісваюць і аналізуюць гульню ў яе абрадавым, вербальным і музычным выяўленні. Багата прадстаўлены песні-цярэшкі, а таксама ноты да іх. Гульні і танцы, якія арганічна ўваходзяць у «Жаніцьбу Цярэшкі», падрабязна апісаў М.А.Козенка ў томе «Віцебскае Падзвінне» (2004) з серыі «Традыцыйная мастацкая культура беларусаў» (гл. перадрукоўку ў дадзеным выданні). Акрамя матэрыялаў з гэтых кніг, у дадзеным выпадку друкуюцца архіўныя звесткі (асабістых архіваў Т.Валодзінай, А.Боганевай; Т.Кухаронак, Архіва гісторыка-філалагічнага факультэта Полацкага дзяржаўнага універсітэта (АПДУ); Архіва вучэбна-даследчай лабараторыі беларускага фальклору БДУ (АБДУ); Архіва Студэнцкага этнаграфічнага таварыства (АСЭТ); Архіва Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта (АБДПУ).

# АПІСАННІ ХОДУ ГУЛЬНІ

Сабраўшыся ўсе разам, танцуюць польку. Потым хтосьці з жанчын кажа: «А ці не «пажаніць» нам «Цярэшку»?»

Усе згаджаюцца і выбіраюць «матку» і «бацьку». «Матка» вядзе ўсю гульню. «Бацька» толькі падпявае ёй і робіць усё, што яна скажа. Усе сядзяць на лаўках каля сцен, а «маці» і «бацька» ідуць па кругу і выбіраюць пару — спачатку хлопца, а потым дзяўчыну. Ідучы, «маці» пяе:

*Божа мой, галоўка баліць,*
*Як жа мне дзетак пажаніць,*
*Якую мне раду даці,*
*Які мне парадак даці.*
*Уладзька — сынулечка,*
*Танечка — дачушачка,*
*А й роўная парачка,*
*Нам гарэлкі чарачка.*

Пеючы, выводзяць у круг выбраную пару і «скручваюць» іх «Лявоніхай»: «маці» танцуе з хлопцам, «бацька» — з дзяўчынай, потым наадварот, канчаюць, танцуючы па парах,— «маладыя» сабе, «бацька» з «маткай» сабе. Калі танцуюць — «скручваюць» «Лявоніхай» — прыпяваюць:

*Ай Лявон Лявоніху палюбіў,*
*Лявонісе чаравічкі купіў,*
*Лявоніха была ласкавая,*
*Чаравічкамі пalяскавала.*

Пару, што «пажанілі», садзяць ужо разам і выбіраюць другую. Пяе «маці»:

*Ай будзем мы піва варыць,*
*Будзем мы сыноў жаніць,*



*Будзем мы гарэлачку гнаць,*
*Будзем мы дачок аддаваць.*
*Мішачка — сынулечка,*
*Валячка — дачушачка,*
*А й роўная парачка,*
*Нам гарэлкі чарачка.*

Зноў «скручваюць» «Лявоніхай», кожны раз «Лявоніху» танцуюць па-другому. Прыпяваюць:

*А мой мілы дзевярусенька,*
*Вядзі мяне памалюсеньку,*
*Не вядзі мяне па пожаньцы,*
*Вядзі мяне па дарожаньцы.*

Пасадзіўшы гэтую пару, ідуць па кругу, выбіраюць трэцюю:

*Божа мой, галоўка баліць,*
*Як жа нам дзяцей пажаніць,*
*Якую радачку браці,*
*Дзетачкам парадак даці.*
*Сяргейка — сынулечка,*
*Ганулька — дачушачка,*
*А й роўная парачка,*
*Нам гарэлкі чарачка.*

Зноў танцуюць пад «Лявоніху»:

*Ай, Лявоніха ня жонка была,*
*Нямытую рубашонку дала,*
*Нямытую, некачаную, —*
*У суседа пазычаную.*

Выбіраецца 4-я пара. «Маці» пяе:

*Ай, будзім мы піва варыць,*
*Будзім мы сыноў жаніць,*
*Будзім мы гарэлачку гнаць,*
*Будзім мы дачок аддаваць.*
*Віцечка — сынулечка,*
*Манечка — дачушачка,*
*Ай, роўная парачка,*
*Нам гарэлкі чарачка.*

«Скручваючы» «Лявоніхай», пяюць:

*Кацілася калясо з клеці,*
*А жывіці харашо, дзеці,*
*А жывіце, не сварыцеся,*
*У загрудкі не вадзіцеся.*

6-я пара «жэніцца».
«Маці» пяе:

*Божа мой, галоўка баліць,*
*Як жа нам дзяцей пажаніць,*
*Якую мне раду браці,*
*Які мне парадак даці,*
*Віталя — сынулечка,*
*Ірачка — дачушачка,*
*Ай, роўная парачка,*
*Нам гарэлкі чарачка.*

«Лявоніха» да 6-ай пары:

*Я ў матулькі адна дочка была,*
*Як вішанька ў садочку цвіла.*
*А я цвіла і нацвітавала,*
*Як козачка я й падбрыківала.*

Калі «пажэняць» усе пары, то танцуюць «Лявоніху» ўсе разам: «маці» з «бацькам» у крузе, астатнія вакол іх. «Матка» перакручваецца па чарзе з кожным з танцуючых (хлопцаў) і з «бацькам», які застаецца ў цэнтры круга. Перакруціўшыся з усімі, «маці» і «бацька» пераходзяць на «мосцік», пары становяцца за імі. Цяпер кожная «бабка» даганяе свайго «дзеда». Пачынаюць «бацька» з «маткай», якія стаяць першыя. «Бацька» ўцякае, абходзячы «мосцік» (або «ручаёк»), вяртаецца на сваё месца і праходзіць пад «мосцікам»; так як пары стаяць узяўшыся за рукі, значыць, пад іх рукамі, у самы канец. «Бабка», даганяючы «дзеда», пяе цярэшку. Калі паказвалі гэту гульню (у в. Велеўшчына), то спявалі не толькі «бабкі», а і жанчыны, якія ўдзелу ў гульні не прымалі, бо маладыя песень не ведалі.
«Маці» спявала:



*Цярэшка, святое дзела,*
*Далі мне старога дзеда,*
*Старога, сварлівага,*
*Такога журлівага.*
*А ні з ім у пір пайсці,*
*А ні з ім дома быці.*
*У пір пайсці — сварыціся,*
*Дома быць — пабіціся.*
*Цярэшка цярэх-цярэх,*
*Далі мне дзеда з арэх,*
*Ня ўмееиь па хаце хадзіць,*
*Ня ўмеіць бабульку лавіць.*
*Хоць жа я й паваліося,*
*За дзедам паганюся.*
*Хоць жа я ножку зламлю,*
*Но свайго дзядульку злаўлю.*
*Пайду я кароў даіць,*
*А за мной Давыд бяжыць.*
*А мой ты Давыдзіла,*
*Я ж цябе не відзіла.*
*Каб цябе каршун задраў,*
*Як ты мне хвартух падраў.*
*Мой жа ты дзядулечка,*
*Я твая бабулечка,*
*Пасядзі на печы ў кутку,*
*Пакуль я красенцы вытку.*
*Вытку я красеначкі,*
*Пашыю кашулечку.*
*З чырвоным каўнерачкам,*
*Каб звалі жаўнерачкам.*

Дзве апошнія пары былі маладыя, і ім песні пяялі жанчыны:

*Божа мой, галоўка баліць,*
*Як жа мне дзядульку злавіць.*
*Ой, здайся, дзядулька, здайся,*
*На чужых не заглідайся.*
*Што табе, дзядулька, стала,*
*Я яшчэ ні саўсім стара. —*
*Хто гэту гару капаў,*

*Хто гэту сцягу таптаў,*
*Да Ірачкі ходзячы,*
*Падарачкі носячы?*
*Колечка гару капаў,*
*Колечка сцягу таптаў,*
*Да Ірачкі ходзячы,*
*Падарачкі носячы.*

Пасля «мосціка», калі пройдуць усе пары, танцуюць польку і жанчыны ў час танца пяюць прыпеўкі.

Потым «бацька» з «маткай» жадаюць «дзецям» здароўя, весялосці і да т. п.

Усе ідуць за стол.

ЖЦ[1], 74-79: зап. Г. А. Барташэвіч і Л. П. Барабанава ў 1980 г. у в. Велеўшчына.

***

На першы дзень Каляд былі танцы, моладзь танцавала позна, а пасля танцаў выбіралі са сталых людзей «матку» і «бацьку». У «маткі» — дзеўкі-»дочкі», у «бацькі» — «сыны»-дзецюкі. Рыхтаваліся да «Цярэшкі» доўга, дамаўляліся, каго з кім «жаніць». Але былі і нечаканасці. Здаралася, хлопец прасіў «маці» «перакруціць» яго вот з гэтай дзяўчынай, а дзяўчына здагадвалася і не згаджалася, нават папярэджвала, каб з тым хлопцам яе не «жанілі», бо не пойдзе ў «Цярэшку» наогул. «Маці» даводзілася шукаць выйсце, падбіраць іншую дзяўчыну.

У той хаце, дзе «жанілі Цярэшку», хлопцы і дзяўчаты станавіліся шарэнгамі адна насупроць другой. «Бацька» браў «сына», падводзіў да дзяўчыны, яна ўцякала, хлопец лавіў, а потым дзяўчыну падводзілі да хлопца, і той уцякаў, а дзеўка лавіла. Два разы лавілі. Потым «маладыя» — хлопец з дзеўкай — перакручваліся пад «Лявоніху», і пара лічылася «пажэненай». За стол садзіліся парамі, «дзед» і «баба» разам. «Бацькі» садзіліся на покуце. Усю гарэлку стаўлялі перад «бацькам», а закуску па ўсім стале. Гулялі да дня, «дзяды» праводзілі сваіх «бабуль» дадому. Песні-цярэшкі спявалі найболей, калі лавіліся:

*Пайду ж я па гароду*
*Па дзявоцкім карагоду.*

[1] ЖЦ – тут і ў далейшым: Жаніцьба Цярэшкі. Мн., 1993.



*Дзевачкі, сястрыцы мае,*
*Злавіце дзядульку вы мне.*
*Мой дзедзька сагнуўшысі,*
*У лапцікі абуўшысі.*
*Лапцікі лутовыя,*
*Аборкі пяньковыя.*
*Хоць жа я павалюся,*
*За дзедзькам паганюся.*
*Хоць жа я ножачку зламлю,*
*Я свайго дзедзьку злаўлю.*

Днём «дзяды» адведвалі сваіх «бабуль», запрашалі катацца ў вазку па возеры. Паміж імі ўстанаўліваліся прыязныя адносіны. Часам падабраныя на «Цярэшцы» пары жаніліся па-сапраўднаму. Распусты на «Цярэшцы» не дапускалася, адносіны паміж маладымі людзьмі былі, як заўсёды, цнатлівыя.

ЖЦ, 100: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Матырына ад А. Б. Шынкевіч, 1912 г. н., Е. Я. Мікулёнак, 1900 г. н.

***

«А пасля вайны, калі есці няма чаго было, усё роўна Цярэшку жанілі. Называлі «Цярэшка з трох капуст». На стале толькі тры стравы было і тры з капусты: капуста кіслая, капуста параная і капуста свежая (ці качан)».

АБДУ: зап. у 1993 г. Праханкіна Т. і Рагалевіч Н. у в. Ворань ад Занько Е.І., 1923 г.н.

***

«Ждуць Каляды, маладзёж асобенна, ждуць. Хто ўжо троху дружыць, адзін аднаго ня кінуць, будуць жаніць. А ёсь некаторыя, што ня дружуць, а ждуць Каляд. Эта ўжо такі празьнік, што Бог ведаіць. І бабы, і мужчыны ўсе ідуць, на вечарынку на гэту. Патанцуюць троху, патанцуюць-патанцуюць. Ну што ўжо, 10, 11-ы — нада Цярэшку жаніць. Ну давай. Бабы пяюць Цярэшку. Тады што нада бацьку выбраць. Без бацькоў ня будзець жаніцца. Дзеўкі больш бабу якую выберуць. Ну, бабу выбралі. Дзеда нада. Мужыка такога выбіраюць жвавага, каб ён падышоў к маладзёжы. Тады гэтыя дзед з бабай...Ну, бацькоў жа нада ажаніць. Тады іх выведуць ужо на хату, Лявоніху ім

іграюць, яны Лявоніху скруцюць. Ну, ажаніліся. Цяпер дзяцей ужо. Тады яны ўжо, занюць жа што дружуць, тады і вядуць гэтага мальца. Сын ужо хочаць жаніцца. А матка кажаць: а мне нада помаш. Вот і вядуць яго к дзеўцы.

— Ці пойдзеш ты за яго?

Сядзіць, нічога не кажаць.

— Малец добры, харошы, ідзі, рабацяга ён.

Тады за руку. І яны Лявоніху перакруцюць. Тады гэтыя ўжо на адзін бок. Перакруцюца — на адзін бок, на адзін бок. Так і пераберуць іх усіх. Старэйшых, а тады маладзейшых. — Будзеш жаніцца? — буду. Гадоў па 16, па 17. І гэтыя жэнюць. Перакруцюць. Тады становюцца ў рад, усе, дзеўкі на адзін бок, мальцы на другі. Тады ўжо бацька матку ловіць. Бяжыць жа праз гэты бок і ўсё падыміць галаву: ці відзіць ён. А гэта, сагнуўшысі, бяжыць, бяжыць кругом, а гэты з таго боку.. Насьмяюцца кала гэтага лаўленьня. Ну зловюць. А тады дзеці во гэдак пераловюцца. І атходзюць. І меньшаіць, і меньшаіць круг. Тады бацька з маткай кажуць: ну што?. Ну, вальса сходзюць. Ажаніўшыся, вальс сходзюць парны. Ідзіця цяпер, дзеткі, гатоўця вячэру. Ідуць калбасу жарыць, а мальцы за бутылкай. Стыдна троху, стыдна...

— Чаго стыдна?

— Я прышла дамоў і неяк мне стыдна... Ажаніла Цярэшку. (Сьмяецца). Ну алі матка січас жа зжарала-зжарала. Мой самастаяцельны малец быў. Я зь ім і ажанілася».

Зап. у 2006 г. Валодзіна Т. у в. Губіна
ад Барацэвіч Лідзіі Ларывонаўны, 1912 г.н.

***

«— Жанілі, жанілі. Цярэшку жанілі. Цярэшка эта ў нас была очэнь інцерэсна. Цярэшку жанілі после вайны маладзёж, жаніла тут. Цярэшку гэта... (уздыхае)

— Многа пар збіралася?

— Усяк. Калі і пар дзесяць, і дваццаць, і пятнаццаць. Усяк. Ну, напрымер, Цярэшку жаніць, вы ж панімаеце: выбіраеце бацьку і матку. Напрымер, мяне во матку выбралі, а вас — бацьку. І мы тады ідзём к гэтаму мальцу спрашываем (шэптам): «Каго табе?» Ён нам кажа (шэптам): «Тую і тую.» А ў яе спрашваем: «Ты з ім будзеш, ці не?» Еслі яна проціў, значыць усё, а еслі яна сагласна, тады ён (бацька) выводзіць мальца, а я вываджу дзяўчыну.



—А дзе яны сядзяць? Вось мы з вамі бацька і матка па хаце ходзім...

— Ходзім, а яны сядзяць.

— Уразброс па хаце?

— Ага!

— А тады выводзім мальца і дзеўку, так?

— Мальца і дзеўку, а тады даём, іграюць тады лявоніху, вы панімаеце — танец?

— Як тады?

— І тады яны во так б руць адзін аднаго во так, перакручываюцца.

— Хто каго? Малец дзеўку?

— Ага, дзеўка із мальцам перакручваюцца Лявоніху такую. Во...

— А нічога не спявалі?

— Не! А як ужо, тады ужо лавілі...

— Лавілі ў вас?

— Лавілі, лавілі, ага. Тады й пялялі, усяк пяялі.

*Ты Цярэшка, Цярэшачка,*
*Цераз мой двор сцежачка,*
*Бітая таптаная,*
*Я ў мамкі каханая.*
*Любілася, кахалася,*
*Нялюбаму дасталася.*

Во так пяялі ўсяк! (смяецца)

— Гэта калі любаму, а калі нялюбаму?

— А любаму, ну: «любаму дасталася». Усяк.

*І здайся, дзядулька, і здайся,*
*На другіх не загладайся,*
*Другія ня лепшая,*
*Я за іх ня хушшая.*
*А ці я не пральлійка,*
*А ці я не ткальлійка,*
*І сем нядзель пачынак прала,*
*Гадочак красёнцы ткала.*
*А стань, мой дзядулька, ў кутку,*
*Я табе штонікі сатку.*
*І пашыю й прынясу.*

— А як яны станавіліся, калі лавіліся? У круг станавіліся, ці як?

— У круг усе. Дзеўкі на аднэй старане, мальцы на другой старане.

— Палавіна круга — дзеўкі, палавіна круга — мальцы, так?

— Ага. І ўмесца ўсе. А гэтыя, каторыя ловяць адзін аднаго, гэтыя бегаюць кругом.

— Кругом? Вакол круга.

— Ага! І там гэта... а гэтыя ўцякаюць, даганяюць. (смяецца) Інцярэсна! Уваляцца...

— А потым, калі злавіліся, куды становяцца?

— А тады станавіцца, гэтыя вот у рад ізноў, гэта ўжо станавіцца ў рад. Ага, і ўсе гэтак пералоўліваюцца. І баб, гэтак, і дзядоў.

— «Жаніцьба Цярэшкі», а хто такі Цярэшка?

— Гэта Цярэшка, усё гэтак вот названія такія, гулянне вот такое «Цярэшка»... ну тады вот так гэта сарганізуюць...А тады, як робілі, патом малец нясець бутылку,а дзеўка нясець калбасу. І там яшчэ чаго. І ўсё гатовім, гатовім усё сталы, усё заставім, садзімся ўсе. І тады п'ём, пяём. Усяк».

Зап. у 2004 г. Глушко А., Філіпенка У.
у в. Валова Гара ад Кульба Я.В., 1912 г.н.

***

«Каляды гулялі. Я сама маткай была, Цярэшку жаніла. Дагаворымся, што будзем Цярэшку сёння жаніць, ну і сабіраем закуску, ідзем ладзіць, дзяўчаты, а мальцы водку. Ну і гуляем усю ноч, і назаўтра. Як было? Цярэшка ў карагодзе, выведзець дзяўчыну, тады «Лявоніху».

*А Лявоніха мне ня жонка была,*
*Нямытую мне кашульку дала,*
*Нямытую, някачаную,*
*У саседа пазычаную.*

Гэтак перакруціш, тады другую пару. Тады мост змосцім, за рукі паберуцца, пары перабіраюць. А тады пойдзем гуляць».

Зап. у 2009 г. Кухаронак Т. у в. Велеўшчына
ад Падабед В.І., 1916 г.н.



***

«...каторыя гуляюць, то ідуць па сагласію. Чатыры дні жэнюць, і на старыя Каляды тожа. 9 разоў дажа. Па кажнай дзярэўні хадзілі у Цярэшку. Ходзім па дзярэўні, сёньня ў адной хаце, заўтра ў другой. Пойдзем, гуляем дзень, і ноч, і дзень. Пайдзём у другую дзярэўню і гуляем».

АСЭТ: зап. Глушко А. у в.Сялец
ад Яніны Чарнухі.

***

— «Цярэшку ці жанілі?

— Жанілі і сама раз была за матку.

— А матку з бацькай як выбіралі?

— Ну, бацька з маткай паходзяць, паходзяць, згаворацца, хто бацькай, хто маткай. Ну вот якраз там брыгадзір быў, ён ужо за бацьку, я за матку. Ну, ён пры касцюме прыйшоў. Раньше па хатах гулялі, танцы, танцы, а патом Цярэшку. Бацька з маткай тады пытаюць у мальцаў — ці нашлі вы сабе дзяўчыну, дагаворацца і жэнюць. І стануць вот так бацька, вот так матка, мальцы скрозь, вот так дзеўкі Ну тады ловюцца кругом. Там ужо па канцах за рукі возьмуцца, пад рукі падлятаюць, тады свабодна лётаюць. Ну пяюць, хто што умеў.

— А хто што умеў?

— Помню, свайго лавіла і стыдзілася, но піяла. Піяць любіла. Я касу на плечы, ці серп так і з песней. Ну, можа сабіралася чалавек дзесяць на двенаццаць, ну тады круг жа парадачны, а мой толькі с арміі прыйшоу, я яго любіла, а лавіць нада. Ну і піяць нада. Бацька з маткай — дык яны не пяюць, толькі гэтыя пяюць.

*Шэрая зязюлечка*
*Па саду палецела.*
*Далі мне дзядулечку,*
*Якога я хацела.*
*У беленькай рубашачкі,*
*Чорненькай фуражачкі.*
*Кудры завіваюцца,*
*Дзеукі заглядаюцца.*
*Я яго кудры разаўю,*
*Я яго дзевак атаб'ю.*

*Не уцікай дзядулька бяжком,*
*Запала дарожка сняжком.*
*Хоць жа я павалюся,*
*За табой паганюся.*
*Многа ўсякіх было.*

— А калі не пець, тады што будзе?

— А нічога не будзе, але эта ж бабы прыхадзілі старыя сядзець, па кравацях, па лаўках. І тады яны ж ужо глядзелі, прыйшлі слухаць, такое.

— А гулялі толькі нежанатыя?

— Толькі нежанатыя. А жанатыя за бацьку, за матку былі, толькі жанатыя».

АПДУ: зап. Мішыным П. І., Мішынай В.І.
і студэнтамі ПДУ ў в.Губіна.

***

— «Сабіраліся, вот ужо скора Каляды, Цярэшку жаніць. Цярэшку жаніць нада мальцу з дзяўчынай, па пары падбіраліся, ну хто дружыць і з кім гэта ўжо вядома, а хто ня дружыць, падлізываецца к якой дзеўкі, каб яна з ім ажаніла Цярэшку, падгаварваецца, ну і сагласія такоя. Пасля Цярэшкі тады жэнюцца, улюбляюцца.

— Дык а што рабілі там, як сабіраліся?

— Сабіраліся, гулялі сначала, вечарынка, танцавалі. Будзем заўтра ну Цярэшку жаніць, хто з кім, па пары, у круг ходзюць, танцуюць, дагаварваюцца. Ну а тады, а тады як ужэ Цярэшку жэнюць, тады ловюць. Вот заўтра будзем за сталом сядзець, вот там які дзень, тады нада лавіць, круг паставяць парай тады то баба, то дзяўчынка ловіць мальца і пяюць. Якія дзеўкі баявыя, дык яны пяюць самі, і пяюць:

*Не ўцякай дзядулечка,*
*не ўцякай зязюлечка,*
*я хоць ножку паламаю,*
*но цябе я ўлаўлю.*

І тады даганяюць, улавіла, тады музыка заіграіць, яны пакружацца, на старану, другая пара гэтак. Пераловяцца, а тады танцуюць, а тады расходзюцца, а тады сабіраюцца выпіць. Нясуць дзяўчаты закуску, мальцы віно, папрыбіраюцца, ну к хазяіну, клубаў не было, к якому хазяіну, дзе хата большая. Сталы паставюць і садзяцца пары,



дзеўкі прыберуцца, мальцы прыберуцца і пасядуць, а тады бацьку і матку выбяруць, хто там ужо самы завадай дастойный, гаваркі. Ты будзеш бацька, а ты матка, камандавайце намі, мы дзеці, яны камандаваюць. Дзеўкі нясуць, а раньша ж не было ўсяго такога смачнага, сваіх сухароў напякуць, напякуць сваіх сухароў, во я іспякла, нада папробаваць, я ўчора пякла. Сваіх сухароў напякуць, каўбас наваруць. Гармонік іграў, балалайка і скрыпка аснаўное, і цымбалы».

АПДУ: зап. у 2007 г. у в. Бабча ад Рублеўскай І. У., 1924 г.н.

***

«На Каляды танцы, танцуім часоў да 12, а тады вальса ідуць, мальцы бяруць дзевак, а тады Лявоніху іграць. Вот і жанілі Цярэшку. Дзеўкі пяклі сухарчыкі, кілбасы варылі. Мальцы канфет прыносілі, гарэлкі.

*Мой дзедзька малюсенькі,*
*А ён жа п'янюсенькі.*
*Учора бабра злавіў,*
*Сёння за ночку прапіў.*
*Мой дзедзька далёка відаць,*
*На грудзях часікі блішчаць.*
*Цэпачка з часоў, з часоў,*
*Мой дзедзька гуляць пашоў.*
*Боцікі скрыпучыя,*
*Падкоўкі звінючыя.*
*Кудры завіваюцца,*
*Дзеўкі заглядаюцца.*
*Шэрая зязюленька*
*Па саду паляцела.*
*Далі мне такога дзеда,*
*Якога я хацела».*

Зап. Валодзіна Т. і Пшонка Т. у в.Заазер'е
ад Апанавічус А.Ц., 1925 г.н.

***

— «А жанатыя ўжо не жанілі Цярэшку?

— Жанілі.

— Так сама жанілі?

— Ага. Эта адзельна ўжо жанілі, яны не з маладымі».

АПДУ: зап. у 2006 г. Захарэвіч А., Жолудзева П.
у в. Мягелі Ясюк А. У., 1936 г.н.

***

«Закручаваюць Цярэшку за нядзелю, ідуць на танцы, ідуць прыглашаюць. Хто будзіць з кім жаніць. Алі большасць жанілі па любві, хто з кім хочаць. Далей закручаваюць, пойдзець вальс. Пасля вальса скамандуюць: Пара за парай! Пара за парай! І пайшлі вот так. Тады дзяўчаты становюцца ў адзін раз, кавалеры ў другі. Ну і Лявоніху танцуюць. Круцюць усе. Гэта значыць — закруцілі, за нядзелю да Калядаў. Потым гатовяцца, і дзяўчаты, і хлопцы, дзяўчаты закуску. А хлопцы гарэлку. Ну а тады ўжо на Каляды ідуць і жэнюць. Тады ўжо становюцца, усе ведаюць, хто з кім. На Цярэшку выбіраюць бацьку і матку. Бацька начынаець Лявоніху закручаваць. А потом ловюць — бабу ловюць ці дзеда. Усё па парах, пара атдзельна выходзіць. Выходзім, закруцім Цярэшку. Потым дзед уцякае, бегае, а баба ловіць, а тады наабарот. Ну а патом танцуюць, ідуць за гарэлкай і закускай. Тады збіраюцца ў адной хаце, садзяцца за тол. Бацька з маткай садзяцца на куце і вядуць парадак».

АБДПУ: зап. Александровіч Т. у в.Юркоўшчына
ад Барадзейка Г.Ф., 1924 г.н.

***

«Выбіралі бацьку, матку, пажылога, і гарманіста нанімалі, а тады дзелалі стол, ну там. Даўней жа ж у дзярэўні танцы былі ў хаце, і лампа гарэла, і добра было, і так весела. Бывала, вот адну суботу ці нядзелю ў адный дзярэўні, а тады згаварываемся ў другой. А тады кажан малец выбіраець сабе дзяўчыну, з якой хочыць, і дзяўчына жылаець яго. Малец прынясець бутылачку, дзяўчына, абязацельна нада каб калбаска была.

— А чаму?

— Ну вот эта ж Калядніца, Цярэшку жанілі на Каляды, каўбаску, няма, дык пазычуць, ну, ну свінней жа білі, ну, што ёсць. І прынясеш, і сядзіш са сваім хлопцам, ну ўсё. А тады ўжо як падап'юць, там скрыпка ці там гармонь іграець, ну пяюць:



Цярэшка чаху-чаху, а што ў цябе, дзяўчынка, у мяху, у мяху, — во так во гэта бацька з маткай пілі нам, ну і ўсё, пакарагодзяцца, папяюць, і тыя самыя танцы. Раньша ж на танцах гулялі ўсякія гульні».

АПДУ: зап. у 2006 г. Захарэвіч А., Мядзведзева А., Прахарэнка Я.
у в. Бор ад Хаткевіч Г. К.,1930 г.н.

***

«Цярэшку ў наш век дужа жанілі, эта мы ўжо ждалі Цярэшку, ужо такое свята.

— На Каляду жанілі?

— На Каляды, а чатыры дні жанілі. Бацьку, матку выбіралі з пажылых, надзевалі іх. А там мальцы дзевак выбіралі, ну канешне па любві ўсе, усе па любві, і з Цярэшкі і многа хто і пажаніўся. А тады тут выбіралі сабе пары, бацька з маткай у рад ставяць і мальцаў і дзевак. З аднаго боку мальцы, а з другога дзеўкі і станавіліся наўпроціў, ну хто каго тут выбраў, во твая, во твая, во твая. Тады лаві, круціліся і лавілі. Спярва дзеўка ўцякала, а малец даганяў кругом, а тады... Ну перакруцяцца, Клава, а тады, дзеўка мальца даганяла, так жа? А, малец дзеўку даганяў, кругом таго круга, з аднаго бока во так стаяць у рад мальцы, тут стаяць дзеўкі, тут пустата, ну дык вот бегай, дзе хочыш, і тут бегай і там. Але зловіць, уже становяцца, пара ўжо, ён дзеўку злавіў, пара ўжо. Тады другая пара. І гэтак лавілі мальцы дзевак, а тады дзеўкі мальцаў лавілі гэткім пуцём. А тады танцувалі, обшчы вальс танцуюць, бацька з маткай аб'яўлялі. Мальцы прынасілі бутылкі, а дзеўкі закуску і дзелалі застолле, такое вялікае, такое агромнае, што да беленькага дня, на заўтрага ішлі з Цярэшкі... Праважалі кавалеры сваіх выбраных дзевак, усех дамой праважалі ўже после... Ага, і дома бацькі застолле яшчэ робілі, гаворацць, эта, зяць прышоў, ужо там быў дзед з бабай, а тут ужо зяць прыйшоў, ну і так вот. А ў адный дзярэўні первы дзень, другі дзень у другой, трэццій дзень у трэццей, а чацьвёрты дзень у чацьвёртай. І яшчэ ў нас жанілі на Хрышчэнне».

АПДУ: зап. студэнты ПДУ ў в. Бор ад групы жанчын.

***

— «Дык вот сабіраліся, прымерна ў нашай хаце тожа Цярэшку жанілі. Дык сабіраліся маладзеж з дзеравень усе сюды, ну а тады выбіралі бацьку і матку з старэйшых.

— А з каго выбіралі?

— Са старых.

— Яны можа ўжо жанатыя?

— Жанатыя. Са старых выбіралі бацьку і матку. Ну тады ўжо перакруцяць яны як «Лявоніха», усё адно бацька з маткай. Бацька ідзе сыноў угаварывае: «Вось ты будзеш жаніцца, якую дзеўку браць». А матка тады дзевак угаварваіць. Ну і тады пар гэтак пасабіраюць 10, а то і болей даже, ну і усё. Тады кажны круціць гэта ўсё, як усё адно Лявоніха, пад руку так. Тады становяцца мальцы ў адзін рад, дзяўчаты ў другі, і па парах, як папераду дзеўка ўцякае, малец яе даганяе, як зловіць, ужо тут у гэтых, тады ідзеш пасярод, тут становішся так пад руку і круцішся, заходзіш па другі бок, тады яшчэ пара выходзіць. Пакуль усе не пераловяцца пары, тады ўжо ўсё. Тады дзеўка ідзець нясець закуску якую, а малец, уперад жа не пілі гарэлку, дык такую чатвертушачку водкі нясець. Тады сталы пакрываюць, бацькі на кут садзяцца і дзеці ўсе па пары, па пары, па парах садзяцца і гэтак ноч гуляюць. Пад утра дамоў расходзяцца.

— А як выбіралі сабе пару? Дзеўкі называюць, каго хочуць?

— Нее, не. Мальцы называюць дзяўчат.

— А ў дзяўчат не пытаюцца?

— Не, а ў дзяўчат не пытаюцца, а матка ўжо тады ідзець сватае дзеўку: «Вот за гэтага пойдзеш замуж?» Пойдзеш, не пойдзеш — другую сватаець, а каторы пойдзеш, тады ўжо ідзеш к мальцу свайму.

— Ну, а калі такі малец, што ніхто не хоча?

— Выпіхнуць дзеўку гвалтам туды. Усё адно перакруцяць і жэнюць Цярэшку. І ўсе садзяцца за стол. І гэтак ноч праходзіць, а назаўтра колькі там паспіш? Ужо дзед ідзець адведаваць кожны бабу сваю, а вечарам апяць гулянка збіраецца. Тады ўжо танцуюць, ужо не жэняць Цярэшку.

— А калі збіраюцца Цярэшку жаніць?

— Ну, вот 7 января. На Раждзество Цярэшку жэняць.

— А на наступны дзень?

— А на наступны дзень ужо проста так, вячарынка. Сабіраюцца, гуляюць».

АПДУ: зап. Філіпенка У.С. і студэнты ПДУ ў в. Замошша ад Чэклінай Алены Паўлаўны, 1931 г.н., нар. на хутары Шаптуны.



***

— «Малыя ж мы на Цярэшку не хадзілі. А после вайны жанілі, ой, жанілі. Начынаем первы дзень у Замошшы, 8-га ў Аношкі, а 9-га ў Сталюгах. Адны і тыя.

— А дзяўчына кожны раз з новым жэніць ці з адным?

— Ай не, стараліся, каб як-небудзь з адным. Алі як дзе прыдзецца.

— А выбіралі таго, хто прыдзецца, ці хто каму нравіцца?

— Усяк бывала. Вот у Замошшы мой дзядзя быў за бацьку, там і матка, вызвалі парня замоськага і дзяўчыну, а яна як кабыла як паляцела па кругу і ўцякла. А гэты стаіць як...Дзядзя падходзіць ка мне і кажа: Надзюша, выручы ты яго. Ну і я выручыла. Пажанілі мы Цярэшку, нам жа нада закуску несці. А ім бутылку. Дык ён ад радасці і закускі на мяне прынёс.

— Ці вы зарання гаварылі, што злучылі мяне з тым з тым?

— Яны ж дзеравенскія. Яны ўсё відзюць.

— Ну як пачыналі?

— Дзед з бабай па кругу пройдуць, Лявоніху пагуляюць нямнога, а тады бяруць парня і дзяўчыну і злучаюць. Злучуць цябе і ўсё. Як эта, стыдна каб мальцу дзелаць, ні ў коем случаі.

— А каго выбіралі за бацьку з маткай?

— Матка каб умела як піяць, ну а бацька як таўкач быў у кругу, алі такі вясёлы.

— А было, што жанатыя жанілі?

— Было, пар скولькі, но болі маладзёж. Мы ж як козы лёталі, не было нам месцечка нідзе».

Зап. у 2010 г. Валодзіна Т. у в. Аношкі ад Гарбачовай Н. Р., 1934 г.н.

***

«Ну раньшэ во як была Цярэшка. Матка там нахадзілася на танцах, матка і бацька. І тады жэнюць парамі. Пары збіраюць! Ну, напрымер, мяне і якога мальца і тады вот і перакруцімся, Лявоніху ўжо з ім, гэта ўжо як мы пажаніліся.

— А хто былі матка і бацька?

— Ну хто, ну са старэйшых.

— Перакручуся. Ты мне дзед, а я цярэжная, я табе баба.

— А толькі маладыя людзі сабіраліся?

— Да ўсе, і старыя сабіраліся. Але старыя не жанілі, старыя ўжо толькі пойдуць за матку, за бацьку. Многа пар назбіраецца, пар 20-30.

— А дзе ж яны збіраліся. У хату?

— У хаце. Даўней жа людзей многа было, маладзёжы ў дзярэўні. Ня гэта, што цяпер. Мы у хаце, дзе папросімся ў хату, вечарынку справім. Пол мыем гэтай бабе, абы ў хату пусціла Цярэшку жаніць. Ну тады ўжо перакруцімся, усе ўжо саберымся кругом ёлкі, дзед бабу ловіць. Уцякаеш ужо ад яго. А ён ловіць:

— Дай жа, бабка, не ўцякай!

Ён жа не ўмеець пець, гэта ж малец. А ўжо я калі лавлю, тады ўжо яму пяю:

*А здайся, дзядулечка,*
*я ж твая бабулечка.*
*А здайся, дзедзька, здайся,*
*на другіх не заглядайся.*
*А здайся, дзедзька-шарсцень,*
*не турбуй маіх касцей.*
*А здайся дзедзька-вожак,*
*не турбуй маіх ножак.*
*А здайся дзедзька, здайся,*
*на другіх не заглядайся.*
*Лучшую табе не дадуць,*
*толькі ў стыд увядуць.*
*— Цярэшку цярэжала,*
*на печы ня ўлежала.*
*На печы каток курняў,*
*а Валечку Коля абняў.*
*Цярэшка чаху-чаху,*
*што ў цябе ў мяху, у мяху?*
*Шпілечкі, іголачкі,*
*залаты пярсцёначкі.*
*Пайду я пабегаю,*
*як рыбка па берагу.*
*Пайду я пагуляю,*
*як рыбка па Дунаю.*
*Рыбачка і з акунцамі,*
*а я і з малайцамі.*



*Пайду я за ток глядзець,*
*а там мой дзядулька арэць.*
*А конік мурлаценькі,*
*дзядулька багаценькі.*
*А конік пляснівенькі,*
*дзядулька красівенькі.*

— А хто вібіраў пары мальцаў і дзевак?

— Мамкі ў нас былі. К якой малец хочаць, к тый падводзіць.

— Так, а хто выбірае? Вы матке гаворыце, каго хочаце.

— Ну канешне, папу і маме гаварым. У нас жа былі папа і мама. Малец ідзець і гаворыць: «Вядзі мяне к такой і такой».

— А калі там два хлапца адну хочуць?

— Не, мірыліся, адну не бралі ніхто. Хто з кім. А тады ўжо, як пажэнімся, сабіраем стол. Мальцы нясуць гарэлку, а мы закуску. І садзімся і да дня, і пяём, і што толькі ня робім».

АПДУ: зап. Філіпенка У.С. у 2007 г.
у в. Макараўшчына ад Варошка В. А., 1931 г.н.

# ПЕСНІ-ЦЯРЭШКІ

*Будзем мы цярэшку жаніць,*
*А будзем дзядочкаў лавіць.*
*А будзем мы каўбасы варыць,*
*А будзем мы дзядочкаў карміць.*

Зап. Валодзіна Т. у в.Залучына ад Царовай Р.Ц., 1922 г.н.

*Цярэшка чаху, чаху,*
*Што ў цябе ў мяху, ў мяху?*
*— Шпілечкі, іголачкі,*
*Дзявоцкія ўборачкі.*

ЖЦ, 109: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Курмялёўка ад Я. С. Вішнеўскай, 1941 г. н.

*Цярэшка ваху, ваху,*
*Што ў цябе ў мяху, мяху?*
*— Шпілечкі, іголачкі,*
*Залатыя пярсцёначкі.*

ЖЦ, 109: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студэнтаў у 1989 г. у в. Рожна ад З. Я. Шацілы, 1932 г. н.; АБДПУ: зап. у 1999 г. Барадзёнак А. у в.Стаі ад Смажэўскай М.Г., 1930 г.н.

*Цярэшка чаху, чаху,*
*Што ў цябе ў мяху, ў мяху?*
*—І шпілечкі, іголачкі,*
*Залаты пярсцёначкі,*
*Елачкі да палачкі,*
*Дзецкія забавачкі.*

ЖЦ, 110: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Макараўшчына ад В. А. Варошкі, 1931 г. н.



*Цярэшка цяху, цяху,*
*Што ў цябе ў мяху, мяху?*
*— Шпілечкі, іголачкі,*
*Залаты пярсцёначкі,*
*Зялёныя кутасачкі*
*Дзеўкам на прывязачкі.*

ЖЦ, 110: зап. К. Пятровіч і Т. Пасюк у в. Слабодка ад Г. Салтан, 61 г.; АПДУ: зап. Захарэвіч А., Жолудзева П., Шумілаў Д. у в.Задоры ад Корж В. Т., 1928 г. н.

*Цярэшка чаху-чаху,*
*Што ў цябе ў мяху, у мяху.*
*Шпілечкі, іголачкі,*
*Дзевачкам прыборачкі.*
*А мальчыкам шапачкі,*
*Залаты пірчатачкі.*

Зап. Валодзіна Т. у в.Курмялёўка ад Баранавай Я.Б., 1911 г.н.

*Цярэшка каху-каху,*
*Што ў цябе ў мяху, у мяху?*
*Палачкі, шаршатачкі,*
*Дробныя пярсцёначкі.*

АБДПУ: зап. у 1999 г. Барадзёнак А. у в.Стаі ад Смажэўскай М.Г., 1930 г.н.

*Цярэшка чаху-чаху,*
*Што ў цябе ў мяху, у мяху.*
*Плаццікі, аборачкі,*
*Усе мае прыборачкі.*

Зап. у 2010 г. Валодзіна Т. у в. Аношкі ад Крыцкай Л.К., 1930, г.н., Крыцкай Е.Я., 1927 г.н., Мірановіч З.П., 1937 г.н., жыхарак в.Окана.

*Божа мой, галоўка баліць,*
*Як жа мне дзетак пажаніць.*
*А якую раду браць,*
*Дзетачкам парадак даць?*
*Будзім мы піва варыць,*
*Будзім мы сыноў жаніць,*
*Будзім мы пшанічку жаць,*

*Будзім мы гарэлачку гнаць,*
*Будзім мы дачок аддаваць.*
*Шурачка — сынулічка,*
*Надзічка — дачушачка,*
*Ай, роўная парачка,*
*Ім гарэлкі чарачка.*

ЖЦ, 120: зап. у 1971 г. у в. Аношкі ад С.Гарбачовай, 1904 г. н.,
Г. 1. Крывец, 1910 г. н., 3. П. Прускай, 1910 г. н.,
Т. Ф. Прускай, 1911 г. н., і М. С. Прускага, 1907 г. н.

*Ай, будзем мы піва варыць,*
*Будзем мы сыноў жаніць,*
*Будзем мы гарэлачку гнаць,*
*Будзем мы дачок аддаваць.*
*Уладзька — сынулечка,*
*Танечка — дачушачка,*
*Ай, роўная парачка,*
*Нам гарэлкі чарачка.*

ЖЦ, 120: зап. Г. А. Барташэвіч і Л. П. Барабанава ў 1977 г. у в. Велеўшчына ад 3. Я. Падабед, В. В. Падабед, Н. Д. Падабед, Н. С. Падабед, В. М. Пыцько, Л. Т. Крыўко, Т. К. Клундук; зап. у 2002 г. Валодзіна Т. і Пшонка Т. у в. Вялікі Поўсвіж ад Тухта К.Р., 1936 г.н.;
Зап. у 2010 г. Валодзіна Т. у в. Аношкі ад Крыцкай Л.К., 1930, г.н., Крыцкай Е.Я., 1927 г.н., Мірановіч З.П., 1937 г.н., жыхарак в.Окана.

*Каціласся калясо з клеці,*
*А жывіце харашо дзеці,*
*А ня піця, не сварыцеся*
*Прыдзе ночка, спаць лажыцеся.*

Зап. у 2010 г. Валодзіна Т. у в. Аношкі ад Крыцкай Л.К., 1930, г.н., Крыцкай Е.Я., 1927 г.н.,
Мірановіч З.П., 1937 г.н., жыхарак в.Окана.

*Ай, будзем мы піва варыць,*
*Будзем мы сыноў жаніць,*
*Будзем мы гарэлачку гнаць,*
*Будзем мы дачок аддаваць.*
*Як жа іх да пары дабраць*
*Як жа ім парадак даць.*

Зап. у 2010 г. Валодзіна Т. у в. Замошша ад Кандыбайла К.М., 1942 г.н.



*Цярэшку цярэжыла,*
*На печы не ўлежыла.*
*Пайдзём піва варыць,*
*Будзем Цярэшку жаніць.*
*Парваў татачка боты,*
*Хозячы каля работы.*
*Дзяцей сабіраючы.*
*У кружок стаўляючы.*
*Дзеткі, савіцеся.*
*Зу ручкі бярыцеся.*
*Будзем карагод вадзіць,*
*Будзем Цярэшку жаніць,*
*Будзем Цярэшку жаніць,*
*Будзем гарэлачку піць.*
*А столікі пастаўлёныя,*
*А на стале сабяронае.*

АБДПУ: зап. у 2001 г. Багдановіч Т. у в. Паддуб'е
ад Вячэрскай Н.М., 1927 г.н.

*Цярэшку цярэжыла,*
*На печы ня ўлежыла.*
*Выйду на вулачку*
*Гляну я на сцежачку*
*А ці ідуць-ідуць за мной*
*Ажаніць Цярэшачку.*

Зап. у 2010 г. Валодзіна Т. у в. Аношкі ад Крыцкай Л.К., 1930, г.н., Крыцкай Е.Я., 1927 г.н.,
Мірановіч З.П., 1937 г.н., жыхарак в.Окана.

*Пайду я Цярэшку жаніць,*
*Ай, мая галоўка баліць.*
*Ай, ручкі-ножкі вянуць,*
*Не магу на дзедку ўзглянуць.*

Зап. у 1995 г. Боганева А. у в.Пераходцы ад Махонь П.В.

*Казалі: мой дзед нічога,*
*Насеіў пшанічкі многа.*
*Буду я пшанічку жаць,*

*Таўстыя снапы вязаць,*
*Буду я піва варыць,*
*Буду я сыноў жаніць.*

ЖЦ, 121: зап. у 1989 г. А. Ф. Літвіновіч з групай студэнтаў у в. Слабада ад Ю. С. Сарокі, 1905 г. н.

*Казалі: мой дзед нічога,*
*Насеяў пшанічкі многа.*
*Пайду я дзевак прасіць,*
*Каб памаглі снапкі насіць.*
*Я й дзевак не прасіла,*
*Сама снапкі панасіла.*

Зап. у 1995 г. Боганева А. у в. Кветча ад Хацкевіч У.В., 1912 г.н.

*Пайду я ў ток, у ток,*
*Найду я курэй куток.*
*Курачкі -заводныя,*
*Пітушка ніводнага,*
*Курачкі кудак-кудак,*
*Яечкі з кулак, з кулак.*

ЖЦ, 123: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Макараўшчына ад В. А. Варошкі, 1931 г.

*Пайду я у ток, у ток,*
*Найду я й курэй куток,*
*Курачкі заводнаі,*
*Пітушка ніводнага.*
*Цішыце, не сакачыці,*
*Мне галоўку не клапачыці,*
*У мяне рэшата пер'я,*
*Куплю вам пітушка-пеўня.*

ЖЦ, 123-124: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Матырына ад Н. Б. Шынкевіч, 1912 г. н., і Л. Я. Мікулёнак, 1900 г. н.; АБДПУ: зап. у 2004 г. Гурко М. у в. Жарсцвянікі ад Дзівінай В.І., 1935 г.н.

*Пайду я ў ток, у ток,*
*Знайду я курэй куток,*
*Курачкі заводныя,*



*Пятушка ніводнага.*
*А вы, куркі, ні сакачыця,*
*Свае галоўкі ні клапачыця,*
*Дайце мне рэшата пер'я,*
*Куплю вам пятушка, вам пеўня,*
*Знясіце рэшата яец,*
*Куплю пятушка, што пяець.*

ЖЦ, 124: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г. у в. Воканы ад В. В. Крыцкай, 1924 г. н., і М. Ц. Крыцкай, 1929 г. н.; АСЭТ: зап. А.Глушко ў в. Сялец ад Яніны Чарнухі.

*Цярэшку цярэжыла,*
*На печы ня ўлежыла.*
*Галоўку абсмаліла,*
*А плечы абпаліла.*

АБДУ: зап. у 1999 г. Марчанка Н. у в. Двор-Суша ад Ладзік В.А., 1929 г.н.

*Цярэшка, Цярэжыла,*
*На печы ня ўлежала,*
*А з печы звалілася,*
*На крошкі разбілася.*

ЖЦ, 126: зап. А. Ф. Літвіновіч і група студ. у 1989 г. у в. Домжарыцы ад К. М. Ціханавец, 1911 г. н.; зап. Валодзіна Т. у в. Парэчча ад Голубевай В.Я.

*Цярэшка, Цярэжыла*
*На печы ня ўлежыла,*
*А з печы звалілася,*
*Галава разбілася.*

ЖЦ, 126: зап. А. Ф. Літвіновіч і група студ. у 1989 г. у в. Домжарыцы ад А.С. Кліманскай, 1900 г. н.

*Цярэшка, Цярэжыла*
*На печы ня ўлежыла,*
*А з печы звалілася,*
*У поўнач ажанілася.*

ЖЦ, 127: зап. А. Ф. Літвіновіч і група студ. у 1989 г. у в. Домжарыцы ад Н. М. Кульбы, 1922 г. н.

*Цярэшка, Цярэжыла,*
*На печы ня ўлежыла,*
*А з печы звалілася,*
*На дзеда забылася.*

ЖЦ, 127: зап. А. Ф. Літвіновіч у 1989 г. у в. Рожна ад З. Я. Шацілы, 1932 г. н.

*Цярэшка, Цярэжыла,*
*На печы ня ўлежыла,*
*А з печы звалілася,*
*На Цярэшку забылася.*

Зап. Валодзіна Т. у в. Курмялёўка ад Баранавай Я.Б., 1911 г.н.

*Цярэшка, Цярэжыла,*
*На печы ня ўлежыла,*
*А з печы саскочыла,*
*На дзеда заглянула.*

ЖЦ, 127: зап. Н. П. Мядзведзева у 1979 г. у в. Пераходцы.

*Цярэшку цярэжыла,*
*На печы ня ўлежыла.*
*Скокнула на лавачку*
*Я к свайму Іваначку.*

Зап. у 2010 г. Валодзіна Т. у в. Аношкі ад Крыцкай Л.К., 1930, г.н., Крыцкай Е.Я., 1927 г.н., Мірановіч З.П., 1937 г.н., жыхарак в.Окана.

*Цярэшку жаніць, жаніць,*
*Галоўка баліць, баліць.*
*Цераз цябе да стала,*
*Забылася, з кім спала.*
*Пад ліпкай, пад ліпкаю*
*З маладым Піліпкаю.*

ЖЦ, 129: зап. А.Ф.Літвіновіч з групай студ. у 1989 г. у в. Домжарыцы ад Л. Г. Ванькевіч, 1912 г. н.

*Цярэшку жаніць, жаніць,*
*Галоўка баліць, баліць.*



*Цераз цябе ды стала,*
*Забылася, з кім спала.*
*Пад ліпкай, пад ліпкай,*
*З маладым Піліпкай.*
*З-пад кута, з-пад кутнічка,*
*Дайце мне паскуднічка.*
*— А ты мой дзедушка,*
*Я твая бабушка.*
*Вы скажыце, што рабіць,*
*Ці пакінуць, ці любіць.*

АБДУ: зап. у в.Домжарыцы ад Вашкевіч Л.Г., 1912 г.н.

*Цярэшку жаніць, жаніць,*
*Галоўка баліць, баліць.*
*Цярэшку біда с(ы)тала:*
*З кім яго жана спала?*
*У полі пад ліпачкам*
*З маладым Піліпачкам.*

ЖЦ, 130: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у м. Камень ад М. Е. Баранавай, 1915 г.н.

*Цярэшку бяда стала,*
*З кім яго жана спала.*
*Ці ў полі пад ліпкай*
*З маладым Піліпкай.*
*Ці ў гаю пад яворам*
*З маладым Ягорам.*

Зап. Скакун Т. у 1988 г. у в.Суша ад Скакун М.У., 1910 г.н.

*Цярэшку цярэжыла,*
*На печы не ўлежыла.*
*Цярэшку бяда стала,*
*З кім яго жана спала.*
*Ці спала ці не спала,*
*Цярэшку бяда стала.*
*Буду цярэшку жаніць,*
*Буду дзядульку лавіць.*

Зап. у 1993 г. Валодзіна Т. у в. Катоўшчына ад Чабатаровай П.Ц., 1918 г.н.

*А што табе, дзядулька, стала,*
*Я з табой ночачку спала.*
*Ці спала, ці не спала,*
*Аж тая слава стала.*

Зап. Валодзіна Т. у в.Залучына ад Царовай Р.Ц., 1922 г.н.

*— Чаго ты, кошачка, плачыш,*
*Ці піці, ці есці хочыш?*
*— Я піці, есці не хачу,*
*Па сваёй долі плачу.*
*Сам кухар пячэнню злізаў,*
*На мяне, кошачку, сказаў:*
*«Я табе лапачкі паб'ю,*
*Я табе вочкі выкалю».*
*Як жа мне ў лясок хадзіць,*
*Як жа мне звярушак лавіць,*
*Чым жа мне душачку жывіць!*

ЖЦ, 134: зап. у 1973 г. у в. Сталюгі
ад М. А. Кузьміч, 83 г., і М. М. Дабравольскай, 57 г.

*Цераз мора сіняя*
*Я дзядульку відзіла,*
*Я слоўца прамовіла,*
*Жаніцца дазволіла.*
*Жаніся, дзядулечка,*
*Бяры сабе дзевачку,*
*Каралёву ключніцу*
*І нашу разлучніцу.*
*У караля ключы крала,*
*Нас з табой разлучала.*

АБДУ: Зап. студ. К. У. Лемяза у 1983 г. у в. Пераходцы ад В. М. Праліч, 1902 г. н.;
АБДУ: Зап. Н.Батура ў 1983 г. у в. Рожна ад Г. А. Юргі, 1914 г. н.

*Цярэшка, Цярэжанька,*
*Цераз бор дарожанька.*
*А я свайго мілага*
*Цераз поле відзіла,*



*А я яму мовіла,*
*Жаніцца дазволіла.*
*Бяры сабе жоначку,*
*Каралёву ключніцу,*
*А маю разлучніцу.*

ЖЦ, 137: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г. у в. Домжарыцы ад А.С. Кліманскай, 1900 г. н.

*Я свайго мілага*
*Праз Дунай відзіла.*
*Праз мора мовіла,*
*Жаніцца пазволіла.*
*Жаніся, мой міленькі,*
*Жанісь, чарнабрывенькі.*
*Бяры сабе дзевіцу,*
*Каралёву ўслужніцу,*
*А маю разлучніцу.*
*Разлучыла нас з табою,*
*Як рыбку з вадою.*
*Як рыбку з акунцамі,*
*Так мяне з малайцамі.*

АБДУ: зап. у в. Ладасна ад Кляшторнай Л.М., 1905 г.н.

*Чую, скрыпачка іграіць,*
*А дзядулька ні пускаіць.*
*— Пусці, пайду я па сена!*
*Выйшла на вуліцу і села.*
*Віджу: дзядулька ідзець,*
*А ззаду бізун нясець.*
*— Ня біся, дзядулька, болей,*
*Не пайду без тваей волі.*

ЖЦ, 137: зап. Л.Андруш і В.С.Сцяпанава у в. Закаліўе ад Г.Саковіч, 39 г.

*На вуліцы скрыпка-бас,*
*Пусці, дзядулька, на час.*
*Не пушчу, суччa доч,*
*Прагуляеш усю ноч.*

*А я ад бабулькі адкралася.*
*Пайшла на вулку й нагулялася.*
*Віджу, мой дзядулька ідзець,*
*У руцэ бізун нясець.*
*Ня бі, дзядулечка,*
*Я твая бабулечка.*

Зап. Валодзіна Т. у в.Залучына ад Царовай Р.Ц., 1922 г.н.

*Дзед бабу тапіць вядзець,*
*А баба сапіць — не йдзець.*
*Дзед бабу чабох! на дно.*
*— А мне і тут, дзедзька, ладно!*

ЖЦ, 138: зап. у 1973 г. у в. Гадзіўля ад С.І. Тарнаўскай, 75 г.;
АСЭТ: зап. А.Глушко ў в. Сялец ад Яніны Чарнухі.

*Дзед бабу тапіць вядзець,*
*А баба крычыць, ня йдзець.*
*— Мой жа ты дзядулічка,*
*Я ж твая бабулічка.*
*Пасядзі на печы ў кутку,*
*Пакуль я красенцы вытку.*
*А вытку красеначкі,*
*Пашыю кашулічку*
*З чырвоным каўнерачкам,*
*Каб ты быў жаўнерачкам.*

ЖЦ, 139: зап. у 1973 г. у в. Сталюгі ад М. А. Кузьміч, 83 г.,
і М. М. Дабравольскай, 57 г.; АБДУ: зап. у 1990 г. Жарнасек Т.
у в. Селішча ад Залатуха Т.Я., 1914 г.н.; зап. у 2002 г. Валодзіна Т.
і Пшонка Т. у в. Вялікі Поўсвіж ад Тухта К.Р., 1936 г.н.

*Татка мамку тапіць вядзець,*
*А мамка крычыць, ня йдзець.*
*— Не вядзі мяне, мужанёк,*
*Не вядзі мяне, любы.*
*Пастаўлю кросны ў кутку,*
*Табе рубашку вытку.*
*А выткаўшы, бяліць буду,*
*А потым сушыць буду.*

АБДУ: зап. у 1983 г. Луцэнка Г. у в. Пераходцы ад Праліч В.М., 1902 г.н.



*Дарога, як ток, як ток,*
*Лепшая пападдзя, як поп.*
*Пападдзя пшанічку жала,*
*На папа трасца напала.*
*Вось табе, попе, за тое,*
*Не гані пападдзю у поле.*

ЖЦ, 142: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г.
у в. Слабада ад Ю.С.Сарокі, 1905 г.н.

*Паіў я коніка ў вядрэ,*
*Відзеў я рыбачку на дне.*
*Смачная рыбачка язёк,*
*Пацалуй, бабулька, разок.*
*Смачная рыбачка карась,*
*Пацалуй, бабулька, хоць раз.*

ЖЦ, 151: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Курмялёўка ад К. М. Багданавай, 1917 г. н., і Я. Б. Баранавай, 1911 г.н.; зап. у 1994 г. Валодзіна Т. у в. Уліцінкі ад Аўтух М.М., 1910 г.н.; зап. Валодзіна Т. у в. Парэчча ад Голубевай В.Я.

*Паіла каніка ў вядрэ,*
*Відзела рыбачку на дне.*
*Смачная рыбачка шчучка,*
*У дзеда белая ручка,*
*Смачная рыбачка язёк,*
*Пацалуй, дзядулька, разок.*

Зап. у 2001 г. Валодзіна Т. і Пшонка Т. у в. Прудок Лепельскага р-на ад Жарнасек С. В., 1924 г.н.;
АБДПУ: зап. у 2004 г. Гурко М. у в. Жарсцвянікі ад Дзівінай В.І., 1935 г.

*Паіла коніка ў вядрэ,*
*Злавіла рыбку на дне.*
*Слаўная рыбка акунёк,*
*Пацалуй, дзядуля, разок.*

АБДУ: зап. у 1990 г. Жарнасек Т. у в.
Селішча ад Залатуха Т.Я., 1914 г.н.

*Паіла коніка ў вядрэ,*
*Відзіла рыбку на дне.*

*Коніка запрожачку,*
*Рыбку златапёрачку.*
*Смачная рыбка язёк,*
*Пацалуй, дзядулька, разок,*
*Смачная рыбка карась,*
*Пацалуй, дзядулька, хоць раз.*

АБДПУ: зап. І.Жарнасек у в. Селішча ад Жарнасек В.М., 1928 г.н.

*І паіў я коніка ў вядрэ,*
*Відзіў я рыбачку на дне.*
*І добрая рыбачка карась,*
*Пацалуй, бабулька, хоць раз.*

ЖЦ, 151: зап. Л.М.Салавей у 1976 г. у в. Чаросава
ад М.Н.Курбацкай, 1900 г. н.; Зап. у 1995 г. Боганева А.
у в. Валова Гара ад Крыцкай Н.П., 1928 г.н., і Крыцкага М.І., 1928 г.н.

*Хоць жа я павалюся,*
*За бабкай паганюся,*
*Хоць жа я ножачку зламлю,*
*Так я бабулечку злаўлю.*

ЖЦ, 152: зап. І.Дз. Назіна ў 1985 г. у в.
Велеўшчына ад В. Ф. Кульшы, 1924 г. н.;
зап. у 1994 г. Валодзіна Т. у в. Уліцінкі ад Аўтух М.М., 1910 г.н.

*Галоўка баліць, баліць,*
*Як жа мне бабульку злавіць?*
*Хоць жа я й павалюся,*
*За табой паганюся,*
*Хоць жа я ножку зламлю,*
*Я ж сабе бабульку злаўлю.*

ЖЦ, 152: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. в.
Макараўшчына ад В. А. Варошкі, 1931 г. н.

*На небі зорачка ды ясна,*
*У суседа дзеўка прэкрасна.*
*Хоць жа я ў бяду ўпаду,*
*У суседа дзеўку ўкраду,*



*Хоць жа коніка п(а)радам,*
*Суседу дзеўку ня 'ддам.*

ЖЦ, 152: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в.
Камень ад М. Е. Баранавай, 1915 г.н.

*На небе зорачка ясна,*
*У суседа дзевачка красна.*
*Хоць жа я ў бяду ўпаду,*
*Ў суседа дачку ўкраду,*
*Хоць жа я й другую,*
*Суседу не дарую.*

ЖЦ, 153: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Курмялёўка
ад К. М. Багданавай, 1917 г.н., і Я. Б. Баранавай, 1911 г.н.

*На небе зорачка ясна,*
*У суседа дзевачка красна.*
*Хоць жа я з горачкі ўпаду,*
*Але тую дзевачку ўкраду.*
*Хоць жа я міла коніка прадам,*
*Ды суседу дзевачку не аддам.*

АБДУ: зап. у 1983 г. Лембіеўскі Ю. у в.
Рожна ад Дземідовіч М.К.

*На небе зоркі пасталі,*
*Дзецюкі дзевак пабралі.*
*Свяціце, зорачкі, да дня,*
*Ад майго луччага няма.*
*Свяціце, зорачкі, да свету,*
*Ад майго луччага нету.*

АБДУ: Зап. у 1989 г. у в. Кветча ад Л.Ц. Хацкевіч, 1910 г.н.

*Ні ўцікай, бабулька, бягом,*
*Запала сцежачка снягом.*
*Ні ўцікай, бабулька, дужа,*
*На дварэ бальшая сцюжа.*

ЖЦ, 156: зап. В. М. Каламыцава у 1976 г. у в. Пышна ад М.І. Размысловіч і Э. А. Жарнасек.

*Ні ўцікай, бабулічка,*
*Ні ўцікай, зязюлічка.*
*Ці цябе наўчыла маці*
*Ад мяне ўцікаці?*

ЖЦ, 156: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г. у в. Рожна ад Л. С. Папко, 1918 г. н.

*Не бяжы, дзядулька, дужа,*
*На дварэ бальшая сцюжа.*
*Ты яшчэ прастудзішся,*
*На мяне забудзешся.*
*Не бяжы, дзядулька, трушком,*
*Замяло дарожку сняжком.*
*Не ўцякай, дзядулечка,*
*Я твая бабулечка.*

Зап. у 1993 г. Валодзіна Т. у в. Макараўшчына ад Варошка Д.А., 1926 г.н.

*Не ўцякай, бабулька, бяжком,*
*Запала сцежачка сняжком.*
*Дзевачкі, сястрыцы мае,*
*Падмяціце сцежачку мне.*

ЖЦ, 156: зап. А.Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г. у в. Пераходцы ад П. В. Махонь, 1917 г. н.

*Галовачка баліць-баліць.*
*А як дзядулечку злавіць-злавіць?*
*Уцякай, дзядулька, бягом,*
*Запала сцежачка снягом.*
*Дзевачкі-сястрыцы мае,*
*Размяціце сцежачку мне.*
*Каб было добра хадзіць,*
*Каб скарэй дзядульку злавіць.*

АПДУ: зап. у 2006 г. Захарэвіч А., Жолудзева П. у в. Задоры ад Папко С. М., 1934 г.н.

*Не ўцякай, дзедзька, бяжком,*
*Запала дарожка сняжком.*
*Не ўцякай, дзядулька, дужа,*
*На дварэ бальшая сцюжа.*
*Выламлю калінаньку,*



*Выламлю чырвоную,*
*Размяту шырокую.*
*Паціху, Дунай, шугай,*
*Памалу, мой дзедзька, ступай.*
*Памалу-малюсеньку,*
*Паціху-ціхусеньку.*

Зап. у 1997 г. Валодзіна Т. у в. Бабча ад Раманавай Т.С., 1913 г.н.

*І пайду я дарогаю,*
*Пайду я шырокаю.*
*І выламлю калінінку,*
*Выламлю чырвоную.*
*Прайду я з дзядулечкам,*
*Прайду я з малодзенькім.*
*І мой дзедка далёка відаць,*
*На грудзях часы блішчаць.*
*На грудзях цэпачка з часоў,*
*Мой дзедка гуляць пашоў.*

АБДУ: зап. у 1997 г. Матусевіч С. у в. Ворань ад Александровіч Ф.Р., 1916 г.н.

*Не бегай, дзядулька, бягом,*
*Запала сцежачка снягом.*
*Дзевачкі, сястрыцы мае,*
*Тапчыце сцежачкі вы мне.*
*Каб было лёганька хадзіць,*
*Скарэй дзядульку ўлавіць.*
*Не ўцякай, мой дзедзечка,*
*Не ўцякай, лябедзечка.*
*А то ж я ўмарылася,*
*Цябе налавілася.*

Зап. Валодзіна Т. у в.Дзяньгубы ад Маляўка В.А., 1932 г.н.

*Не ўцякай, дзядулька, дужа,*
*На дварэ бальшая сцюжа.*
*На дварэ вятры веюць,*
*Нас з табой сягодня жэнюць.*

Зап. у 1993 г. Валодзіна Т. у в. Катоўшчына ад Чабатаровай П.Ц, 1926 г.н.

*А здайся, мой дзедзічка,*
*А здайся, лябедзічка.*
*Я ж табе песенку спяю,*
*Я ж цябе очань люблю.*

Зап. Валодзіна Т. у в.Дзяньгубы ад Маляўка В.А., 1932 г.н.

*Бабулька, царыца мыя,*
*Каротка спадніца твыя,*
*Ці ў цябе трубачак німа,*
*Каротка ж спадніца твыя.*

ЖЦ, 158-159: зап.І. Дз. Назіна ў 1985 г. у в. Барсукі ад А. А. Пінчук, 1927 г. н,

*Бабулька, царыца мая,*
*Каротка спадніца твая.*
*Спадніца караценькая.*
*Пад ей саладзенькая.*

Зап. у 2010 г. Валодзіна Т. у в. Аношкі ад Крыцкай В.І.

*І з-пад куту, з-пад кутнічку*
*Далі мне паскуднічку.*
*Я ні знаю, што мне рабіць,*
*Ці пакінуць, ці любіць.*

ЖЦ, 162: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г.
у в. Пераходцы ад П. В. Махонь, 1917 г. н.

*— Бабулька, царыца мая,*
*Каротка спадніца твая.*
*— Дзядулька, карольчык ты мой,*
*Надтачы падольчык ты мой!*
*— А хоць я штаны ўкарачу,*
*Бабульцы падол надтачу.*

ЖЦ, 162: зап. у 1989 г. у в. Кветча
ад А.І. Хацкевіч, 1937 г. н., і А. Ф. Шалап, 1935 г. н.

*— Ганулька, каралеўна мая,*
*Каротка юбка твая.*



*— Валодзька, карольчык мой,*
*Надтачы падольчык мой.*
*А хоць штаны ўкарачу,*
*Ганульцы юбку надтачу.*

АБДУ: зап. у 1983 г. Луцэнка Г. у в. Пераходцы ад Праліч В.М., 1902 г.н.

*— Царыца бабка, царыца,*
*Каротка твая спадніца.*
*— Харош, мой дзедка, харош,*
*Парваны ў цябе калош.*

ЖЦ, 163: зап. Н. Асташка і Г. Лысак у в. Залучына ад Г. Сімаковіч, 73 г.

*І з-пад маста й рэчачка цікла,*
*Я ад свайго дзядулькі ўцікла,*
*Уцікла, (а)глянулася,*
*Яму наругнулася.*

ЖЦ, 166: зап. І.Дз. Назіна ў 1985 г. у в. Барсукі ад А. А. Пінчук, 1927 г. н.

*Божа мой, галоўка баліць,*
*Як жа мне дзядульку лавіць.*
*Пайду я пабегаю,*
*Як рыбка па берагу.*
*Пайду я пагуляю,*
*Як рыбка па Дунаю.*

Зап. у 1995 г. Боганева А. у в. Валова Гара
ад Крыцкай Н.П., 1928 г.н., і Крыцкага М.І., 1928 г.н.

*Пайду я пабегаю,*
*Як рыбка па берагу.*
*На моры страпянуся,*
*Нікога не баюся.*

АБДУ: зап. у 1999 г. Марчанка Н. у в. Двор-Суша ад Ладзік В.А., 1929 г.н.

*На вакне рутачка цвіла,*
*Я ад дзядулькі ўцякла.*
*Цяпер я й пабегаю,*

*Як рыбка па берагу,*
*Цяпер я й пагуляю,*
*Як рыбка на Дунаю.*

ЖЦ, 167: зап. Т. Шаўчук у в. Пунішчы ад В. Крывец, 59 г.

*Дзядулька, прашу цябе,*
*Ні лаві скора мяне.*
*Я ж табе відаць буду,*
*А й дзе я гуляць буду.*
*Хоць жа я пагуляю, .*
*Як рыбка па Дунаю,*
*Хоць жа я пабегаю,*
*Як рыбка й па берагу.*

ЖЦ, 168: зап. Г. А. Барташэвіч у 1976 г.
у в. Абярцы ад Е. А. Клімянцёнак, 1908 г. н.

*Дзядулька, папуць, папуць,*
*Не ўмееш бабульку хапнуць,*
*Не ўмееш скоранька хадзіць,*
*Не можаш бабульку злавіць.*
*— Дзевачкі, сястрыцы мае,*
*Злавіце бабульку вы мне.*

ЖЦ, 169: зап. С. Буйвіла у в. Крыўцы ад П. Санько, 67 г.

*Шэрая зязюлечка*
*У садочку кукавала,*
*Усю гэту нядзелячку*
*Дзядульку выбірала.*
*Ах, ты мой дзядулячка,*
*Я ж твая бабулячка,*
*Каб цябе каршун задраў,*
*Як ты мне хвартух падраў,*
*Каб цябе пятух забіў,*
*Як жа ты мяне любіў!*

ЖЦ, 172: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г.
у в. Барсукі ад Г. А. Фраловай, 1920 г. н.



*Стала я Цярэшку жаніць,*
*А за мной Давыдка бяжыць.*
*Кіну я даёначку*
*Давыду ў галёначку.*

Зап. у 1995 г. Боганева А. у в.Пераходцы ад Махонь П.В.

*Пайду я кароў даіць,*
*А за мной Давыд бяжыць.*
*Каб цябе, Давыдзіла,*
*Я ж цябе ня відзіла,*
*Каб цябе кадук стаптаў,*
*Як ты мне хвартух падраў!*
*Гэта мне татусь купіў,*
*Каб мяне Пятрусь любіў,*
*Гэта мне матуся дала,*
*Каб за Пятрусём была.*

ЖЦ, 173-174: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Макараўшчына ад В. А. Варошкі, 1931 г. н.;
зап. у 1993 г. Валодзіна Т. у в. Варашкі ад Біцяй Д.А., 1926 г.н.;
АБДУ: зап. у 1969 г. Лазарчык В. у в. Губіна ад Патоцкай У.Г.,1904 г.н.; зап. Клімчэня А.
у в. Губіна ад Бяляк А.В.; Зап. у 2010 г. Валодзіна Т. у в. Аношкі ад Крыцкай Л.К., 1930, г.н.,
Крыцкай Е.Я., 1927 г.н., Міpановіч З.П., 1937 г.н., жыхарак в.Окана.

*Пайду ж я каровак даіць,*
*А за мной Давыдка бяжыць.*
*Кіну ж я й даёначку*
*Давыду ў галёначку.*
*Каб цябе й кадук растаптаў,*
*Як ты мой хвартух тут падраў!*
*Мне хвартух татусь купіў,*
*Каб мяне Пятрусь любіў.*

ЖЦ, 174: зап. В. М. Каламыцава ў 1976 г. у в. Пышна ад М.І. Размысловіч і Э. А. Жарнасек;
зап. у 1997 г. Валодзіна Т. у в. Атокі ад Скавародка К.Ц., 1912 г.н.;
АБДПУ: зап. у 2004 г. Гурко М. у в. Жарсцвянікі ад Дзівінай В.І., 1935 г.н.;
АБДПУ: зап. у 2001 г. Багдановіч Т. у в. Паддуб'е ад Вячэрскай Н.М., 1927 г.н.

*Пайду я кароў даіць,*
*Ай за мной Давыд бяжыць,*
*Як кіну даёначку*
*Давыду ў галёначку.*

*Каб цябе, Давыдзіла,*
*Я ж цябе ня відзіла.*
*Каб цябе кадук забраў,*
*Як ты мне хвартух падраў!*

ЖЦ, 174-175: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в.Матырына ад Н. Б. Шынкевіч, 1912 г. н., і Л. Я. Мікулёнак, 1900 г. н.; АБДУ: зап. у в.Барсукі ад Гардзіёнак І.У., 1925 г.н.

*Цярэшку цярэжала,*
*На печы не ўлежала.*
*Пайду я каровы даіць,*
*А за мной жа бык бяжыць.*
*Каб цябе каршун задраў,*
*Як жа ты мне хвартух парваў!*

ЖЦ, 176: зап. у 1973 г. у в. Сталюгі ад М. А. Кузьміч, 83 г., і М. М. Дабравольскай, 57 г.

*Пайду я гусей глядзець,*
*А за мной дзядулька йдзець,*
*А за мной дзядулька йдзець,*
*Пад палой бізун нясець.*
*— Ня бі мяне, дзедзічка,*
*Ой, ня бі, лябедзічка,*
*Ні пайду без цябе болі,*
*Ні пайду без тваёй волі.*

ЖЦ, 177: зап. Г. А. Барташэвіч у 1976 г. у в.Абярцы ад Е. А. Клімянцёнак, 1908 г. н.

*На дварэ явор зялён*
*Карэннім абярнуўся,*
*Хоць бы мой дзядулячка*
*З дарожкі не вярнуўся.*
*Пайду я ў вакно глядзець,*
*Ажно й мой дзядулька ідзець,*
*Ажно мой міленькі ідзець,*
*А ў руках бізун нясець.*
*Я, млода, пакаруся,*
*Нізенька пакланюся,*
*Дзядульку і жаль станіць,*
*Біць мяне пірастаніць.*

ЖЦ, 177-178: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Макараўшчына ад В. А. Варошкі, 1931 г. н.



*Скокну як кошка ў жыта,*
*Чорная сцежка ўвіта.*
*Хто ж гэту сцежку таптаў,*
*Хто гэту гару капаў?*
*Сцежку таптаў Васечка,*
*Да Надзечкі ходзячы,*
*Падарачкі носячы.*
*Стак стук пад аконачка,*
*А ці дома дзевачка,*
*Я прынёс падарачкі,*
*Красныя каралічкі.*

АБДПУ: зап. у 2001 г. Багдановіч Т. у в. Паддуб'е ад Вячэрскай Н.М., 1927 г.н.; АБДПУ: зап. Александровіч Т. у в.Юркоўшчына ад Барадзейка Г.Ф., 1924 г.н.

*Бабулька, душа мая,*
*Адчыні ваконачка,*
*Пакажы ты лічака.*
*Белае румянае,*
*У мамкі каханае,*
*А таткам хаванае.*

АБДПУ: зап. Александровіч Т. у в. Юркоўшчына ад Барадзейка Г.Ф., 1924 г.н.

*Божа мой, галоўка баліць —*
*Як жа мне дзедзечку злавіць.*
*Божа мой, ножачкі баляць —*
*Як жа мне дзедзечку спаймаць.*
*Хоць жа я паваλюся,*
*За дзедзькам паганюся.*
*Хоць жа я ўдаруся,*
*Ад дзеда не астануся.*
*Хоць жа я ножачку зламлю,*
*А дзядульку злаўлю.*

ЖЦ, 181: зап. В. Карабань у в. Мосар ад З. Бурак.; АБДУ: зап. Клімчэня А. у в. Губіна ад Бяляк А.В.; АБДПУ: зап. Александровіч Т. у в.Юркоўшчына ад Барадзейка Г.Ф., 1924 г.н.

*Пайду я ў ток, у ток,*
*Знайду я курэй куток,*

*Пятушка чубатага,*
*Дзядульку вусатага.*

ЖЦ, 182: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г. у в. Ствольна ад Н. А. Янкоўскай, 1934 г. н.

*Пайду я дзядульку лавіць,*
*Каб жа мне ножку ні зламіць.*
*Ні ўцікай, дзедзька, з раду,*
*Улаўлю цябе ззаду.*

ЖЦ, 183: зап. А. М. Райкова у 1976 г. у в. Камень ад Е. Б. Багданавай, 1914 г. н.

*Пайду я, пабегаю,*
*Як рыбка па берагу,*
*Пайду я й пагуляю,*
*Як рыбка па Дунаю.*
*Рыбачка й з акунцамі,*
*Я, млада, з малайцамі.*
*Як рыбка па Дунаю,*
*Рыбачка з акунцамі,*
*Я й, млода, з малайцамі.*

ЖЦ, 183: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Макараўшчына ад В. А. Варошкі, 1931 г. н.

*Пайду я па гародзе*
*У дзявоцкім карагодзе,*
*Арэшкі кусаючы,*
*Дзядульку шукаючы.*
*Дзевачкі, сястрыцы мае,*
*Скажыце праўдачку вы мне,*
*Дзе мой дзядулька ходзіць,*
*Каго ён сабе ловіць?*
*За кім ён ганяецца,*
*Ад мяне хаваецца?*
*А ці ён у піру спіўся,*
*А ці ён ад мяне скрыўся?*

ЖЦ, 184: зап. Т. Каралёнак у в. Крыўцы ад П. Санько, 67 г.



*Пайду я па гароду,*
*Па дзявоцкім карагоду,*
*Рыбачку лапаючы,*
*Мілага шукаючы.*
*Паіла коніка ў вядрэ,*
*Відзіла рыбачку на дне.*
*Смашная рыбачка язёк,*
*Пацалуй, дзядулька, разок.*
*Смашная рыбачка шчучка,*
*Цёплая мілага ручка.*

ЖЦ, 185: зап. у 1973 г. у в. Гадзіўля ад С.І. Тарнаўскай, 75 г.; Зап. у 1995 г. Боганева А. у в. Кветча ад Хацкевіч У.В., 1912 г.н.

*Хаджу я ў народзі,*
*У дзявоцкім карагодзе.*
*Платочкам махаючы,*
*Дзядульку шукаючы.*
*Хоць я павалюся,*
*За дзедам паганюся,*
*Хоць я ножачку зламлю,*
*Сабе дзядульку ўлаўлю.*
*Дзядулька кархач, кархач,*
*Ня ўмеў скоранька хадзіць,*
*Ня ўмеў Цярэшку жаніць.*
*Ён па гарэ ходзіць,*
*Дзевак карагод водзіць.*

АБДПУ: зап. І.Жарнасек у в. Селішча ад Жарнасек В.М., 1928 г.н.

*Пайду я па ельнічку,*
*Пайду па сасоннічку,*
*Ветачкі ламаючы,*
*Дзядульку шукаючы.*
*Пайду я па берагу,*
*Пайду па крутому я.*
*Хоць жа я ножачку зламлю,*
*А ўсё ж дзядульку злаўлю.*

Зап. у 1994 г. Валодзіна Т. у в. Кабак ад Аўтух С.С., 1921 г.н.

*Пайду я па ельнічку,*
*Пайду памаленечку,*
*Арэшкі лускаючы,*
*Дзядульку шукаючы.*
*Не ўцякай, дзядулька, здайся,*
*На другіх не заглядайся.*
*Другія з ума звядуць,*
*Нам з табой разлуку дадуць.*

АБДУ: зап. у 2005 г. Вяснова А. у в. Зароўе ад Правада Н.Дз., 1936 г.н.;
АБДУ: зап. у 1999 г. Марчанка Н. у в. Двор-Суша ад Ладзік В.А., 1929 г.н.

*Пайду я па ельнічку*
*Пайду памаленечку,*
*Арэшкі трускаючы,*
*Мілага шукаючы.*
*Раскажу прыметачку,*
*Пра яго адзежачку,*
*Русыя валосачкі,*
*Рубашка ў палосачкі.*
*Кудры завіваюцца,*
*Дзеўкі заглядаюцца.*
*Губачкі мякенькія,*
*Пацалункі саладзенькія.*

АБДУ: зап. у 1983 г. Кажамякіна Н. у в. Верабкі ад Шушкевіч А.М., 1916 г.н.

*Хоць жа я павалюся,*
*За дзядулькам паганюся.*
*Хоць жа я ножачку зламлю,*
*Я свайго дзядульку ўлаўлю.*
*Не ўцякай, дзядулька-шарсцень,*
*Не турбуй маіх ты касцей.*

ЖЦ, 188: зап. у 1973 г. у в. Гадзіўля ад С.І. Тарнаўскай, 75 г.

*Пайду ж я па гароду,*
*Па дзявоцкім карагоду.*
*Дзевачкі, сястрыцы мае,*
*Злавіце дзядульку вы мне.*



*Мой дзедзька сагнуўшысі,*
*Ў лапцікі абуўшысі.*
*Лапцікі лутовыя,*
*Аборкі пяньковыя.*
*Хоць жа я пувалюся,*
*За дзедзькам паганюся,*
*Хоць жа я ножачку зламлю,*
*Я свайго дзядульку злаўлю.*

ЖЦ, 189: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Матырына
ад Н. Б. Шынкевіч, 1912 г. н., і Л. Я. Мікулёнак, 1900 г. н.

*Дзевачкі-сяструлечкі,*
*Ці відзелі дзядулечкі.*
*Мой дзядулька ста673анькі,*
*Стараанькі сагнуўшыся,*
*У лапцікі абуўшыся.*
*Лапцікі лыковыя,*
*Аборкі пяньковыя,*
*Анучкі бялёвыя.*

Зап. Валодзіна Т. у в. Парэчча ад Голубевай В.Я.

*Божа мой, галоўка баліць,*
*Як жа мне дзядульку злавіць?*
*Ні ўцікай, дзядулічка,*
*Я твая бабулічка.*
*Хоць жа я павалюся,*
*За дзедзькам паганюся,*
*Хоць жа я ў мякіну,*
*Я цябе не пакіну.*

ЖЦ, 190: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Курмялёўка
ад Я. С. Вішнеўскай, 1941 г. н.

*Пайду я каля саду*
*К суседу на перасаду.*
*Хоць жа я ў бяду ўпаду,*
*Суседа сына ўкраду.*
*Тонкага, высокага,*

*Белага, румянага,*
*Дзядульку удалага!*

ЖЦ, 191: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г. у в. Кветча
ад Л. Ц. Хацкевіч, 1910 г. н., родам з в. Пераходцы.

*Пайду я каля саду*
*К суседу на перасаду.*
*Хоць жа я ў бяду ўпаду,*
*У суседа дачку ўкраду.*
*Тонкую, высокую,*
*Белую, румяную,*
*Белую, румяную*
*Бабульку ўдалую!*

АБДУ: зап. у 1983 г. Кажамякіна Н. у в. Верабкі ад Шушкевіч А.М., 1916 г.н.

*Хоць жа я павалюся,*
*За дзедам паганюся,*
*Хоць жа ножку зламлю,*
*Я свайго дзядульку злаўлю.*

ЖЦ, 193: зап. А. М. Райкова у 1976 г. у в. Камень ад Е. Б. Баранавай, 1914 г. н.

*Дзевачкі, у полі дымна,*
*Не стала дзядулькі відна,*
*Хоць жа я ў дым пайду,*
*Усё роўна дзядульку знайду.*

ЖЦ, 193: зап. Л.Андруш і В. Сцяпанава Ў в. Закаліўе ад Г. Саковіч, 39 г.

*Не ўцякай, дзядулька-прахвост,*
*Улаўлю я цябе за хвост,*
*Не ўцякай дзядулька-шарсцень,*
*Не турбуй маіх касцей.*
*Хоць жа я й павалюся,*
*За дзедам паганюся,*
*Хоць жа я ножачку зламлю,*
*Усіроўна дзядульку злаўлю.*

ЖЦ, 194: зап. Т. Пасюк у в. Слабодка ад Г. Салтан, 61.



*Не ўцякай, дзядулечка,*
*Не ўцякай, зязюлечка,*
*Хоць жа я маленькая,*
*Ды з табой раўненькая.*
*Хоць жа я маладая,*
*Ды з табой у раду стала.*

АБДУ: зап. у 1969 г. Лазарчык В. у в. Ладасна ад Мурашка Л.С., 1934 г.н.

*Не ўцякай, дзядулечка,*
*Не ўцякай, зязюлечка,*
*Ці цябе вучыла маці*
*Ад мяне ўцякаці.*

АБДУ: зап. у 1983 г. Маркевіч В. у в. Рожна ад Батура Н.Г., 1932 г.н.

*Дзевачкі, сястрыцы мае,*
*Тапчыце вы сцежачку мне,*
*Каб я ні валялася,*
*Людзі ні смяяліся.*

ЖЦ, 195: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г. у в. Ствольна ад Н.А. Янкоўскай, 1934 г. н.

*Й дзевачкі, сястрыцы мае,*
*Тапчыця сцежачку вы мне,*
*Каб добра было хадзіць,*
*Каб добра дзядульку лавіць.*
*І ні ўцікай, дзядулька, бягом,*
*Запала сцежачка снягом.*
*Дзевачкі, сястрыцы мае,*
*Лавіце ж дзядульку вы мне.*

ЖЦ,195-196: зап. І.Дз.Назіна ў 1985 г. у в. Барсукі ад А.А.Пінчук, 1927 г. н.

*Лезьце, цётачкі, з печы,*
*Паліце фунар, свечы,*
*Каб было відненька хадзіць,*
*Каб скарэй дзядульку злавіць.*

ЖЦ, 197: зап. Г. А. Барташэвіч у 1976 г. у в. Абярцы ад Е.А.Клімянцёнак, 1908 г. н.;
АБДПУ: зап. у 2003 г. Шаўчонак Н. у в.Заглінкі ад Лук'янавай З.І., 1931 г.н.;
АБДУ: зап. у 1999 г. Марчанка Н. у в. Двор Суша ад Ладзік В.А., 1929 г.н.

*І дзевачкі, вяліка хата,*
*Далі ж мне дзеда-салдата.*
*Што ж я буду й рабіці,*
*Як я буду й лавіці?*

ЖЦ, 197: зап. І.Дз. Назіна ў 1985 г. у в. Барсукі ад А.А.Пінчук, 1927 г.н.

*Паслухай, дзядулька, мяне,*
*А што я скажу табе.*
*Ты пойдзеш трэсачкі сячы,*
*А я пайду хрушчэй пячы.*

ЖЦ, 200: зап. Л. Андруш і В. Сцяпанава у в. Закаліўе ад Г. Саковіч, 39 г.

*Мой жа ты дзядулечка,*
*Я твая бабулечка.*
*Ты ідзі трэсачкі сячы,*
*Я пайду закуску пячы.*

ЖЦ, 200: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г. у в. Ствольна ад Г. А. Ляшкевіч, 1930 г. н.

*Мой жа ты дзядулечка,*
*Я твая бабулечка.*
*Ты ідзі трэсачкі сячы,*
*Я пайду закуску пячы.*
*Напяку тарэлачкі,*
*Ты нясі гарэлачкі.*

АБДУ: зап. у 1983 г. Лішка З. у в.Барсукі ад Мірановіч М.М., 1910 г.н.

*Пад вакном ручэй пацёк,*
*Ад мяне мой дзедзька ўцёк.*
*Не ўцякай, дзедзя-лябедзя,*
*Пашыю шубу я з мядзведзя.*

ЖЦ, 202: зап. А. Лаўшук у в. Ладасна ад М. Лейчанка, 60 г.

*І чаго ты, дзядулька, ходзіш,*
*Нашто ты боцікі топчыш,*
*Чаго ты туляішся,*
*Ты са мной ні знаішся?*



*І на тое забыліся,*
*Як змалку любіліся,*
*Давай, дзедзька, пазнавацца,*
*Цяпер будзім улюбляцца.*

ЖЦ, 202-203: зап. І.Дз. Назіна ў 1985 г. у в. Барсукі ад А. А. Пінчук, 1927 г. н.

*І серая зязюлічка*
*У садочку кукувала,*
*Усю гэту нядзелічку*
*Дзядульку выбірала.*
*Ой, ні ўцікай, дзядуля, дужа,*
*На дварэ бальшая сцюжа,*
*Ні ўцікай, дзядуля, бягом,*
*Запала сцежачка снягом.*

ЖЦ, 205: зап. В. М. Калымыцава ў 1976 г. у в. Пышна ад М. Л. Святагор, 1909 г. н.

*Ах ты ж мой дзядулічка,*
*Я ж твая бабулечка.*
*Не ўцікай дзядзька дужа,*
*На дварэ бальшая сцюжа.*
*Хоць жа я павалюся,*
*За табой паганюся,*
*Хоць жа я й ножку зламлю,*
*Я й сабе дзядульку злаўлю.*

ЖЦ, 205: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Макараўшчына ад В.А. Варошкі, 1931 г. н.;
АБДУ: зап. у 1997 г. Матусевіч С. у в.Ворань ад Александровіч Ф.Р., 1916 г.н.

*І пайду я й у сад, у сад,*
*Пайду я ў зялёнінькі,*
*Выламлю калінаньку,*
*Выламлю чырвонаю,*
*Размяту дарожачку,*
*Размяту шырокаю.*
*Паціху, Дунай, шугай,*
*Памалу, дзядулька, уцікай!*
*Па полі ручэй пацёк,*
*Ад мяне мой дзед уцёк,*

*Не ўцікай, дзядулька, бягом,*
*Запала сцежачка снягом.*
*Не віджу тваіх слядоў!*

ЖЦ, 205: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Парэчча ад А. П. Стрэльчанкі, 1896 г.

*Па полі Дунай пацёк,*
*Ад мяне мой дзядулька ўцёк,*
*Не ўцякай, дзядулечка,*
*Я твая бабулечка.*
*Хоць жа я ножачку зламлю,*
*А свайго дзядульку злаўлю.*
*Хоць жа я пабегаю,*
*Як рыбка па берагу,*
*Хоць жа я пагуляю,*
*Як рыбка па Дунаю.*

Зап. Валодзіна Т. у в. Парэчча ад Голубевай В.Я.

*Хоць жа я пабегаю,*
*Як рыбка па берагу,*
*Хоць жа я пагуляю,*
*Як рыбка па Дунаю.*
*Хоць жа я ножачку зламлю,*
*Я свайго дзядульку злаўлю.*
*Не бяжы, дзядулька, дужа,*
*На дварэ бальшая сцюжа,*
*Не бяжы, дзядулька, бяжком,*
*Запала сцежка сняжком.*
*А дайся, дзядулька, дайся,*
*На другіх ні заглядайся.*

Зап. у 2001 г. Валодзіна Т. і Пшонка Т. у в. Прудок ад Жарнасек С.В., 1924 г.н.;
АБДУ: Зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г. у в. Домжарыцы ад Н. М. Кульбы, 1922 г. н.;
АБДУ: зап. у в.Барсукі ад Гардзёнак Н.У., 1925 г.н.

*Не ўцякай, дзядулечка,*
*Я твая зязюлечка,*
*Хоць жа я маленькая,*
*Ды з табой раўнюсенькая,*



*Хоць жа расточкам мала.*
*Ды з табой у раду стала.*

ЖЦ, 208: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г.
у в. Домжарыцы ад А. С. Кліманскай, 1891 г. н.

*Не ўцякай, дзядулечка,*
*Я твая зазюлечка.*
*Хоць жа я маленькая,*
*Ды з табой раўненькая,*
*Хоць жа я расточкам мала,*
*Ды з табой у раду стала.*

ЖЦ, 208: зап. В. Лазарчык і Н. Лайша у в. Ладасна ад Л. Мурашкі, 35 г.

*Не ўцякай, дзядулечка,*
*Я твая бабулечка.*
*Хоць жа ты ў снег, у снег,*
*За табой у след, у след.*
*Буду я Цярэшку жаніць,*
*Буду я дзядульку лавіць.*
*Не ўцякай, дзядулечка,*
*Я твая бабулечка.*
*Хоць жа я павалюся,*
*За табой паганюся.*

Зап. у 1993 г. Валодзіна Т. у в. Катоўшчына ад Чабатаровай П.Ц., 1918 г.н.

*Не ўцякай, дзядулечка,*
*Я твая бабулечка.*
*Хоць жа я спатыкнуся,*
*За дзедзькам паганюся.*
*Не ўцякай, мой дзедзечка,*
*Не ўцякай, лябедзечка.*

Зап. Валодзіна Т. у в.Залучына ад Царовай Р.Ц., 1922 г.н.

*Буду я Цярэшку жаніць,*
*Буду я дзядульку лавіць.*
*Хоць жа я ножачку зламлю,*
*Ды дзядульку я злаўлю.*

Зап. Валодзіна Т. у в. Курмялёўка ад Баранавай Я.Б., 1911 г.н.

*І не ўцікай, дзядулічка,*
*Я твая бабулічка.*
*Хоць жа я ножачку зламлю,*
*Я свайго дзядульку ўлаўлю.*
*Не ўцякай, дзядулічка,*
*Я твая бабулічка.*
*І пастаўлю красенцы ў кутку,*
*Я ж табе палатна натку.*
*Пашыю кашулячку*
*З чырвоным каўнерычкам,*
*Каб ты быў жаўнерычкам.*

ЖЦ, 209: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Чаросава ад М. М. Курбацкай, 1900 г. н.

*Не ўцякай, дзядулечка,*
*Я твая бабулечка.*
*Я ўжо замарылася,*
*Чуць не паваліласся.*
*І шэрая зязюлечка*
*Па саду паляцела,*
*Далі мне дзядулечку,*
*Якога я хацела.*

Зап. у 1999 г. Валодзіна Т. у в. Завідзічы ад Шуманскай А.П., 1917 г.н.

*А па ручаёчачку*
*Вадзіца сучылася,*
*Не ўцякай дзядулечка,*
*Я ўжо замарылася.*
*Не ўцякай дзядулька, здайся,*
*На другіх не заглядайся.*
*Другія з ума свядуць*
*І самі далей пайдуць.*

АПДУ: зап. у 2006 г. Захарэвіч А., Жолудзева П. у в. Задоры ад Папко С. М., 1934 г.н.

*Паіла коніка ў вядрэ,*
*Увідзіла дзядульку на дне.*
*Кінула коніка паіць,*
*Пабегла дзядульку лавіць.*



*Ні ўцякай, дзядулечка,*
*Ні ўцякай, зязюлечка,*
*А ці ж я не праллейка,*
*А ці ж я не ткаллейка?*
*Устану ранюсенька,*
*Напраду танюсенька,*
*Пастаўлю красенца ў кутку,*
*Я табе штонікі адатку*
*Тонкія, таненькія,*
*Белыя, бяленькія.*
*Ушыю гузік залаты,*
*Каб быў дзядулька малады.*

ЖЦ, 210-211: зап. Г. Лысак і Н. Асташка у в. Ладасна ад Ф. Кляшторнай, 69 г.

*Пайду я пабегаю,*
*Як рыбка па берагу.*
*Хоць жа я ножачку зламлю,*
*А дзядулечку злаўлю.*
*Пайстой, дзедка, у кутку,*
*Пакуль кросенцы вытку.*
*А я пашыю штонікі,*
*З красным каўнерчыкам,*
*Каб быў дзед жаўнерчыкам.*

АБДУ: зап. Клімчэня А. у в. Губіна ад Бяляк А.В.

*Хоць жа я ножачку зламлю.*
*Я свайго дзядульку злаўлю.*
*А дайся, дзедзька, здайся,*
*На другіх не заглядайся.*
*А ці я не ткальлейка,*
*А ці я не пральлейка.*
*Спраду я танюсенька,*
*Вытку я сьціпнюсенька.*
*Выбелю бялюсенька,*
*Пашыю сьціпнюсенька[2].*

Зап. у 2006 г. Валодзіна Т. у в. Губіна ад Барацэвіч Л.Л., 1912 г.н.

[2] «Сьціпна – эта ня будзець нідзе ніяк пралётаў. У тую машынку шыюць і пераскокі дзелаюцца».

*А здайся, мой дзедзька, здайся,*
*На другіх не заглядайся.*
*Я ж табе не вечная,*
*На вечар пацешная.*
*Мне з табой не век векаваць,*
*Адзін вечарок пагуляць.*

Зап. Валодзіна Т. у в.Дзяньгубы ад Маляўка В.А., 1932 г.н.

*Паддайся, дзедзька, паддайся,*
*На другіх ні заглідайся.*
*Чужая з ума звядзець,*
*А свая бліноў напячэць.*

ЖЦ, 216: зап. Г. А. Барташэвіч у 1976 г. у в.
Абярцы ад Е. А. Клімянцёнак, 1908 г. н.

*Ай, дзедзька, здайся, здайся,*
*На другіх не заглядайся.*
*Да другіх ня мей волі,*
*На мяне глядзі болей.*

АБДУ: зап. Цэдзік В. у в. Абярцы ад Загорскай Я.Л., 1913 г.н.

*Як пайду я каля саду*
*Дзядульку на дасаду.*
*Я ж яму наперад зайду,*
*Красны цвет у рукі даю:*
*«А здайся, дзедзька, здайся,*
*На другіх ні заглядайся,*
*А ці я не хатніца,*
*Ці я не работніца»?*

ЖЦ, 219: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г. у в. Домжарыцы
ад А. С. Кліманскай, 1891 г. н.:
АБДУ: зап. у 1983 г. Луцэнка Г. у в. Пераходцы ад Праліч В.М., 1902 г.н.

*Пайду я па гароду,*
*Па дзявоцкім карагоду,*
*Хустачкай махаючы,*
*Дзядулькі шукаючы.*



*Дзядулька, дайся, дайся,*
*На чужых ні заглядайся.*
*На сваю паглядзі болі,*
*Над чужой не маеш волі.*
*Чужая не лепшая,*
*Горшая, пушчэйшая.*

ЖЦ, 221: зап. К. У. Лемяза ў 1983 г.
у в. Пераходцы ад В. М. Праліч, 1902 г. н.

*А здайся, мой дзедзька, здайся,*
*На другіх не заглядайся.*
*Чужыя з ума звядуць,*
*Цябе ка мне не прывядуць.*

Зап. у 1997 г. Валодзіна Т.
у в. Атокі ад Скавародка К.Ц., 1912 г.н.

*А здайся, дзедзька, здайся,*
*На другіх не заглядайся.*
*Другія з ума звядуць,*
*Нам з табой разлуку дадуць.*

Зап. у 1994 г. Валодзіна Т. у в. Кабак ад Аўтух С.С., 1921 г.н.

*Ай, дзедзька, здайся, здайся,*
*Чужым не пападайся,*
*Чужыя з ума зводзюць,*
*Да цябе самі ходзюць.*

Зап. у 1997 г. Валодзіна Т.
у в. Зямцы ад Ладзік А.Я., 1926 г.н.

*На моры лябедзечка,*
*Іванька, мой дзедзечка.*
*Ай, дзедзька, здайся, здайся,*
*Чужым не пападайся,*
*Табе луччы не дадуць,*
*Толькі ў стыд увядуць.*

Зап. у 1997 г. Валодзіна Т.
у в. Бабча ад Раманавай Т.С., 1913 г.н.

*Здайся, мой дзедзька, здайся.*
*На другіх не заглядайся.*
*Другія ня луччыя,*
*Мы тожа ня хужшыя.*

Зап. у 1998 г. Валодзіна Т. у в. Забор'е ад Буртыль З.П., 1918 г.н. ;
АБДУ: зап. у 1990 г. Жарнасек Т. у в. Селішча ад Залатуха Т.Я., 1914 г.н.

*Здайся, дзядулька, здайся.*
*На чужых не заглядайся.*
*Чужыя ня лепшыя,*
*Горшыя, пусцейшыя.*

Зап. у 1995 г. Боганева А. у в.Пераходцы ад Махонь П.В.

*Як пайду я каля саду*
*Дзядульку на дасаду*
*Я ж яму наперад зайду,*
*Красны цвет у рукі даю.*
*А здайся, дзедзька, здайся,*
*На другіх не заглядайся.*
*А ці я не хатніца,*
*Ці я не работніца?*

ЖЦ, 221: зап. У. Свяжынскі у в. Малінаўка ад Е. Літвін, 60 г.

*А дайся, дзядулька, дайся,*
*На другіх не заглядайся!*
*А ці я не праллíка,*
*А ці я ткалліка?*
*Устану ранюсенька,*
*Напраду танюсенька,*
*Пастаўлю красёнцы ў кутку,*
*Табе кашульку адатку.*

ЖЦ, 221: зап. А.Лаўшук у в.Ладасна ад М.Лейчанкі, 60 г.;
АБДУ: зап. у в.Пышна ад Тарасевіч С.Р.

*Здайся, дзядулька, здайся,*
*На другіх не заглядайся!*
*Другія ня лучшыя,*



*А ёсць яшчэ і худшыя.*
*А ці я не праллíка,*
*А ці я ткалліка?*
*Устану ранюсенька,*
*Напраду танюсенька,*
*Пастаўлю красёнцы ў кутку,*
*Табе кашульку адатку.*
*На моры бялілася,*
*На вятру сушылася.*
*На гарэ качалася,*
*Дзядульку дасталася.*

АБДУ: зап. у 2001 г. Няфёдава Т. у в.
Лядна ад Тухта А.М., 1924 г.н.

*А здайся, дзядулька, здайся,*
*На лепшых не заглядайся!*
*А ці я не праллíйка,*
*А ці я ткаллíйка?*
*Пастаўлю кросенцы ў кутку,*
*Я табе штонікі вытку.*
*Тоненькі-танюсенькі,*
*З пальчыкам раўнюсенькі.*

АБДУ: зап. Буйвіла С. у в.
Зароўе ад Тарасевіч С.Р.

*Цярэшку цярэжыла,*
*На печы ня ўлежыла.*
*А чаху, чаху, чаху,*
*Што ў цябе ў мяху, у мяху.*
*Хоць і ножачку зламлю,*
*А дзядулечку злаўлю.*
*Пастаўлю кросенцы ў кутку,*
*Табе кашульку сатку,*
*Белую бяленькую,*
*Тонкую таненькую.*

Зап. у 1999 г. Валодзіна Т. у в. Зялёнка ад Вашук Г.А., 1918 г.н.

*А здайся, дзядулька, здайся,*
*На лепшых не заглядайся.*
*А ці я не праллейка,*
*А ці я не ткаллейка?*
*Устану ранюсенька,*
*Напраду танюсенька,*
*Асную красёнцы ў таку,*
*Пастаўлю на печы ў кутку,*
*Табе штонікі адатку*
*Тоненькі-танюсенькі,*
*Беленькі-бялюсенькі.*
*На моры бяліліся,*
*У лесе сушыліся,*
*У маглях качаліся,*
*Дзядульку дасталіся.*

ЖЦ, 222: зап. В. Ярош у в. Пышна.

*А дайся, дзядулька, дайся,*
*На другіх ні заглідайся,*
*А ці я не праллейка,*
*А ці я не ткаллейка?*
*Пастаўлю красенцы ў кутку*
*За цэлы гадочак вытку,*
*А свайму дзядулічку*
*Пашыю кашулічку.*
*Хоць жа я ножачку зламлю,*
*Я свайго дзядульку злаўлю.*
*Хоць жа я паналюся,*
*За дзядзькам паганюся.*

ЖЦ, 223: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Курмялёўка
ад К. М. Багданавай, 1917 г. н., І.Я. Б. Баранавай, 1911 г. н.

*Цярэшка — добрае дзела,*
*Далі мне добрага дзеда.*
*Можна з ім у пір ісці,*
*Можна з ім дома жыці:*
*Ў пір ійсці — нацешыцца,*
*Дома жыць — наглядзіцца.*

ЖЦ, 225: зап. В. М. Каламыцава у 1976 г. у в. Стаі Лепельскага р ад Т. С. Быкавай, 1911 г. н.



*Серая зязюлічка*
*Па саду кукавала,*
*Ўсю гэту нядзелічку*
*Дзядульку выбірала.*
*І ні кукуй, кукушачка,*
*Ні кукуй, шарэнькая,*
*Прыслалі мне навасці*
*Пра майго міленькага.*

ЖЦ, 226: зап. І.Дз. Назіна у 1985 г.
у в. Барсукі ад А. А. Пінчук, 1927 г. н.

*Дзевачкі, сястрыцы мае,*
*Рабілі вы хітра мне.*
*Я за вас хітрэйшая,*
*Выбрала вумнейшага,*
*За вашых красівейшага.*

**ЖЦ, 226: зап. Г. А. Барташэвіч у 1976 г.**
**у в. Абярцы ад Е. А. Клімянцёнак, 1908 г. н.**

*Дзевачкі, сястрыцы мае,*
*Нарайце дзядульку вы мне.*
*Мой дзедзька далёка відаць,*
*На руках пярсцёнкі бліщчаць.*
*На грудзях цэпачка з часоў,*
*Мой дзедзька гуляць пашоў.*

АБДУ: зап. Лысак Г. у в. Слабодка ад Солтан Г.А., 1908 г.н.;
АБДУ: зап. у 1983 г. Луцэнка Г. у в. Пераходцы ад Праліч В.М., 1902 г.н.

*Мой дзедзька далёка відаць,*
*На грудзях часікі бліщчаць.*
*Цэпачка з часоў, з часоў,*
*Мой дзедзька гуляць пашоў.*
*Боцікі скрыпучыя.*
*Падкоўкі звінючыя.*
*Кудры завіваюцца,*
*Дзеўкі заглядаюцца.*

Зап. Валодзіна Т. у в.Дзяньгубы ад Маляўка В.А., 1932 г.н.

*Мой дзедзька здалёку відаць:*
*На грудзях часы вісяць,*
*Цэпачка з часоў, з часоў,*
*Мой дзедзька гуляць пайшоў.*
*Боцікі скрыпучыя,*
*Падкоўкі звінючыя,*
*Кудры завіваюцца,*
*Дзеўкі заглядаюцца.*

АБДУ: зап. у 2001 г. Няфёдава Т. у в.Залучына ад Бельскай К.Дз., 1936 г.н.

*Мой дзедзька харош, харош,*
*На пана пахож, пахож.*
*Мой дзедзька ў шапачцы,*
*У чырвонай рубашачцы,*
*Кудры завіваюцца,*
*І дзевачкі чапляюцца.*

АБДУ: Зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г. у в. Домжарыцы ад Н.М. Кульбы, 1922 г. н.

*Мой дзядзька харош, харош,*
*На пана пахож, пахож:*
*Ходзіць у калошыках,*
*Залатых пры часіках.*
*Яго кудзёркі ўюцца,*
*За яго дзевачкі б'юцца,*
*Кудры развіваюцца,*
*Дзевачкі чапляюцца.*

ЖЦ, 233: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г. у в. Пераходцы ад П. В. Махонь, 1917 г. н.

*Мой дзядзька харош, харош,*
*На пана пахож, пахож.*
*Мядочык салодзенькі,*
*Дзядулька малодзінькі.*
*І на ім жа боцікі скрыпяць,*
*На яго дзевачкі глядзяць.*
*Кудры завіваюцца,*
*Дзеўкі загліdаюцца.*

ЖЦ, 233: зап А. Ф. Літвіновіч у 1989 г. у в. Рожна ад Е. П. Казікавай, 1910 г. н.



*Мой дзедзька харош, харош,*
*На пана пахож, пахож,*
*Кудры завіваюцца,*
*Дзеўкі заглядаюцца.*
*А я кудры атаўю,*
*А я дзевак атаб'ю.*

АБДУ: зап. у 1999 г. Марчанка Н. у в. Двор Суша ад Ладзік В.А., 1929 г.н.

*Мой дзедзька харош, харош,*
*На пана пахож, пахож.*
*На ім боцікі гараць,*
*На яго дзевачкі глядзяць.*

АБДУ: Зап. С. Галаўко у 1983 г. у в. Рожна ад Г. А. Юргі, 1914 г. н.

*Мой дзедзька харош, харош,*
*На пана пахож, пахож.*
*Дзядулька мой як піражок*
*Пацалуй бабульку разок.*

Зап. у 2010 г. Валодзіна Т. у в. Замошша ад Кандыбайла К.М., 1942 г.н.

*Пайду я каля саду,*
*Зламлю я вінаграду,*
*Вінаградзік сіненькі,*
*Дзядулька красівенькі.*

ЖЦ, 235: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г. у в. Рожна ад В. С. Давыдзенкі, 1920 г. н.

*Пайду я па гароду*
*У дзявоцкім карагоду,*
*Арэшкі лускаючы,*
*Дзядульку шукаючы.*
*Дзевачкі, сястрыцы мае,*
*Нарайце дзядульку вы мне.*
*Мой дзедзька далёка відаць:*
*На руках пярсцёнкі блішчаць,*
*На грудзях цэпачка з часоў —*
*Мой дзедзька гуляці пайшоў.*

ЖЦ, 240: зап. Н. Асташка і Г. Лысак у в. Слабодка ад Г. Салтан, 61 г.

*Пайду я дарогаю*
*Пайду я шырокаю,*
*Арэшкі лускаючы,*
*Дзядульку шукаючы.*
*Аж мой дзедзька ідзець,*
*Як селязенька плывець.*
*Боцікі скрыпяшчыя,*
*Падкоўкі звіняшчыя.*
*У беленькай рубашачцы.*
*У сіненькай фуражачцы.*
*Кудры завіваюцца,*
*Дзеўкі заглядаюцца.*
*А я кудры атаўю,*
*А я дзевак атаб'ю.*

АБДУ: зап. у 2001 г. Няфёдава Т. у в. Стараселле ад Кулько Н.В., 1928 г.н.

*Мой дзедзька далёка відаць:*
*На руках пярсцёнкі блішчаць,*
*На грудзях цэпачка з часоў —*
*Мой дзедзька гуляці пайшоў.*

*Пайду ж я па гародзе,*
*Як сонца па пагодзе.*
*На нагах боцікі блішчаць,*
*На руках пярсцёнкі блішчаць.*
*Людзі заўлякаюцца,*
*Хлопцы заглядаюцца.*

АБДУ: зап. у 1983 г. Лішка З.
у в. Барсукі ад Міргановіч М.М., 1910 г.н.

*Пайду я за ток глядзець,*
*Як там мой дзядулька арэць.*
*А конік мушаціўнкі,*
*Дзядулька багаціўнкі,*
*А конік вараненькі,*
*Дзядулька маладзенькі,*
*А конік пляснівінькі,*
*Дзядулька красівінькі,*



*А конік буланенькі,*
*Дзядулька ўдаленькі.*

ЖЦ, 242: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в.
Макараўшчына ад В.А.Варошкі, 1931 г. н.

*Пайду я на вулку глядзець,*
*Як жа мой дзядулька арэць.*
*Арэць мой дзядулька, арэць,*
*Сошачку з сабою бярэць.*
*Сошачка дубовая,*
*Пужачка пяньковая,*
*А конік вараненькі,*
*Мой дзедзька маладзенькі.*

ЖЦ, 242-243: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Матырына
ад Н.Б.Шынкевіч, 1912 г. н., і Л.Я. Мікулёнак, 1900 г. н.

*Пайду я праз тын глядзець,*
*Як мой дзядулька арэць.*
*Сошачка кляновая,*
*Гужыкі шаўковыя.*

Зап. у 2006 г. Валодзіна Т. у в. Губіна ад Барацэвіч Л. Л., 1912 г.н.

*Пайду я праз тын глядзець,*
*Як мой дзядулька арэць.*
*Сошачка яловая,*
*Упражка шаўковая.*
*Конік вараненькі,*
*Дзедзька маладзенькі.*
*Сошачка зламалася,*
*А ўпражка парвалася.*

АБДУ: зап. у 1983 г. Маркевіч В. у в. Домжарыцы ад Янкоўскай Г.В., 1935 г.н.:
АБДУ: зап. Шаўчук Т. у в. Пунішчы ад Крывец В.А.; Зап. у 2010 г. Валодзіна Т.
у в. Аношкі ад Крыцкай Л.К., 1930, г.н., Крыцкай Е.Я., 1927 г.н.,
Міргановіч З.П., 1937 г.н., жыхарак в.Окана.

*Пайду я праз тын глядзець,*
*Як мой дзядулька арэць.*

*Сошачка дубовая,*
*Падбрушша пяньковая.*
*Конічак вараненькі,*
*Дзядулька маладзенькі.*
*Сошачка зламалася.*
*Падбрушша парвалася.*
*Конічак умарыўся,*
*Дзялечка паваліўся.*

АБДУ: зап. у 1983 г. Лішка З. у в. Барсукі ад Міpановіч М.М., 1910 г.н.

*Пайду я праз тын глядзець,*
*Як мой дзядулька арэць.*
*А ён жа арэць-мігціць,*
*Паставіць коніка і спіць.*

Зап. у 1994 г. Валодзіна Т. у в. Уліцінкі ад Аўтух М.М., 1910 г.н.

*Пайду я на вулку глядзець,*
*Як мая бабулька прадзець.*
*Тоненька-танюсенька,*
*З пальчыкам раўнюсенька.*
*А прадзець-прадзець пыхціць,*
*Праснічку пад лаўку ды спіць.*

АБДУ: зап. у 1983 г. Маркевіч В. у в. Домжарыцы ад Янкоўскай Г.В., 1935 г.н.;
Зап. у 2010 г. Валодзіна Т. у в. Аношкі ад Крыцкай Л.К., 1930, г.н., Крыцкай Е.Я., 1927 г.н.,
Міpановіч З.П., 1937 г.н., жыхарак в.Окана.

*Цярэшка валочыцца,*
*Жаніцца ня хочацца.*
*Пайду я праз тын глядзець,*
*Як мая бабулька прадзець.*
*Тоненька-танюсенька,*
*З пальчыкам раўнюсенька.*

Зап. у 1995 г. Боганева А. у в. Кветча ад Хацкевіч У.В., 1912 г.н.

*Пайду я на ток, на ток,*
*Знайду там курэй куток,*
*Усе куркі чорныя,*



*Пітушка ніводнага.*
*Як пайшла я каля саду,*
*Нашла там курэй стаду.*
*Курачкі чубатыя.*
*Петушкі хахлатыя.*
*Ёсць у мяне рашато пер'я,*
*Куплю вам петушка-пеўня.*

Зап. у 1988 г. Скакун Т. у в. Суша ад Якута А.Р.

*Казалі, мой дзед нічога,*
*Насеіў пшаніцы многа.*
*Я гэту пшаніцу сажну,*
*Дзядульку пірог спяку.*

ЖЦ, 243: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у в. Рожна ад З. Я. Шацілы, 1932 г. н.

*Казалі, мой дзед нічога,*
*Насеяў пшанічкі многа.*
*Пайду я бога прасіць,*
*Каб памог снапкі насіць.*
*А я бога ні ўпрасіла,*
*Сама снапочкі панасіла.*

ЖЦ, 243: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ.
у 1989 г. у в. Кветча ад У. А. Хацкевіч, 1912 г. н.

*Казалі, мой дзедзька нічога,*
*Насеяў пшанічкі многа.*
*Пшанічка калосіцца,*
*За мной дзедзька носіцца.*

АБДУ: зап. у 1983 г. Кананенка Н.
у в. Домжарыцы ад Аўтушка В.Г., 1914 г.н.

*Казалі, мой татка нічога,*
*Пасеяў авяску нямнога.*
*Авясок калосіцца,*
*Мой татулька носіцца.*

АБДУ: зап. у 1983 г. Луцэнка Г.
у в. Пераходцы ад Праліч В.М., 1902 г.н.

*І паіў дзед каня ў вядрэ,*
*Улавіў рыбачку на дне.*
*Ах ты, рыбачка язёк,*
*Пацалуй, дзядулька, разок!*

ЖЦ, 247: зап. В. М. Каламыцава ў 1976 г.у в. Стаі ад Т. С. Быкавай, 1911 г. н.

*Цярэшка — святое дзела,*
*Далі мне сляпога дзеда,*
*Сляпога, нядужага,*
*Да дзевак дасужага.*

ЖЦ, 252: зап. Г. А. Барташэвіч і Л. П. Барабанава ў 1980 г. у в. Велеўшчына;
АБДУ: зап. у в. Барсукі ад Мірановіч М.М., 1910 г.н.

*На вакне рута зялёна,*
*Я з сваім дзедзькам няроўна:*
*Ен росту вышэйшага,*
*Гонару быстрэйшага,*
*Я росту ніжэйшага,*
*Гонару цішэйшага.*

ЖЦ, 254: зап. А. Лаўшук у в. Ладасна ад М. Лейчанка, 60 г.

*Паставілі рутачку на 'кне,*
*Далі дзядуньку не па мне.*
*Прыміце рутачку з акна,*
*Дайце мне дзеда, як я:*
*Трошачкі вышэйшага,*
*За мяне ладнейшага.*

ЖЦ, 254: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г. у в. Кветча ад Л. Ц. Хацкевіч, 1910 г. н.

*Пастаўлю я й кубак на 'кне,*
*Няровін дзядулька ка мне:*
*І росту ніжэйшага,*
*Гонару цішэйшага.*
*Прыміце вы кубачка са 'кна,*
*Няровін дзядулька, як я:*
*Я й росту вышэйшага,*
*Гонару хварсейшага.*

ЖЦ, 254-255: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Чаросава ад Г. Ф. Ладзік, 1910 г. н.



*Пайду я ў лавачку,*
*Куплю воску баначку.*
*Хай мілы памажацца*
*І ка мне не вяжацца.*

АБДУ: зап. у в. Пышна ад Тарасевіч С.Р.

*На гарэ пшаніца, не авёс,*
*Чаму ты мой дзядулька ня рос?*
*Ці цябе дожджык ні паліваў,*
*Ці цябе татулька пракляў?*

ЖЦ, 259: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г.
у в. Пераходцы ад В. Р. Аўтушкі, 1913 г. н.;
АБДУ: зап. у в. Рожна ад Юрга Г.А.

*Мой дзядулька галыш, галыш,*
*Грошы ні капеечкі,*
*Ня купіць гарэлачкі,*
*Прадась карову, каня,*
*Купіць гарэлкі, віна.*

АБДПУ: зап. у 2003 г. Шаўчонак Н.
у в.Заглінкі ад Лук'янавай З.І., 1931 г.н.

*Цярэшка цярэх, цярэх,*
*Мой дзедзька з арэх, з арэх.*
*Ня ўмеіць Цярэшкі жаніць,*
*Ня ўмеіць бабулькі лавіць.*

ЖЦ, 259: зап. В. М. Каламыцава у 1976 г.у в. Пышна
ад М. 1. Размысловіч і Э. А. Жарнасек; зап. у 2006 г. Валодзіна Т.
у в. Валова Гара ад Кульба Я.В., 1913 г.н.

*Цярэшка цярэх, цярэх,*
*Далі мне да дзеда з арэх.*
*Ня ўмеў ён Цярэшку жаніць,*
*Ня ўмеў ён бабульку лавіць.*

ЖЦ, 259: зап. І. Дз. Назіна ў 1985 г.
у в. Велеўшчына ад В. Ф. Кульпы, 1924 г. н.

*Цярэшка цярэх, цярэх,*
*Далі мне дзядульку з арэх,*
*Па зямлі качаецца,*
*За падол хватаецца.*

АБДУ: зап. у в.Барсукі ад Гардзіёнак Н.У., 1925 г.н.

*Цярэшка цярэх, цярэх,*
*Галава з арэх,*
*А вочы па яблыку.*

Зап. у 1993 г. Валодзіна Т. у в. Стаі ад Быкавай Т.С., 1911 г.н.

*Нечым, дзядулька, пафарсіць,*
*Ня ўмееш пожні касіць.*
*Беленька адзяваешся,*
*Па цяньках хаваешся.*

АБДУ: зап. у в.Барсукі ад Гардзіёнак І.У., 1925 г.н.

*Дзядулька мой як бычок,*
*Падкаціся ка мне пад бачок.*
*Падкаціўся б к табе ўдвайне,*
*Толькі дай мне што ёсь у цябе.*

Зап. у 2010 г. Валодзіна Т. у в. Аношкі ад Крыцкай Л.К., 1930, г.н.,
Крыцкай Е.Я., 1927 г.н., Міранові З.П., 1937 г.н., жыхарак в.Окана.

*Я пайду праз тын глядзець,*
*Як мой дзед вяровачкі ўець.*
*Уець вяровачкі, пыхціць,*
*Паложыць галоўку ды й спіць.*

ЖЦ, 263: зап. С. Галаўко у 1983 г. у в. Рожна ад Г. А. Юргі, 1914 г. н.

*Я пайду цераз тын глядзець,*
*Як мой дзед аборкі ўець.*
*Уець аборачкі, пыхціць,*
*Паложыць ручачкі ды спіць.*

АБДУ: Зап. у 1983 г. у в. Домжарыцы ад Аўтушка В.Г., 1914 г. н.



*Пайду я праз тын глядзець,*
*Як мой дзедка аборкі ўець.*
*Тоненька, танюсенька,*
*Як пальчык, раўнюсенька.*

ЖЦ, 263: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г.
у в. Пераходцы ад П. В. Махонь, 1917 г. н.

*Пад кутам, пад кутнічкам*
*Далі мне паскудніčка.*
*Нет мне з ім Цярэшку жаніць,*
*Нет мне яго ў вадзе тапіць.*

ЖЦ, 264: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1988 г.
у в. Кветча ад Л. Ц. Хацкевіч, 1910 г. н.

*Цярэшка — святое дзела,*
*Далі мне сляпога дзеда,*
*Ня ўмеіць Цярэшку жаніць,*
*Ня ўмеіць бабульку лавіць.*

ЖЦ, 266: зап. З. Я. Мажэйка у 1971 г. у в. Аношкі
ад С.І. Гарбачовай, 1904 г. н., Г. І. Крывец, 1910 г. н., З. П. Прускай, 1910 г. н.,
Т. П. Прускай, 1911 г. н., М. С. Прускага, 1907 г. н.

*Цярэшка — святое дзела,*
*Далі мне сляпога дзеда,*
*А ці мне з ім Цярэшку жаніць,*
*А ці мне яго іці тапіць.*

АБДПУ: зап. у 2004 г. Гурко М. у в. Жарсцвянікі ад Дзівінай В.І., 1935 г.н.;
зап. у 2010 г. Валодзіна Т. у в. Аношкі ад Крыцкай Л.К., 1930, г.н.,
Крыцкай Е.Я., 1927 г.н., Міранові З.П., 1937 г.н., жыхарак в.Окана.

*Цярэшка — добрае дзела,*
*Далі мне старога дзеда,*
*Ня ўмеець Цярэшку жаніць,*
*Ня ўмее бабульку лавіць.*

ЖЦ, 668: зап І.Дз.Назіна у 1985 г.
у в. Велеўшчына ад В. Ф. Кулыпы, 1924 г. н.

*З-пад ганку, з-пад ганачку*
*Далі мне цыганачку.*
*Не знаю, што рабіці,*
*Ці кідаць, ці ладзіці.*

Зап. у 1995 г. Боганева А. у в. Кветча ад Хацкевіч У.В., 1912 г.н.

*Ай бяда мая, бяда,*
*Далі мне старога дзяда.*
*Не знаю, што рабіці,*
*Ці кідаці, ці лавіці.*
*Ай бяда мая, бяда,*
*Ці пад печ садзіці,*
*Ці лаву падперці.*

АБДУ: зап. у в.Домжарыцы ад Ціханавец К.М., 1911 г.н.

*Божа мой, вяліка біда,*
*Далі мне старога дзіда,*
*Старога і сівага,*
*Дужа ж нікрасівага.*

ЖЦ, 266: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Курмялёука ад Я. С. Вішнеўскай, 1941 г. н.

*Ай біда мая, біда,*
*Далі мне старога дзіда.*
*Старога старлівага,*
*Худога журлівага.*

Зап. у 1997 г. Валодзіна Т. у в. Зямцы ад Ладзік А.Я., 1926 г.н.

*Божа ж мой, вяліка бяда,*
*Далі мне старога дзяда,*
*Старога, нягожага,*
*Дужа непрыгожага.*
*А ні з ім у пір пайсці,*
*А ні з ім дома быці,*
*У пір пайсці — сварыціся,*
*Дома быць — пабіціся.*

ЖЦ, 269: зап. у в. Пышна ад І. Жарнасек; зап. у 1995 г. Боганева А.
у в. Валова Гара ад Крыцкай Н.П., 1928 г.н., і Крыцкага М.І., 1928 г.н.;
АБДПУ: зап. І.Жарнасек у в. Селішча ад Жарнасек В.М., 1928 г.н.



*Ой, беда мая, беда,*
*Далі мне старога дзеда.*
*Старога, старлівага,*
*Ай, дужа ўпірлівага.*
*А ні з ім у пір пайсці,*
*Ані дома пакінуці.*
*У пір пайсці — сварыціся,*
*Дома быць — пабіціся.*

Зап. Валодзіна Т. у в.Дзяньгубы ад Маляўка В.А., 1932 г.н.;
АБДПУ: зап. Александровіч Т. у в.Юркоўшчына ад Барадзейка Г.Ф., 1924 г.н.;
АБДУ: зап. у 1999 г. Марчанка Н. у в. Двор Суша ад Ладзік В.А., 1929 г.н.

*Ай, біда мая, біда,*
*Далі мне старога дзіда,*
*Старога, сварлівага,*
*Сляпога, журлівага.*
*Ні мне з ім у пір пайсці,*
*Ні мне з ім дома быці,*
*У пір пайсці — сварыцісі,*
*Дома быць — пабіцісі.*

ЖЦ, 269: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Чаросава ад Г. Ф. Ладзік, 1910 г. н.;
Зап. у 1993 г. Валодзіна Т. у в. Катоўшчына ад Чабатаровай П.Ц, 1926 г.н.

*Ай бяда мая, бяда,*
*Далі мне старога дзеда.*
*Старога-старлівага*
*Ды дужа журлівага.*
*А ўзыйдзі, зорачка, рана,*
*Каб была ночачка мала.*
*А ўжо мне ночка надаела,*
*З нялюбым дзедам сядзела.*
*Ні з ім пасядзеннейка,*
*Ні з ім пагуканнейка.*
*А ні з ім у пір пайсці,*
*А ні з ім дома быці.*
*У пір пайсці — сварыціся,*
*Дома быць — пабіціся.*
*Нашто ж мне такі дурніца,*

*Калі ён усіх баіцца.*
*Я яго пацалаваць,*
*А ён ад мяне ўцякаць.*
*У ўзыйдзі зорка рана,*
*Каб была ночка мала,*
*А ўжо ж мне ночка надаела,*
*З нялюбым дзедам сядзела.*
*Ні з ім пасяддзеннейка,*
*Ні з ім пагуляннейка.*

АБДУ: зап. Клімчэня А. у в. Ладасна ад Галай П.В.

*Ой, біда мая, біда,*
*Далі мне старога дзіда.*
*А ні з ім у пір ісці,*
*А ні з ім дома быці,*
*У пір ісці — сварыцісі,*
*Дома быць — пабіцісі.*

ЖЦ, 269: зап. Л. М. Салавей у 1976 г.у в. Курмялёука
ад К. М. Багданавай, 1917 г. н., і Я. Б. Баранавай, 1911 г. н.

*Цярэшка — святое дзела,*
*Далі мне старога дзеда.*
*Ня ўмеіць па хаці хадзіць,*
*Ня ўмеіць бабульку вадзіць.*
*А я і пабегаю,*
*Як рыбка па берагу,*
*А я й пагуляю,*
*Як рыбка па Дунаю.*

ЖЦ, 272: зап. А. Ф. Літвіновіч з групай студ. у 1989 г. у в. Барсукі ад Г. А. Фраловай, 1920 г. н.

*На вакне ружачка цвіла,*
*Манечка ад мамкі ўцякла.*
*Цяпер Манечка пабегаіць,*
*Як рыбка па берагу,*
*Цяпер Манечка пагуляець,*
*Як рыбка па Дунаю.*

АБДУ: зап. у 1983 г. Луцэнка Г. у в. Пераходцы ад Праліч В.М., 1902 г.н.



*На вакне рутачка цвіла,*
*Я ад свайго дзядулькі ўцякла.*
*Цяпер я пабегаю,*
*Як рыбка па берагу,*
*Цяпер я й пагуляю,*
*Як рыбка па Дунаю.*

АБДУ: зап. Шаўчук Т. у в. Пунішчы ад Крывец В.А.

*Цярэшка цярэжанька,*
*Цераз мой двор сцежанька,*
*Бітая, таптаная.*
*Я ў мамкі каханая.*

Зап. у 1997 г. Валодзіна Т. у в. Курмялёўка ад Баранавай Я.Б., 1911 г.н.;
зап. А.Глушко ў в. Сялец ад Яніны Чарнухі; АБДУ: зап. у в.Барсукі ад Гардзёнак І.У., 1925 г.н.;
АБДПУ: зап. у 1999 г. Барадзёнак А. у в.Стаі ад Смажэўскай М.Г., 1930 г.н.;
АБДПУ: зап. І.Жарнасек у в. Селішча ад Жарнасек В.М., 1928 г.н.

*Цярэшка цярэшачка,*
*Цераз мой двор сцежачка,*
*Бітая, таптаная.*
*Я ў мамкі каханая.*
*А хто гэту сцежачку таптаў?*
*Таптаў сцежачку Іванька.*
*Да Анечкі ходзячы,*
*Цярэшку просячы.*

АБДУ: зап. у 2001 г. Няфёдава Т. у в. Стараселле ад Кулько Н.В., 1928 г.н.;
зап. у 2010 г. Валодзіна Т. у в. Аношкі ад Крыцкай Л.К., 1930, г.н.,
Крыцкай Е.Я., 1927 г.н., Міpановіч З.П., 1937 г.н., жыхарак в.Окана.

*Цярэшка цярэшачка,*
*Цераз мой двор сцежачка,*
*Бітая, таптаная.*
*Я ў мамкі каханая.*
*Па гэтай сцежачцы ішла,*
*Калбасу дзеду нясла.*

АБДУ: зап. у в. Барсукі ад Міpановіч М.М., 1910 г.н.

*Цярэшка цярэжачка,*
*Цераз мой двор сцежачка,*
*Бітая, таптаная.*
*Я ў мамкі каханая.*
*Сем гадоў кахалася,*
*Харошаму асталася.*
*Харошы ляжыць як калода,*
*А я за ім як ягода.*

Зап. у 1998 г. Валодзіна Т. у в. Забор'е ад Буртыль З.П., 1918 г.н.

*Цярэшка цярэшачка,*
*Цераз мой двор сцежачка,*
*Бітая, таптаная.*
*Я ў мамкі каханая.*
*Сем гадоў кахалася,*
*Нялюбаму асталася.*
*Нялюб ляжыць як калода,*
*А я за ім як нягода.*

АБДУ: зап. у в. Валова Гара ад Крыцкай Н.Р., 1924 г.н.

*Мой жа ты дзядун, дзядун,*
*Каб цябе забіў пярун, пярун.*
*Перуна я не баюся,*
*За бабульку схаваюся.*

АСЭТ: зап. З.Канаплянікаў у в. Дворышча ад Буяк В.С., 1912 г.н.

*Цярэшкі капут, капут,*
*Садзіцесь на кут, на кут.*
*Місачкі з талеркамі,*
*Мальчыкі з паненкамі.*

Зап. Валодзіна Т. у в.Залучына ад Царовай Р.Ц., 1922 г.н.



## ПЕСНІ, ШТО СПЯВАЛІСЯ ЗА СТАЛОМ

*Ішла свіння па ляду,*
*Рассыпала каляду.*
*Ты, Танічка, ні гуляй,*
*Ты калёдку пазбірай,*
*Ды на прыпечку пасушы,*
*І з Валодзькам паясі.*

ЖЦ, 273: зап. В. М. Каламыцава ў 1976 г. у в. Стаі ад Т. С. Быкавай, 1911 г. н.

*Йшла свіння па ляду,*
*Рассыпала каляду.*
*Ты, Маруся, ні гуляй,*
*Йдзі каляду пазбірай.*
*Жытнінькаю ў раточак,*
*Пшонннінькаю ў платочак.*

ЖЦ, 273: зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Камень ад М. Е. Баранавай, 1915 г. н.

# ЦЯРЭШКА

*(в. Велеўшчына, Лепельскі раён)*

Па звестках непасрэдных выканаўцаў, «Цярэшку» гуляе неабмежаваная колькасць пар — «колькі набярэцца». Перад тым, як распачаць «Цярэшку», сярод гульцоў выбіраюць «Бацьку» і «Маці» — па-мастацку адораных выканаўцаў, якія добра ведаюць мясцовую традыцыю, надзеленыя адметнымі арганізацыйнымі і імправізацыйнымі здольнасцямі. Ім надаецца права «жаніць дзяцей».

## Апісанне кампазіцыі

Дамовіўшыся, хто з кім будзе ў пары, гульцы адвольна становяцца ў дзве шарэнгі: хлопцы — з аднаго боку танцавальнай пляцоўкі, дзяўчаты — з другога, але так, каб партнёры аказаліся насупраць адзін аднаго[3].

«Бацька» і «Маці» (дзяўчына з правага боку хлопца) становяцца паміж шарэнгамі па восевай лініі — крыху далей ад лініі першых у шарэнзе выканаўцаў, так, каб адначасова было бачна ўсіх гульцоў.

[3] Часам бывае і так, што “Маці” злучае дзяўчат і хлопцаў у пару адвольна – “на свой погляд, выкарыстоўваючы сваё права як Маці”, і не абавязкова ў той чарговасці, як стаяць удзельнікі “Жаніцьбы Цярэшкі” ў шарэнгах. Некаторыя гульцы, ведаючы, хто будзе выконваць ролю “’Маці”, загадзя дамаўляюцца з ёю, каб “ажаніла”, паставіла ў пару з тым ці іншым хлопцам або дзяўчынай (незалежна ў якім месцы яны стаяць). Ёсць багата прыкладаў, што хлопец і дзяўчына, якіх “пажаніла”’ “Маці” падчас “Цярэшкі”, становяцца ў далейшым, у жыцці, мужам і жонкай. Адметна і тое, што хлопец і дзяўчына, якіх “пажанілі” “бацькі” (магчыма і не зусім па іх жаданню, але адмоўных эмоцый вонкава яны ніяк не праяўляюць), маюць быць на працягу ўсёй вечарыны – у танцах і гульнях – разам.



## Калена першае




Мал. 1

### *Фігура першая*

«Маці». У нас ёсць Бацька (паказвае рукамі на свайго партнёра, павярнуўшы корпус і галаву ў яго бок). Я — Маці. Цяпер будзем жаніць сваіх дзяцей (рухі рук, корпуса і галавы адвольныя).

Узяўшыся пад правыя, сагнутыя ў локці, рукі (рука дзяўчыны знізу), «Бацька» і «Маці» «простым крокам» (рух № 1) рухаюцца ўздоўж шарэнг па колу супраць руху сонца (мал. 1). «Маці» адначасова спявае[4]:




*Божа мой, галоўка баліць.*
*Як мне дзетачак пажаніць?*
*А якую раду браць?*
*Дзетачкам парадак даць?*

*Будзем жа піво варыць,*
*Будзем жа сыноў жаніць,*
*Будзем жа гарэлачку гнаць,*
*Будзем жа дачок аддаваць.*

*Наташка*[5]*, дачушачка,*
*Іванька, сынулечка.*
*Вот іхняя парачка,*
*Ім гарэлкі чарачка.*

[4] Акампанемент (гармошчаны найгрыш) адпавядае мелодыі і рытмічнай структуры напеву.

[5] Тут і далей імёны дзяўчат і хлопцаў маюць быць рознымі. Называюцца імены ўдзельнікаў «Цярэшкі» ў той паслядоўнасці, у якой яны стаяць у шарэнгах, або ў тым парадку, які назначае сама «Маці».


Мал. 2

На 3-ю страфу «бацькі» звяртаюцца да першых у шарэнзе дзяўчыны і хлопца (у дадзеным выпадку гэта — Наташка і Іванька). «Бацька» бярэ за руку «дачку», «Маці» — «сына», і зводзяць іх разам (мал. 2). Такім чынам, утварыўшы пару, пажанілі маладых.

Як толькі «Маці» завяршае спяваць, музыка[6] адразу ж, без паўзы, уключаецца ў дзею. Ён у хуткім тэмпе іграе традыцыйную мелодыю на-роднага танца «Лявоніха».

Жанатыя хлопец і дзяўчына (салісты) адразу ж пускаюцца ў скокі.

*Фігура другая — «Лявоніха»*

*(Музычнае суправаджэнне — 24 такты)*




[6] Музыкант. які пастаянна перыядычна на працягу калена ўключаецца ў дзею, у асноўным уласна вызначае працягласць танца салістаў. Калі саліруюць адметныя танцоры, то тон у танцы часам задаюць яны. Але ў першым і другім выпадках «актывісты», па вызначэнню інфарматараў, «не вельмі перабольшваюць часам».





*Танец салістаў:*

1—6-ы такты Салісты — Наташка і Іванька, узяўшыся пад правыя сагнутыя ў локці рукі, «крокам полькі з рухам наперад» (рух № 2) паварочваюцца на месцы вакол сваёй восі па руху сонца (мал. 3). На апошні такт прасоўванне наперад запавольваюць. 7—12-ы такты Змяніўшы рукі — правыя на левыя, у той жа паставе «крокам полькі з рухам наперад» паварочваюцца вакол сваёй восі супраць руху сонца. 13—18-ы такты паўтараюць рухі 1—6-га тактаў. 19—24-ы такты Павярнуўшыся тварам у бок адной з шарэнг (у даным выпадку ў бок шарэнгі дзяўчат), салісты бяруцца за рукі (хлопец правай рукой за левую руку дзяўчыны) і, адвольна прытанцоўваючы, разам рухаюцца на першапачатковае месца дзяўчыны (мал. 4). У канцы мелодыі паварочваюцца тварам у сярэдзіну пляцоўкі.

*Танец «бацькоў»:*

1—21-ы такты «Бацькі» адвольна адыходзяць назад і па-свойму рэагуюць — «назіраюць» за танцуючымі «дзецьмі», якія выконваюць сваё сола.


Мал. 3


Мал. 4

<u>22—24-ы такты</u> Прапусціўшы паперадзе сябе «дзяцей» (1-ю пару), «простым крокам» у такт музыкі рухаюцца ў розныя бакі да наступных «дзяцей» (мал. 4).

Хлопцы і дзяўчаты, што стаяць у шарэнгах, на працягу танца салістаў, падахвочваючы танцуючых, у такт музыкі адвольна пляскаюць у ладкі (рухі № 3 і 4).

## Фігура трэцяя

Як толькі музыка спыняе ігру, «Маці» адразу ж пачынае спяваць:

*Анічка, дачушачка,*
*Колічка, сынулічка.*
*А іх роўна парачка,*
*Ім гарэлкі чарачка.*

«*Маці*» падчас спеваў паварочваецца ў бок 2-й дзяўчыны і звяртаецца да яе (1-ы радок; рухі адвольныя). Затым паварочваецца да хлопца і рухаецца да яго (2-і радок), пасля бярэ пад руку і вядзе насустрач дзяўчыне (3-і і 4-ы радкі).

*«Бацька»* на працягу спеваў «Маці» размерана падыходзіць да 2-й дзяўчыны і, узяўшы яе за руку і абняўшы за талію, вядзе да кавалера.

Хлопцы і дзяўчаты ў шарэнгах адвольна рэагуюць на тое, што адбываецца.

## Фігура чацвёртая – «Лявоніха»

*(Музычнае суправаджэнне — мелодыя паўтараецца спачатку; 18 тактаў)*

*«Бацькі»* адвольна адыходзяць назад, а затым уключаюцца ў гуртавыя спевы, пляскаюць у ладкі і перыядычна прытупваюць (часцей — «Бацька»).

*Гурт* — хлопцы і дзяўчаты ў шарэнгах, адвольна прытупваючы на месцы і пляскаючы ў такт у ладкі (рух № 3), спяваюць прыпеўку:

*А Лявон Лявоніху палюбіў,*
*Чаравічкі ён ёй купіў.*
*Лявоніха — душа ласкавая*
*Чаравічкамі пацясківае.*



«Пажэненыя» хлопец і дзяўчына — салісты пад акампанемент гармоніка і спеваў гурта імправізуюць свой танец.

*Танец салістаў:*

<u>1-3-і такты</u> Узяўшыся пад сагнутыя ў локці левыя рукі, «акцэнтаваным бегам трушком» (рух № 5) дынамічна паварочваюцца на месцы вакол сваёй восі супраць руху сонца (мал. 5).



Мал. 5

<u>4-6-ы такты</u> Узяўшыся пад правыя рукі, сагнутыя ў локці, салісты «акцэнтаваным бегам трушком» паварочваюцца на месцы па руху сонца.

<u>7-9-ы такты</u> Паўтараюцца рухі 1—3-га тактаў.

<u>10—12-ы такты</u> Паўтараюцца рухі 4—6-га тактаў.

<u>13—18-ы такты</u> Раз'яднаўшы рукі, салісты паасобку «крокам полькі з рухам наперад» прасоўваюцца ў бок шарэнгі хлопцаў, адначасова адвольна паварочваючыся вакол сябе. Падчас прасоўвання наперад і паваротаў вакол сябе рукі ўзняты ўгору; локці паўсагнутыя, кісці ненапружаныя.

Далей дзею ізноў працягваюць «Бацькі». Яны, такім чынам, паслядоўна «перажэньваюць» усіх астатніх удзельнікаў «Цярэшкі», кожны раз называючы ў сваіх прыпеўках новыя імёны хлопцаў і дзяўчат:

*Надзічка, дачушачка,*
*Колічка, сынулічка.*
*Іх роўная парачка,*
*Ім гарэлкі чарачка.*

*Нінaчка, дачушачка*
*Сяргейка, сынулечка.*
*А іх роўная парачка,*
*Ім гарэлкі чарачка.*

Хлопцы і дзяўчаты, «перажаніўшыся», пад мелодыю «Лявоніхі» па чарзе, у вызначаным «Маці» парадку, саліруюць — імправізуюць свой танец. Асноўным кампанентам харэаграфічнай імправізацыі кожнай пары маюць быць павароты на месцы, то па сонцу, то супраць руху сонца (колькасць тактаў адвольная). Падчас паваротаў

выканаўцы трымаюцца то пад правыя, то пад левыя сагнутыя ў локцях рукі. Сярод рухаў ног часцей выконваюцца «просты бег трушком» (рух № 6) і «крок полькі з рухам наперад».

У час, калі танцуюць-салiруюць «жанатыя» пары, хлопцы і дзяўчаты, што стаяць на лініях, спяваюць розныя прыпеўкі пад «Лявоніху» (гл. у канцы 2-га калена).

Працягласць сольнай партыі займае ў асноўным ад 12 да 24 тактаў. Бывае, што танец салістаў выконваецца і на большую колькасць тактаў.

Хлопцы і дзяўчаты, выканаўшы сола, становяцца парай на адну з шарэнгаў, раўнамерна запаўняючы «прагаліны».

Колькасць фігур у першым калене залежыць ад колькасці пар.

## Калена другое – «Агульны танец»

*(Выконваецца пад інструментальны найгрыш танца «Лявоніха», а таксама перыядычна з адначасовымі спевамі прыпевак).*

### Фігура першая

*(Колькасць тактаў рухомая)*

«Бацькі», злучыўшы ў пару апошніх хлопца і дзяўчыну, адразу ж, без паўзы распачынаюць уласна танец «Лявоніха».

1-3-і такты Узяўшыся пад сагнутыя ў локці правыя рукі, «Бацька» і «Маці» «простым бегам-трушком» актыўна паварочваюцца на месцы (мал. 5). Хлопцы і дзяўчаты ў шарэнгах адвольна прытанцоўваюць на месцы і пляскаюць у ладкі, эмацыянальна падахвочваючы «бацькоў».

4—6-ы такты Пакінуўшы «Бацьку» на месцы, «Маці» тым жа рухам бяжыць да хлопца пары (6-й), якая «пажэнена» апошняй (мал. 5). Узяўшыся пад левыя, сагнутыя ў локці рукі і хутка павярнуўшыся з ім на месцы супраць руху сонца, пакідае яго і бяжыць да свайго партнёра (мал. 223 і 224). Хлопцы і дзяўчаты ў шарэнгах працягваюць адвольна прытанцоўваць на месцы.

7—9-ы такты «Маці», узяўшыся з «Бацькам» пад сагнутыя ў локці правыя рукі, «простым бегам-трушком» разам паварочваюцца на месцы вакол сваёй восі. Затым, пакінуўшы партнёра, «Маці» тым жа





Мал. 6



Мал. 7



Мал. 8



Мал. 9

рухам бяжыць (9-ы такт) да дзяўчыны передапошняй «пажэненай» пары (у даным выпадку 5-й; мал. 7).

Хлопцы і дзяўчаты ў шарэнгах адвольна прыганцоўваюць на месцы.

10—12-ы такты Узяўшыся пад левыя сагнутыя ў локці рукі, танцоркі «простым бегам-трушком» актыўна паварочваюцца на месцы, а затым «Маці», пакінуўшы 5-ю дзяўчыну, бяжыць да свайго партнёра.

«Бацька», прытанцоўваючы, крыху прасоўваецца ў бок першых пар.

Хлопцы і дзяўчаты ў шарэнгах адвольна прытанцоўваюць на месны.

Пратанцаваўшы з «Бацькам», «Маці» танцуе (паварочваецца, узяўшыся пад сагнутыя ў локці рукі) з 6-й дзяўчынай (мал. 8), пасля ізноў з са сваім партнёрам, затым з 5-м хлопцам і гэтак далей. Такім

чынам, «Маці» перытанцоўвае з усімі удзельнікамі «Цярэшкі», папераменна паварочваючыся то з «Бацькам» (пад правыя рукі), то з дзяўчатамі і хлопцамі (пад левыя рукі), паслядоўна перабягаючы ад адной шарэнгі да другой.

Як толькі «Маці» пратанцуе з апошнім удзельнікам «Цярэшкі» — кавалерам першай пары, а пасля, вярнуўшыся да свайго партнёра — «Бацькі», пакруціцца з ім (узяўшыся пад сагнутыя ў локці правыя рукі), завяршаецца першая фігура другога калена.

Падчас выканання танца спяваюцца розныя прыпеўкі.

## Фігура другая

*(Музычнае суправаджэнне — мелодыя паўтараецца спачатку два разы; 24 такты)*

Пасля завяршэння першай фігуры музыка, не спыняючыся, працягвае іграць далей..

<u>1 — 12-ы такты</u> Павярнуўшыся направа і злучыўшы ўнізе рукі, усе танцоры, у тым ліку і «Бацькі», «крокам полькі з рухам наперад», а некаторыя — «простым бегам трушком» прасоўваюцца па колу супраць руху сонца (мал. 9). У канцы мелодыі крыху запавольваюць прасоўванне наперад.

<u>13 — 24-ы такты</u> Павярнуўшыся налева і не раз'ядноўваючы рук, танцоры, адвольна выконваючы папярэднія рухі, прасоўваюцца па колу па ходу сонца.

## Фігура трэцяя

*(Музычнае суправаджэнне — мелодыя паўтараецца спачатку; 12 тактаў)*



Мал. 10

<u>1 — 3-і такты</u> Павярнуўшыся тварам у сярэдзіну і нераз'ядноўваючы рук, танцоры «крокам полькі з рухам наперад» (некаторыя — «па-дэ-баскам з рухам наперад», рух № 7) прасоўваюцца да цэнтра кола (мал. 10).

<u>4 — 6-ы такты</u> Захоўваючы паставу рук, танцоры «крокам полькі з рухам назад» (рух № 8) пашыраюць кола, вяртаючыся на свае папярэднія месцы (мал. 228).

<u>7 — 9-ы такты</u> Паўтараюцца рухі 1 — 3-га тактаў.

<u>10-12-ы такты</u> Паўтараюцца рухі 7 — 9-га тактаў.

Па заканчэнні 3-й фігуры музыка, не спыняючыся, працягвае іграць далей.

## Фігура чацвёртая

*(Музычнае суправаджэнне — мелодыя паўтараецца спачатку; колькасць тактаў неабмежаваная)*

<u>1 — 12-ы такты</u> Хлопцы і дзяўчаты, захоўваючы кола, на працягу ўсёй мелодыі адвольна прытанцоўваюць на месцы і пляскаюць у ладкі.

<u>На 1 — 6-ы такты</u> «Бацька» і «Маці», узяўшыся пад сагнутыя ў локцях левыя рукі, «бегам трушком» актыўна круцяцца вакол сваёй восі супраць руху сонца і адначасова прасоўваюцца да цэнтра кола (мал. 229).

<u>На 7 — 9-ы такты</u> «Бацька» застаецца на месцы, а «Маці» «простым бегам трушком» імчыцца да партнёркі 2-й пары. Узяўшыся пад сагнутыя ў локці правыя рукі і павярнуўшыся з ёй на месцы па руху сонца, бяжыць да свайго партнёра (мал. 230).

<u>На 10 — 12-ы такты</u> «Маці», узяўшыся з «Бацькам» пад сагнутыя ў локці левыя рукі, «простым бегам трушком» паварочваюцца вакол сваёй восі супраць руху сонца. Затым, пакінуўшы яго на месцы, накіроўваецца да партнёра 1-й пары.

<u>13 — 18-ы такты</u> Узяўшыся з кавалерам 1-й пары пад сагнутыя ў локці правыя такты рукі, «Маці» паварочваецца з ім на месцы: на 13 — 15-ы такты разам выконваюць «крок полькі»; на 16 — 17-ы такты — «просты бег трушком»; на 18-ы такт, аслабаніўшы рукі, «Маці» бяжыць да свайго партнёра, а хлопец, з якім танцавала «Маці», паварочваецца на месцы да паставы тварам у сярэдзіну кола.

Хлопцы і дзяўчаты, што стаяць па колу, адвольна прытанцоўваюць на месцы.

<u>19 — 24-ы такты</u> Усе, хто актыўна не ўключаны ў танец з «Маці», вольныя ў сваіх дзеяннях: стаяць, прытанцоўваюць, пляскаюць у ладкі.

«Маці», узяўшыся пад сагнутыя ў локці левыя рукі, «простым бегам трушком» робіць на месцы 2 павароты з «Бацькам». Затым,

аслабаніўшы руку, бяжыць да кавалера 2-й пары. Узяўшыся з ім пад сагнутыя ў локці правыш рукі, яна актыўна паварочваецца на месцы па ходу сонца, а пасля бяжыць да свайго партнёра (мал. 11).

І гэтак, перабягаючы папераменна, то да "Бацькі" і наадварот — да хлопцаў і дзяўчат, што стаяць па колу, "Маці" па чарзе перагтанцоўвае з усімі ўдзельнікамі "Жаніцьбы Цярэшкі". Завяршаючай часткай гэтай фігуры мае быць імправізаваны танец «Бацькоў» у цэнтры кола,



Мал. 11



Мал. 12

асноўным харэаграфічным кампанентам якога з'яўляюцца навароты са злучанымі сагнутымі ў локцях левымі або правымі рукамі. У канцы мелодыі «Бацька» і «Маці» становяцца на кола паміж 1-й — 2-й парамі.

*Хлопцы і дзяўчаты* (у большасці) на працягу ўсёй фігуры перыядычна спяваюць розныя прыпеўкі пад «Лявоніху» (гл. пасля апісання апошняй фігуры калена) і адвольна пляскаюць у ладкі.

Музыка, пасля завяршэння 4-й фігуры, не спыняючыся, працягвае іграць далей.

## Фігура пятая

(Музычнае суправаджэнне – мелодыя паўтараецца спачатку; 24 такты)

<u>1 — 12-ы такты</u> Узяўшыся за рукі і павярнуўшыся тварам супраць руху сонца, танцоры, хто «крокам полькі з рухам наперад», хто «простым бегам-трушком», дынамічна прасоўваюцца па колу наперад (мал. 12). У канцы мелодыі рух наперад сцішваецца.





Мал. 13



Мал. 14

<u>13 — 24-ы такты</u> Павярнуўшыся ў процілеглы бок і не разлучаючы рук, хлопцы і дзяўчаты тымі ж самымі рухамі дынамічна прасоўваюцца па колу па ходу сонца. У канцы мелодыі спыняюць рух наперад і паварочваюцца тварам у сярэдзіну кола.

## Фігура шостая

*(Музычнае суправаджэнне — мелодыя паўтараецца спачатку; 12 тактаў)*



Мал. 15

<u>1 — 6-ы такты</u> Паступова ўздымаючы злучаныя рукі наперад, танцоры «крокам полькі з рухам наперад» (адзінкі — «па-дэ-баскам з рухам наперад'») нетаропка прасоўваюцца да цэнтра кола (мал. 233).

<u>7 — 9-ы такты</u> Хлопцы і дзяўчаты «крокам полькі з рухам назад» (асобныя выканаўцы — «па-дэ-баскам з рухам назад», рух № 9), пашыраючы кола, вяртаюцца на свае папярэднія месцы.

<u>10 — 12-ы такты</u> Не разлучаючы рук, хлопцы і дзяўчаты, стоячы па колу, выконваюць «крок полькі на месцы» (рух 10), некаторыя — «па-дэ-баск на месцы» (рух № 11).

Пачынаючы з 1-га такта, адначасова з рухам ног, танцоры (у большасці дзяўчаты) спяваюць прыпеўку[7].

Адначасова з заканчэннем прыпеўкі завяршаецца і шостая фігура. Музыка перастае іграць.

Прыпеўкі да танца:

*А Лявоніха не жонка была,*
*Нямытую мне кашульку дала.*
*Нямытую, некачаную,*
*У суседа пазычаную.*

*А Лявоніха, Лявоніха мая,*
*Будзем сёння весяліцца ты і я.*
*Вось мінула нас усякая бяда,*
*Вось іграе беларуская дуда.*

*А ты мой, дзевярусенька,*
*Вядзі мяне памалюсеньку,*
*Не вядзі мяне па пожаньцы,*
*Вядзі мяне па дарожаньцы.*

*Па пожаньцы мае ножкі не йдуць,*
*Па дарожцы яны самі бягуць.*
*Па пожаньцы ўпіраюцца,*
*Па дарожцы разбягаюцца.*

## Калена трэцяе – гульня «Уцёкі»

«Маці»,, крыху аддыхнуўшы, звяртаецца да хлопцаў і дзяўчат: «Ну, дзеткі (паўза), цяпер будзе такая ігра (паўза). Значыць (паўза), «дзед» будзе даганяць «бабу» (паўза). Так?!»

Танцоры парамі адвольна разыходзяцца на дзве шарэнгі.

«Маці» пасля сваіх слоў бярэ «Бацьку» пад руку і ідзе з ім па невялікаму колу насустрач сонцу (мал. 13) і адначасова спявае:

[7] Па сцвярджэнню старэйшых жыхароў вёскі Велеўшчына, падчас выканання шостай фігуры, як і папярэдніх фігур другога калсна, могуць спявацца розныя прыпеўкі – «якія ўсе ведаюць, а тэксама і тыя, што спявалі ў маладосці іхнія бабулі».





Мал. 16



Мал. 17

*Дзед бабу тапіць вядзець,*
*А баба крычыць, ня йдзець.*

*— Мой жа ты дзядулечка,*
*Я твая бабулечка.*

Рухаючыся наперад, «Маці» на 2-ю страфу паварочваецца да свайго партнёра і, гледзячы яму ў вочы, нахіляе наперад корпус. «Бацька» ў канцы 2-га радка ўздымае высока ўгору рукі.

«Бацька» і «Маці» спяваюць разам:

*— Дзед бабу чабох на дно!*
*— Мне, дзядок, і тут ладно!*

«Бацька» на 1-ы радок, актыўна паўпрысядаючы на абедзвюх нагах і нахіляючы стан наперад і злёгку адварочваючыся ад «Маці», акцэнтавана ўзмахвае рукамі зверху ўніз (што пластычна адлюстроўвае песенна-паэтычны змест).

«Маці» на другі радок — у адказ «Бацьку» — паўпрысядае на абедзвюх нагах, адначасова паварочваецца да яго і акцэнтавана разводзіць убок рукі.

Пасля песні музыка адразу пачынае іграць мелодыю «Лявоніхі».

«Маці», праспяваўшы і пластычна праілюстраваўшы песеннапаэтычны тэкст, імкліва ўцякае ад «Бацькі», гуляючы з ім і «заводзячы» яго. «Бацька» даганяе яе (мал. 14). Спаймаўшы «Маці», на астатнюю частку музыкі «бацькі» адвольна крочаць у бок першых пар. На музычную паўзу, перайшоўшы лінію 1-й — 2-й пары, «Маці»

называе асобу, якая працягне гульню далей.

Дзяўчына (барышня 2-га кавалера), на якую паказала «Маці»', спявае:

*— А мой ты дзядулечка,*
*Я твая бабулечка.*
*Пасядзі на печы ў кутку*
*Покуль я сарочку вытку.*
*Вытку я сарочку,*
*Пашыю, пашыю*
*Свайму я дзядочку.*



Мал. 18

Адначасова яна рухаецца да восевай лініі пляцоўкі, затым, павярнуў-шыся налева, па паўколу — у бок свайго кавалера (мал. 15). На апошні радок песні робіць яму паклон.

Яшчэ не паспела дзяўчына выпраміць корпус, як у дзею ўключаецца музыка. Ён дынамічна і гулліва іграе «Лявоніху».

Дзяўчына-салістка, пачуўшы гукі гармоніка, імгненна зрываецца з месца і ўцякае ад кавалера: актыўна бегаючы паміж танцорамі, вырабляе мудрагелістыя малюнкі накшталт «васьмёркі» (мал. 16). Яе партнёр імкнецца як мага хутчэй дагнаць дзяўчыну, але не вельмі хутка яму ўдаецца гэта зрабіць.

Як толькі хлопец зловіць сваю выбранніцу і адвядзе на абранае ёю месца, музыка, дайграўшы да канца мелодыю, спыняе ігру.

У гульню ініцыятыўна ўключаецца новая салістка. Яна, адвольна рухаючыся па пляцоўцы, адначасова спявае:

*Пайду я ў сад зіляной,*
*Сарву я быліначку.*
*Прыдзі, прыдзі, мой дзядок,*
*Хоць на адну хвіліначку.*

У канцы песні дзяўчына робіць паклон партнёру, а затым, разам з пачаткам ігры музыканта, як мага хутчэй уцякае ад свайго кавалера. Хлопец бегае за сваёй партнёркай, пакуль не зловіць. Як толькі хлопец зловіць яе, наперад выступае «Маці». Яна па чарзе прапаноўвае



дзяўчатам, якія яшчэ не ўдзельнічалі, працягнуць гульню. А гэта значыць, абавязкова паспяваўшы, уцякаць ад свайго кавалера — так, як гэга рабілі папярэднія пары, але па-свойму.

«Цярэшкі», якія выконваюцца на працягу калена:

*Паю я коніка ў вядрэ,*
*Віжу я рыбачку на дне.*
*Рыбачка карась, карась.*
*Пацалуй, дзядулька, хоць раз,*
*хоць раз.*

*Хоць я не красівая,*
*Дык зато шчаслівая.*

*Цераз бор дарожачка,*
*Выбітая сцежачка.*
*Хто гэту сцежку таптаў,*
*Хто гэту дзеўку кахаў,*
*Да Манячкі ходзячы,*
*Падарачкі носячы?*

*Нясу ёй падарачкі —*
*Два садавых яблычка.*
*Пастучу ў акеначка,*
*Ці дома паненачка?*
*Нясу ёй падарачак —*
*Два садавых яблычка.*



Мал. 19



Мал. 20



Мал. 21

*Калядкі-калядачкі,*
*Ножачкі-парадачкі.*
*Кілбаскі на стол, на стол,*
*Дзетачкі за стол, за стол.*

*Цярэшка, цярэх-цярэх,*
*Далі мне дзядульку як мех,*
*Не ўмее ён Цярэшку жаніць,*
*Не ўмее бабульку лавіць.*

*А здайся, дзядулечка, здайся,*
*На другіх не заглядайся.*
*Што табе, дзядулька, стала,*
*Я яшчэ не саўсім стара.*

*А мой жа ты дзядулечка,*
*Я ж твая бабулечка,*
*Пасядзі на печы ў кутку,*
*Пакуль я красёнцы вытку.*

*Вытку я красёначкі,*
*Пашыю кашулечку*
*З красненькім каўнерачкам,*
*Будзеш ты жаўнерачкам.*

*Цярэшка цярэжыла,*
*На печы не ўлежыла,*
*З печы звалілася*
*Ды на крошкі разбілася.*

*Цярэшка, Цярэшачка,*
*Цераз бор дарожачка,*
*Бітая, качаная,*
*Я ў мамкі каханая.*

*Цярэшка, добрае дзела,*
*Дай мне старога дзеда,*
*Старога нядужага,*
*Да дзевак дасужага.*

Пасля сола апошняй пары «Маці» пераходзіць да наступнай дзеі.





«Маці». А цяпер, дзеткі, пакажам вам, як нада цалавацца. («Маці» распараджаецца прынесці лаўку або два стулы. Хлопцы прыносяць лаўку і ставяць яе пасярэдзіне пляцоўкі.)

Садзіся, дзядуля! (Сядаюць на лаўку, прыціснуўшыся спінамі адзін да аднаго).

Ну, лічыце! (Хто-небудзь з гульцоў ці некалькі, або адразу гуртам пачынаюць рытмічна мерна моцна лічыць.)

Гульцы. Раз! Два! Тры!

На лік «тры» «Бацька» і «Маці» адначасова паварочваюць галовы ўбок, цалуюцца (падчас цалавання з боку гульцоў чуваць розныя жарты, кпіны)[8].

«Маці». Ну, як (паўза), бачылі (звяртаецца да хлопцаў і дзяўчат)? (Паўза.) Прыгожа?! (Паўза.) А цяпер, дзеткі мае, пакажыце, як ўмееце рабіць вы. І запрашае сесці на лаўку адну з пар, называючы імёны хлопца і дзяўчыны адной пары. Выкліканыя хлопец і дзяўчына садзяцца на лаву спіной да спіны, як і папярэднія.)

Адзін з гульцоў (гучна лічыць). Раз! Два! Тры!

На лік «тры» партнёры паварочваюць галовы ўбок. Калі павернуцца тварам у адзін напрамак, то цалуюцца. Калі ж у розныя, то ўстаюць не пацалаваўшыся, але ўсё роўна саступаюць месца іншай пары.

Гульня працягваецца да тых пор, пакуль не надакучыць.

«Маці», як распарадчыца вечарыны, прапануе хлопцам і дзяўчатам новую дзею.

---

[8] “Бацькі» звычайна загадзя дамаўляюцца, у які бок павярнуць галовы. У гэтым выпадку “цалаванне” атрымліваецца з першага разу. Калі ж не атрымалася дамовіцца, і галовы павярнулі ў розныя бакі, то найбольш актыўны з “бацькоў” імправізуе; “Нешта ў нас не атрымалася. Мабыць, састарыліся? Давай паспрабуем яшчэ раз”. Тады гульцы пачынаюць лічыць спачатку: “Раз! Два! Тры!” З другой ці трэцяй спробы “цалаванне” ў “бацькоў” атрымліваешіа. Пацалаваўшыся, устаюць з лаўкі. “Маці” працягвае кіраваць дзеяй далей.

## Апісанне рухаў

*Музычны памер усіх рухаў — 2/4.*

### Рух № 1 «Просты крок»

Выконваецца на адзін такт. Зыходнае становішча: першая прамая пазіцыя ног, калені злёгку сагнутыя. Рукі ў адвольнай паставе.

Раз-і Натуральны крок правай нагой наперад.
Два-і Натуральны крок левай нагой наперад.

### Рух № 2 «Крок полькі з рухам наперад»

Выконваецца на адзін такт. Зыходнае становішча: першая пазіцыя ног, калені паўсагнутыя. Рукі ў адвольнай паставе.

Раз Пераскочыць адвольна наперад на ўсю ступню правай нагі, адначасова спружынячы яе ў калене.
і Спружынны кароткі крок наперад на ўсю ступню левай нагі.
Два Спружынны крок наперад на ўсю ступню правай нагі, адначасова паглыбляючы на ёй паўпрысяданне. Пятку левай нагі злёгку адарваць ад падлогі.
і Паўза.
Рух паўтараецца з другой нагі.

### Рух № 3 «Пляскане ў ладкі»

Зыходнае становішча: першая прамая пазіцыя ног. Рукі, адвольна сагнутыя ў локцях, узняты наперад, далоні павернуты ўнутр.

Раз Пляснуць паперадзе сябе ў ладкі.
і Рукі адвольна развесці ў бакі.
Два і Паўтарыць рухі, якія выконваліся на «раз-і».
Рытм руху





### Рух № 4 «Трайныя пляскані ў ладкі»

Зыходнае становішча: першая прамая пазіцыя ног. Рукі адвольна сагнуць у локцях, узняць наперад, далоні павернуты ўнутр.

Раз Пляснуць паперадзе сябе ў ладкі і адразу ж рукі развесці ў бакі.
і Паўтарыць рух, які выконваўся на «раз».
Два Пляснуць паперадзе сябе ў ладкі, злучыўшы далоні.
і Паўза.
Рытм руху



### Рух № 5 « Акцэнтаваны бег трушком»

Выконваецца на адзін такт. Зыходнае становішча: першая прамая пазіцыя ног, калені паўсагнутыя. Рукі ў адвольнай паставе.

*Затакт:* Захоўваючы паўпрысяданне на левай назе, правую нагу сагнуць у калене і, скараціўшы ў пад'ёме, узняць да шчыкалаткі нагі апорнай.

Раз-і Пераскочыць наперад з акцэнтам на ўсю ступню правай нагі, адначасова спружынячы яе ў калене. Левую нагу, сагнутую ў калене, адначасова ўзняць да шчыкалаткі апорнай нагі; пад'ём скарочаны.
Два-і Паўтарыць з левай нагі рух, які выконваўся на «раз-і».

Рух выконваецца на месцы: а) без паварота; б) з паваротам; в) з рухам па невялічкаму колу вакол сябе.

Рытм руху



### Рух № 6 «Просты бег трушком»

Выконваецца на адзін такт. Зыходнае становішча: першая прамая пазіцыя ног, калені паўсагнутыя. Рукі адвольна апушчаны ўніз.

*Затакт*: Захоўваючы паўпрысяданне на левай назе, правую нагу злёгку сагнуць у калене і, скараціўшы ў пад'ёме, узняць невысока над падлогай.

Раз-і Невялікі спружынны крок-пераскок наперад на ўсю ступню правай нагі.

Два-і Невялікі спружынны крок-пераскок нанерад на ўсю ступню левай нагі.

## Рух № 7 «Па-дэ-баск з рухам наперад»

Выконваецца на адзін такт. Зыходнае становішча: трэцяя прамая пазіцыя ног, калені паўсагнутыя, рукі адвольна апушчаны ўніз.

*Затакт*: Правую нагу адвольна сагнуць у калене і з ненапружаным пад'ёмам узняць невысока над падлогай наперад і правесці па паўколу ўправа.

Раз Рухаючыся наперад, зрабіць па дыяганалі направа злёгку акцэнтаваны пераскок на ўсю ступню правай нагі, адначасова згінаючы яе ў калене. Рухі рук адвольныя.

і Працягваючы рухацца наперад, пераступіць, злёгку прытупваючы, на ўсю ступню паўсагнутай у калене левай нагі накрыж правай.

Два Захоўваючы паўпрысяданне на левай назе, прытупнуць усёй ступнёй правай нагі па трэцяй прамой пазіцыі ззаду.

і Паўтарыць з левай нагі рух, які выконваўся на «затакт».

Рух паўтараецца з левай нагі.

Рытм руху 

## Рух № 8 «Крок полькі з рухам назад»

Выконваецца на адзін такт. Зыходнае становішча: першая прамая пазіцыя ног, калені паўсагнутыя. Рукі ў адвольнай паставе.

Раз Пераскочыць назад з паўпальцаў на ўсю ступню правай нагі, адначасова спружынячы яе ў калене.

і Пераступіць па трэцяй (ці першай) прамой пазіцыі на ўсю ступню левай нагі, спружынячы яе ў калене.

Два Крок назад на ўсю ступню правай нагі, адначасова паўпрысядаючы на ёй і злёгку паварочваючы левае плячо наперад.

і Паўза.

Рух паўтараецца з другой нагі.



## Рух № 9 «Па-дэ-баск з рухам назад»

Выконваецца на адзін такт. Зыходнае становішча: трэцяя прамая пазіцыя ног (правая нага паперадзе), калені паўсагнутыя. Рукі ў адвольнай паставе.

Затакт: Правую нагу, адвольна сагнутую ў калене і ненапружаную ў пад'ёме, узняць невысока над падлогай і правесці па паўколу назад.

Раз Нешырокі спружынны пераскок назад па дыяганалі направа з нізкіх паўпальцаў на ўсю ступню правай нагі.

і Захоўваючы паўпрысяданне на правай назе, пераступіць, злёгку прытупваючы, на ўсю ступню левай нагі накрыж паперадзе правай.

Два Крок назад на ўсю ступню правай нагі, адначасова паглыбляючы на ёй паўпрысяданне.

і Паўтарыць з левай нагі рух, які выконваўся на «затакт».

Рух паўтараецца з другой нагі.

Рытм руху 

## Рух № 10 «Крок полькі на месцы»

Выконваецца на адзін такт. Зыходнае становішча: першая прамая пазіцыя ног, калені паўсагнутыя. Рукі ў адвольнай паставе.

Раз Пераскочыць на месцы з акцэнтам на ўсю ступню правай нагі, адначасова спружынячы яе ў калене.

і Пераступіць (ці адвольна прытупнуць) на ўсю ступню левай нагі, адначасова спружынячы яе ў калене.

Два Пераступіць (ці адвольна прытупнуць) на ўсю ступню правай нагі, адначасова паглыбляючы на ёй паўпрысяданне.

і Паўза.

Рух выконваецца з другой нагі.

Рытм руху 

### Рух № 11 «Па-дэ-баск» на месцы

Выконваецца на адзін такт. Зыходнае становішча: трэцяя прамая пазіцыя ног (правая нага паперадзе), калені паўсагнутыя. Рукі свабодна апушчаны ўніз, пальцы ненапружаныя.

Затакт: Правую нагу, адвольна сагнутую ў калене і ненапружаную ў пад'ёме, узняць невысока над падлогай.

Раз Пераскочыць на месцы на ўсю ступню правай нагі, адначасова згінаючы яе ў калене. Левую нагу, адвольна скарочаную ў пад'ёме і сагнутую ў калене, правесці наперад-направа.

і Захоўваючы паўпрысяданне на правай назе, адвольна прытупнуць усёй ступнёй левай нагі паперадзе правай.

Два Пераступіць умоўна па пятай прамой пазіцыі ззаду на ўсю ступню правай нагі, злёгку прысядаючы на ёй.

і Паўтарыць з левай нагі рух, які выконваўся на «затакт».

Рух выконваецца з другой нагі.

Рытм руху





# «ЖАНІЦЬБА ЦЯРЭШКІ»: СПРОБА РЭКАНСТРУКЦЫІ

Каляды, як пераходны, памежны пэрыяд паміж Старым і Новым гаспадарчым годам з'яўляліся «зонай надзвычайнай адказнасці» чалавечае супольнасці. Кожная рэч і дзея набывала знакавы, рытуальны характар і магла непасрэдным чынам уплываць на будучае. Пры гэтым граніцы паміж рэальным і ірэальным знікаюць, парушаецца агульная сацыяльная структура. Аднак Каляды сімвалізуюць не толькі хаос у прыродзе і соцыуме, менавіта яны пачынаюць яго адмаўленне, пазначаюць пачатак новага прыроднага цыклу і светапарадку. Узраджэнне Сонца і абуджэнне прыроды патрабавалі адпаведных перабудоў і ў чалавечым жыцці. Пераадоленне ж дэструктыўнасці сацыяльнай арганізацыі адбывалася паступова і ў першую чаргу меркавала стварэнне шлюбнай пары (таму матывы шлюбу у час Каляд выступаюць як этналагічная універсалія). Ускосна аб гэтых матывах як дамінуючых сведчаць варыянты гульні, калі «Цярэшку жаніла» — разбівалася па парах — усё дарослае насельніцтва вёскі.

Акрамя накіраванасці на ўзнаўленне парадку ў соцыуме сімвалічная жаніцьба, суадносячыся з прыроднымі біярытмамі, меркавала пэўнае прадуцыравальнае ўздзеянне на навакольную ўрадлівасць у цэлым. Аднак аграрная магія «Жаніцьбы» досыць невыразная і ўскосная, бо перадусім важнай стае «урадлівасьць сацыяльная», іншая справа аграрная сімволіка з выразным эратычным зьместам. Адсюль выразная эратычная накіраванасць гульні (гл. далей).

Аднак у самой праблеме абрадавага эратызму ў «Жаніцьбе Цярэшкі», на мой погляд, неабходна адзначыць наступнае: па-першае, немагчыма дакладна сцвярджаць аб архаічнай мадэлі абрадавых паводзін полаў па запісах XIX—XX стст., калі значны ўплыў на іх аказала хрысціянства і маральныя нормы пазнейшага грамадства, па-другое, што найбольш важна, нельга эратычную напоўненасць розных тэкстаў абраду трактаваць літаральна, бачыць у вербальных выявах дакладнае адлюстраванне рэчаіснасці, як нельга з песень калядоўшчыкаў аб «жалезным тыне і залатой падваротнічцы» ствараць уяўленне пра рэальную сялянскую хату. Трзба гаварыць пра такую з'яву, як сімвалічны эратызм, які быў прызваны стварыць саму абрадавую атмасферу эратызму як стану прыроды і чалавека, гатовых для новага апладнення і нараджэння.

Каляды наогул, актуалізуючы свой пераходны характар, звязаны з шырокай гамай магічных абрадавых практык, мэтай якіх з'яўляецца далучэнне людзей да свету продкаў, якое было неабходным для індывідуальнага пераходу з аднаго сацыяльнага становішча ў другое. Дарэчы, гульні, якія захавалі ў сабе «адбіткі» пераходнага значэння, мелі найчасцей і такую мэту: надзяліць таго, хто праходзіў іспыт, высокімі шлюбна-эратычнымі здольнасцямі, плоднай патэнцыяй.

Зыходзячы з таго, што «Жаніцьба Цярэшкі» займае той арэал, дзе практычна адсутнічае класічнае калядаванне, правамерна дапусціць, што яго функцыі часткова ўзяло на сябе гэта гульнёва-абрадавае дзеянне. У кантэксце асноўнай семантычнай напоўненасці калядавання як свядомага кантакту з «тым» светам з мэтай забеспячэння ўраджаю \ будучага шлюбу як патэнцыі чалавечай плоднасці, «Жаніцьба Цярэшкі» ў пэўнай ступені мяркуе неабходнасць зносін у першую чаргу з продкамі з той жа ўстаноўкай на рэальныя жыццёвыя вынікі. Я б тут узгадаў фактычна абавязковую прысутнасьць на Жаніцьбе старэйшых пакаленьняў і санкцыянаваньне імі абрадавага дзейства

Моладзь у адрозненне ад калядоўшчыкаў не з'яўлялася ўласна пасрэднікам паміж жывымі і мёртвымі. Яна станавілася правадніком і носьбітам іх прадуцыравальнай сілы (ізноў праекцыя на эратычны код гульні). Адбываецца метафарычнае перанясенне сімволікі «таго» свету як невычэрпнага засяроджання дастатку і ўрадлівасці на шлюбную пару як крыніцу новага жыцця.

Пры аналізе структурнай схемы самога абрадава-гульнёвага дзеяння выдзелены асноўныя абавязковыя элементы: выбар «бацькі» і «маткі»— складанне пар — «шлюб»-танец, пасля якога ўдзельнікі



атрымліваюць абрадавыя найменні — «дзед» і «баба» — уцёкі / лаўленне — мосцік— вячэра.

Паспрабуем прагледзець, як адбілі структурныя кампаненты «Жаніцьбы Цярэшкі» яе асноўны рытуальна-міфалагічны сэнс.

На пачатку гульні выбіраліся яе фактычныя распарадчыкі з традыцыйнымі найменнямі — «бацька» і «матка». Гэта ў многім вызначае гульнёвыя паводзіны ўсіх прысутных: уяўленні аб тым, што «бацькі» — усім родныя, яны благаслаўляюць і жэняць моладзь усёй вёскі, г. зн. сімвалізуюць агульных продкаў. Асаблівы сакральны статус іх падкрэскрэсліваецца тым, што ў асобных варыянтах «матка» танцавала з кожным з прысутных хлопцаў. Адпаведна неабходнае ў многіх варыянтах пераапрананне «бацькоў» — «яму кажух падзенуць, горб падложаць» (Іст Міерскага р-на), «так уберуць і сажай намажуць — ні за што не узнаеш — хто» (Гаравыя Лепельскага р-на). Традыцыйна ж чарненне твару і непазнавальнасць кадзіруюць рытуальную нябачнасць як адзін з асноўных атрыбутаў «таго» свету, а гарбатасць, махнатасць, барадатасць суадносяцца з прыкметамі, уласцівымі хтанічным персанажам. Апрача таго, махнатасць, гарбатасць, барадатасць трывала суадносяцца з ідэяй звышдастатковасці і багацця, што таксама карэлюецца з тагасветам, светам памерлых. Усё гэта дазваляе зрабіць выснову аб сувязі «бацькоў» са светам продкаў.

Тлумачэнню складання пар толькі як умове фарміравання новых сем'яў супярэчаць запісы гульні, прычым найбольш раннія (1858), калі у ёй прымалі ўдзел нават замужнія жанчыны — «юнакі становяцца на адным баку, а дзяўчаты і замужнія, нават старыя жанчыны — на другім»[9].

Адным з варыянтаў складання пар выступае той звычай, калі хлопец надзяваў абранай дзяўчыне шапку. Суадносячыся з адпаведнымі вясельнымі звычаямі, а таксама з казачным матэрыялам шапкі-невідзімкі, гэты акт сімвалізаваў не толькі сацыяльнае падпарадкаванне дзяўчыны, але і імітаваў яе нябачнасць, што на глыбінным узроўні дэшыфравалася як сімвалічная смерць-уваскрэсенне ў новай якасці. Было б залішне канстатаваць празрыстую сувязь з «тым» светам абрадавых найменняў — «дзед» і «баба», трывала замацаваных за тымі ўдзельнікамі гульні, што «ўзялі шлюб» і сцвердзілі свой пераход. Невыпадкова адно з дыялектных адпаведнікаў назве Цярэшка

[9] Жаніцьба Цярэшкі. Мн., 1993. С. 33.

— матылёк, што ў народнай традыцыі сімвалізуе душы продкаў.

Уласнае абрадавае імя Цярэшка, акрамя прапанаванай Г. А. Барташэвіч фалічнай афарбоўкі і цікавай гіпотэзы Л. М. Салавей аб аднясенні яго да боства з «невыразнымі функцыямі свата-жаніха», можа мець яшчэ адну лінію развіцця свайго абрадавага значэння. Вядома, што ў Расіі Цярэнціем называлі цецерука. У Смаргонскім раёне зафіксавана гульня «Цяцерка», якая ўяўляе сабой фактычна варыянт «Жаніцьбы Цярэшкі»: удзельнікі гульні станавіліся ў два рады, хлопцы — у адзін, дзяўчаты — у другі. Першая пара аб'ядноўвала рукі і падымала іх угору, утвараючы «вароты». Затым парамі праходзілі ўздоўж, прыпяваючы:

*Я цяцерку пасу, ух, я.*
*На пановым лугу.*
*А цяцерка пад мост,*
*Я цяцерку за хвост.*

Потым дзяўчына («цяцерка») вырывалася ад свайго «цецерука» і ўцякала ад яго, а той яе лавіў10. Верагодна, суаднясенне імені Цярэшка з птушкамі ў кантэксце матыва сувязі з продкамі і не з'яўляецца небеспадстаўным (не адмаўляючы і папярэдніх гіпотэз, паралелелізм з якімі і забяспечвае пэўную ўстойлівасць і традыцыйнасць вобраза).

Магчыма, адбіліся пэўныя міфалагічныя ўяўленні аб суадносінах з «іншасветам» у наступных песенных «цярэшках» (яшчэ раз хочацца засцерагчы ад літаральнага іх прачытання): «З-пад кута, з-пад кутнічка далі мне паскуднічку», «з-пад кута, з-пад залатога далі дзеда мне старога» (в. Суша Лепельскага р-на) — выяўляецца сакральная сімволіка кута, тым больш залатога (у аналагічных сітуацыях — «Сядзь, Спарыш, на покуці, на покуці ды на золаце»), «Божа ж мой, вяліка бяда, далі мне старога дзяда, што я з ім рабіць буду, злавіўшы, любіць не буду. Скорчыўшы, згорбіўшы, пад печ, няхай там курэй пасець» — робіцца акцэнт на сімволіку печы як маргінальнай зоны. Дарэчы, выклікае пэўныя сумненні і выпадковасць шырока пашыраных песень-«цярэшак» з матывам курэй (параўн.: куры ў вясельнай абраднасці).

Сама ідэя сумяшчэння эратычнай і хтанічнай сімволікі выяўляе тыпалагічныя паралелі ў некаторых калядных гульнях беларусаў.

[10] Этнаграфія Беларусі. Мн., 1989. С. 527.



Ну ўжо лепей за «Яшчура» ілюстрацыі да тэзы знайсьці цяжка. Заслугоўваюць увагі гомельскія калядныя «хохі»: у сярэдзіну круга ставілі «жаніха» — дзеда з барадой, з кульбай і торбай (атрыбуты жабрака — фактычна прадстаўніка «іншасвету») і «маладуху» — размаляваную дзяўчыну, знешні выгляд якой падкрэсліваў яе здароўе і жаночую сілу. Астатнія ўдзельнікі гульні вадзілі вакол іх карагод з празрыстым эратычным сэнсам:

*Верабей, верабей,*
*Не клюй маіх канапель...*[11]

Немалую функцыянальную нагрузку нясуць і ўцёкі/лаўленне ўдзельнікаў гульні. Іх семантыка, магчыма, можа быць набліжана да выяўлення пры супастаўленні гэтага абрадавага дзеяння з аналагічнымі ў вясельнай абраднасці. Лічылася, што калі давядзецца шлёпнуць маладую пры сватанні па спіне, то можна спадзявацца на поспех.

У гэтым кантэксце надзвычай паказальная тыпалагічна блізкая калядная гульня, апісаная П. Шпілеўскім у 1853 г.: хлопцы становяцца у рад з аднаго боку, а дзяўчаты, кожная супраць свайго хлопца, з другога боку. Паміж апошняй парай становіцца найбольш «відны» хлопец — Чурыла. З супрацьлеглага канца пара сходзіцца і, трымаючыся за рукі, імкнецца хутчэй аббегчы вакол Чурылы, каб ён не злавіў дзяўчыны. Калі той зловіць дзяўчыну, становіцца з ёй у пачатку рада, а хлопец займае яго месца. Калі пара бяжыць каля Чурылы, крычыць:

*Чур ад нас, пусці нас*[12]*.*

Гульня па-свойму кадзіруе кантакт кожнага з удзельнікаў з продкам (яго характэрнае імя — ЧУР-ыла), асцерагальнае да яго стаўленне і разам з тым непазбежнасць такіх зносін.

Але найбольш выразнай сэнсавай параллю да матыву кантактавання дзяўчыны з продкам станавілася калядная гульня ў Яшчура, які гэтаксама выбіраў сабе пару.

Рытуальная значнасць уцёкаў/лаўлення партнёраў у асобных варыянтах падкрэслівалася тым, што гэты момант выступаў як вызначальны ва ўсёй структуры гульні: калі «дзед» аббягаў «мосцік»

[11] Чурко Ю.М. Белорусский хореографнческий фольклор. М., 1989. С. 37.
[12] Шпилевский П. // Пантеон. 1853. Т. 9. № 6. С. 48.

тры разы і не мог злавіць «бабу», тая мела права выбіраць сабе новага партнёра, павярнуўшы такім чынам ход гульні да свайго пачатку — бо кантакт фактычна не адбыўся, супярэчнасці не здымаліся, сітуацыя патрабавала паўтарэння.

На глыбінным светапоглядным узроўні рытуальныя дзеянні падчас гульні ізаморфны паводзінам калядоўшчыкаў, ці ў больш шырокай перспектыве пераапранутых у прадстаўнікоў «іншасвету», у формах абрадавых паводзін якіх пэўнае месца займае «пужанне», пагоня за ўцекачамі.

І, нарэшце, мосцік, які адлюстроўвае падзеленасць/свету на дзве процілеглыя часткі, зносіны паміж якімі разам з тым рэальна магчымыя і часам вызначальныя (сімволіка мосту ў калядных, валачобных песнях — «масці кладку, заві ў хатку», у варожбах, калінавы мост у казках і г. д.). Верагодна, тую ж функцыю прымае на сябе мосцік у «Жаніцьбе Цярэшкі», як бы «вяртаючы» пару ў рэальны свет, сімвалізуючы завершаны кантакт і канструктуючы ўстанаўлене новых сувязяў. І на заканчэнне — агульнае святочнае застолле са шчодрым ужываннем каўбас і гарэлкі, якое дэманструе далучэнне да нормаў сацыяльных паводзін і ў гэтым сэнсе з'яўляецца праяўленнем дэсакралізацыі сітуацыі.

Важную ролю ў вытлумачэнні сэнсу гульні адыгрываюць яе прасторава-часовыя арыенціры. Абавязковым лічылася патрабаванне «жаніць Цярэшку» на заканчэнне ігрышча, нават пасля поўначы. Таму і заканчвалася гэта дзея «далёка за поўнач», «ужо раніцай», «на світанні». Характэрнай жа адзнакай начнога часу з'яўляецца яго маргінальнасць, звязаная ў міфалагічных уяўленнях з актывізацыяй локуса «таго» свету. Небеспадстная і актуалізацыя для правядзення гульні менавіта пўначы як часу для пранікнення ў патойбочча жывых з пэўнымі магічнымі мэтамі (дакладней, выкліканне «таго» свету ў асвоеную прастору, што яскрава выступае ў варожбах). У асобных варыянтах тэмпаральныя рамкі гульні нават дакладна абмежаваны — ад першых да апошніх пеўняў: «Але вось певень першы раз прагарланіў поўнач. Хтосьці з-за печкі прагарланіў: «Ці не пара, браточкі, Цярэшку жаніць?... Праспявалі трэція пеўні, адна за другой з'яўляліся ў хату дзяўчаты, кожная несла прыгатаваную ежу»[13], што суадносіцца з маркіраванасцю гэтага прамежка часу як найбольш спрыяльнага для дзейнасці іншасвету.

[13] Жаніцьба Цярэшкі. С. 103, 104.



Лакальная характарыстыка гульні таксама выяўляе агульную накіраванасць на сімвалічнае абазначэнне пераходнай сітуацыі. Спыняюць увагу сведчанні, якія паведамляюць пра правядзенне гульні ў карчме. Карчма знаходзіцца па-за межамі ўпарадкаванага свету — не вісяць абразы, ніхто не жыве, але і не належыць да негатыўнай для жывых сферы і тым праецыруе самую магчымасць кантакту з продкамі.

Такім чынам, гульнёвыя шлюбы замацоўваліся за Калядамі як адказным касмалагічным момантам змены гадоў, калі страчаная ўрадлівасць патрабавала новых жыццёвых сіл, што і забяспечвала імітацыя іерагаміі. Падобныя жаніцьбы стваралі гарантыю ўзнаўлення прадукцыйных сіл і багацця ў нашчадках

Разам з тым пераходны характар калядных гульняў абумовіў адзінства іх эратычна-хтанічных элементаў. Наогул, у аснове народных уяўленняў аб паводзінах людзей у будні і святы ляжыць сакральная неабходнасць чаргавання станаў жыцця і смерці для нармальнага колазвароту, усведамленне сувязі жывых і мертвых, прысвячэнне сябе вышэйшым сілам, як бы ва ўдзячнасць ім за жыцце і за магчымасць карыстацца ім далей. Па сутнасці, любы святочны стан павінен быў імітаваць пераход у свет «іншы» з наступным адтуль вяртаннем у новай/абноўленай якасці.

**Т. Валодзіна**

Дагэтуль канчаткова не высветленым застаецца сам вобраз «Цярэшкі». Аднак, аналіз фальклорнага матэрыялу (Цярэшка, Цялешка, Цяльпешык — у беларускіх казках — драўляны хлопчык) і функцыяў «Цярэшкі» пад час «Жаніцьбы», дазваляе пагадзіцца з думкай Г.Барташэвіч аб фалічным характары гэтага персанажа[14], паколькі слова «церэх» у беларускай мове азначае «таўкач»[15], які, у сваю чаргу, фальклорнай традыцыяй адназначна трактуецца як сімвалічны займеннік эрагаванага дзетароднага органа мужчыны[16]. На пачатку «Жаніцьбы» дзяўчаты і хлопцы падзяляюцца на два шэрагі, прычым першыя становяцца з левага, а другія — з правага боку, што сімвалізуе ў міфалагічным плане распад сусвету на дзве зыходныя кампаненты (ідэнтычны элемент рытуала прысутнічаў і на Купаллі, калі «ураднік» — кіраўнік абрадавай дзеі, разводзіў дзевак і мальцаў на два бакі перад скокамі цераз вогнішча[17]. Аднак сама «Жаніцьба», злучэнне пар, якім кіруюць абраныя з шэрагу жанатых «Бацька» і «Матка», у тэкставым плане санкцыянуецца выключна Цярэшкам, які з'яўляецца ў выглядзе механошы (прыгадай механошу каляднага абыходу) і прыносіць кампаненты, неабходныя для заключэння шлюбу:

*Цярэшка, чаху, чаху,*
*Што ў цябе ў мяху, ў мяху?*
*— І шпілечкі, іголачкі,*
*Залаты пярсцёначкі,*
*Ёлачкі ды палачкі,*
*Дзецкія забавачкі.*

[14] Байбурин А.К. Ритуал в традиционной культуре. Структурно-семантический анализ восточнославянских обрядов. СПб., 1993. С.86.
[15] Насовіч І.І. Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983. С.688.
[16] Валодзіна Т.В. Семантыка рэчаў у духоўнай спадчыне беларусаў. Мн., 1999. С. 87-92.
[17] Дмитриев М.А. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильна, 1869. С. 227.



Колючыя, падоўжаныя прадметы гэтага шлюбнага набору сімвалізуюць актыўны мужчынскі пачатак, рэчы з адтулінай (мех, пярсцёнак, абаранак) — жаночы. Полавы сімвалізм гэтых рэчаў яскрава выяўляецца як у саміх «Цярэшках», так і іншых фальклорных тэкстах. Да прыкладу, у вясельнай тэматыцы парваны мех азначае адсутнасць цноты ў нявесты: «Распароўся мех — і на бацьку грэх»[18], а «голка» выступае ў якасці актыўнага фігуранта ў першую шлюбную ноч: «Швачка была наша Васька, / Вышыла ўкруг падала / Тупой іглой без вушка / І чырвоным шоўкам». Зайздроснае ўмельства ў выкарыстанні сваёй «голкі» паказвае і «дзядулька» цярэшкавых прыпевак:

*Дзед бабе кажух шыіць,*
*Бабіна душа ныіць.*
*Дзед бабе кажух пашыў,*
*Сем раз на начы прасіў»[19].*

Ідэнтычнае «прачытанне» мае і шпілька: «Прыбег Хвілька, забіў шпільку: Ах, Хвілька, харошая твая шпілька! Прыбягай паскарэй, забівай пакрапчэй» (загадка пра маслабойку)[20]. Характэрна, што слова «хвіль» ва ўмоўнай мове («Любецкі лемент») жабракоў Магілёўскай губерні азначала менавіта мужчынскі чэляс[21].

Тэма страты дзяўчынай цнатлівасці і, адпаведна, пераходу з дзявоцкага ў жаночы стан сімвалічна абыгрываецца на працягу ўсёй «Жаніцьбы», выяўляючыся ў разнастайных сюжэтных вобразах. Найбольш тыповым з'яўляецца сюжэт з «патапленнем» бабулькі дзедам:

*Дзед бабу тапіць вядзець.*
*А баба крычыць, ня йдзець.*
*— Хай цябе кадук бярэць,*
*Як ты мне хвартух дзярэш!»[22].*

«Як у касмалагічным, так і ў антрапалагічным планах пагружэнне ў Воды азначае не канчатковае згасанне, а часовае вяртанне ў во-

[18] Вяселле: Песні. Кн. 6. Мн., 1988. С.709.
[19] Жаніцьба Цярэшкі. Мн., 1993. С.141.
[20] Загадкі. Мн., 1972. С.87.
[21] Романов Е.Р. Очерк быта нищих Могилевской губернии // Этнографическое обозрение. 1890. № 4. С. 131.
[22] Жаніцьба Цярэшкі, с. 140.

бласць аморфнага, за якім ідзе сатварэнне новага жыцця ці «новага чалавека», у залежнасьці ад таго, ці вядзецца размова пра касмічнае, біялагічнае ці сатэрыялагічнае»[23]. Разрыванне «дзедам» хвартуха, які ў народнай традыцыі сімвалізаваў жаночыя геніталіі, а ягоная наяўнасць (захаванасць) у дзяўчыны — яе цнатлівасць[24], відавочна ўказвае на сексуальны характар «патапленьня» «бабулькі». «Небяспека», што падсцерагае дзяўчыну, сімвалічна абыгрываецца ў «Цярэшках» рознапланавым чынам. Эратычная ж сімволіка, якою гэдак насычаныя прыпеўкі «Жаніцьбы», з'яўляюцца практычна «поўным наборам» шыфраў, што кадуюць сферу інтымных узаемадачыненняў паміж мужчынам і жанчынай у традыцыйнай культуры.

Аднак, у адрозненне ад вясельнага ці радзіннага фальклору, эратызм «Цярэшак» яшчэ не нагэтулькі «празрысты» і відавочны. Таму менавіта іх супастаўленне з іншымі жанрамі, перадусім з сямейна-абрадавымі песнямі, дапамагае «прачытваць» глыбока прыхаваны сэнс нібыта бяскрыўдных сітуацыяў:

*Пайду я кароў даіць,*
*А за мной жа бык бяжыць.*
*Каб цябе каршун задраў,*
*Як жа ты мне хвартух парваў!*[25].

Тэма, пазначаная сімволікай хвартуха (гл. вышэй) акцэнтуецца тут і вобразам ярага быка, убачыць якога ва сне — азначае нараджэнне сына, а ўдар ягонымі рагамі — тое, што на яве «чалавек дабіваецца да жанчыны»[26]. Дашлюбныя полавыя зносіны, не санкцыянаваныя вясельным рытуалам, атаясамліваліся з выхадам, «выпадзеннем» са сферы Культуры, уваходжаннем чалавека ў зону Прыроды, дзе ўчынкі і дзеянні не рэгламентаваныя ніякімі нормамі:

*Пападдзя пшанічку жала,*
*У полі заначавала.*
*У полі пад ёлкаю*
*З маладым Міколкаю»*[27].

[23] Элиадэ Мирча. Священное и мирское. М., 1994. С.83.
[24] Валодзіна Т.В. Семантыка рэчаў… С. 129-130.
[25] Жаніцьба Цярэшкі, с.176.
[26] Зямная дарога ў вырай: Беларускія народныя прыкметы і павер'і. Кн. 3. Мн., 1999. С. 422.
[27] Жаніцьба Цярэшкі, с.143.



Паколькі «яшчэ ў старажытнасці ў продкаў беларусаў елка з яе характэрнымі шышкамі лічылася фалічным дрэвам»[28], то начоўка дзяўчыны «у лесе, пад елкаю» мела ў народнай традыцыі адназначную дэшыфроўку. Так, радзіна маладога кпіла з нецнатлівай нявесты наступным чынам: «Ці пад еллю спала? / Ці шышка ўпала? / Ці кароў даіла? / Ці на рог прабіла?»[29].

Несумненны эратычны кантэкст мелі ў «Цярэшках» і разнастайныя аперацыі з арэхамі:

*Выйду, выйду ў агарод,*
*У дзявоцкі карагод,*
*Арэшкі шчыпаючы,*
*Дзядульку шукаючы,*
*Арэшкі цатуючы,*
*Дзядульку цалуючы»*[30].

Арэхі, якія сярод іншых «падарункаў» прыносіць Цярэшка, з'яўляюцца андрагінным (увасабляючым мужчынскі і жаночы пачатак адначасова) сімвалам, што і абыгрываецца ў фальклоры. Так, знешні выгляд арэхаў («Па чатыры, па пяць, залупіўшыся вісяць» трывала суадносіў іх з актыўным мужчынскім пачаткам, але полая структура, у якой нараджаецца ядро, збліжала іх з вобразам жаночага ўлоння. У Юраўскіх і Купальскіх песнях шырока прадстаўлены сюжэт, дзе арэх з ядром («сярэдзінай») ідэнтыфікуецца з дзявоцкасцю і супрацьпастаўляецца мужчынскаму пачатку, сімвалізаванаму маналітным (без ядра) камянём. Адсюль збіраць, лушчыць, трушчыць арэхі — пазбаўляць дзяўчыну цнатлівасці. Так, у архаічнай абрадавай гульні «Яшчур» (выконвалася як і «Жаніцьба» на Каляды) апошні характарызаваўся наступнымі словамі: «Сядзіць, сядзіць яшчар! / У зялёным крэсле, / У ласкавым кусце, / Гарэшыкі трушча. / Бяры сабе паненку, / Каторую хочаш»[31]. Яшчэ больш выразна сімволіка арэха агучваецца ў «каморнай» песні вясельнага абраду, якая ўхваляе «непарушанасць» нявесты да шлюбу: «А добра наша Манечка чыніла, чыніла, / Што не хадзіла ў цёмныя лясы ў арэшкі, арэшкі, / Не нарабіла сваёй радзіне насмешкі, насмешкі»[32].

[28] Радзінная паэзія. Мн., 1971. С. 218.
[29] Вяселле: Песні. Кн. 6. Мн., 1988. С. 206.
[30] Жаніцьба Цярэшкі, с.184.
[31] Гульні, забавы, ігрышчы. Мн., 1996. С. 88.
[32] Вяселле: Песні. Кн. 6. Мн., 1988. С.196.

Тэма міжполавых дашлюбных адносінаў адлюстравана і ў цярэшках з умоўнай назвай «Паіла коніка ў вядрэ», дзе конь выступае сімвалам мужчынскага, а вядро з вадой — жаноцкага пачатку:

*Паіла коніка ў вядрэ,*
*Відзіла я рыбку на дне.*
*Смачная рыбачка карась,*
*Пацалуй, дзядулечка, хоць раз»[33].*

Больш празрыста гэты сюжэт агучваецца ў маладзёвым карагодным дыялозе падчас веснавых святкаванняў, які быў зафіксаваны на Гомельшчыне: «— Дзеўка-дзявіца, / Напой майго каня. У! / Напой майго каня, / — Ці ня будзеш ты мая? У! / Я не буду паіці / — Будзе мяне татка біці. У!»[34].

Насычанасць маладзёвага фальклору эратычнай тэматыкай, безумоўна, не з'яўляецца праявай хваравітай зацыкленасці на сексуальнай глебе. Наадварот, прагаворванне ўсіх іпастасяў «тэмы» на сімвалічным узроўні, у абавязкова дасціпнай жартоўнай ды іранічнай форме, ствараЛа ў маладзёнаў уяўны (ці як прынята зараз — віртуальны) сэксуальны вопыт, які разбураў мажлівыя комплексы ў сферы рэальных міжполавых адносінаў і арганічна ўводзіў іх у пачуццёва-цялесны свет «дарослага» жыцця значна лепей, чым сучасныя ўрокі сямейнай этыкі, што ёсць толькі спробай старэйшага пакалення навязаць ўласныя сэксуальныя фобіі і неабазнанасць сваім нашчадкам.

Аднак разгляд вербальнай сімволікі маладзёвай субкультуры мае сэнс толькі з улікам сімволікі акцыянальнай, канкрэтных гульнёвых паводзінаў, як у рамках каляндарных «ігрышчаў», так і ў пабытовым кантэксце.

У «Жаніцьбе Цярэшкі» сам характар дзеянняў моладзі («скручванне» пар у танцы, «ловы» бабулькі дзядулькай і наадварот) меў выразную шлюбную афарбоўку: «...на мове гульні танец — скокі — сімвалізуе «шлюб»[35]. Характэрна, што «круціцца» ва сне — азначае хуткае вяселле»[36], але адначасова дзеяслоў «скруціцца» ў дачыненні да дзяўчыны азначае страчаную ёю цноту. Падчас усёй гульні моладзь выяўляла на індывідуальным узроўні свой спрыт, зухаватасць, увішнасць у абыходжанні з партнёрам, пачуццё гумару і тонкасць у смяховінах адначасова: «Усё гэта перасыпаецца дасціпамі, жартамі, прымаўкамі як на адрас «свацці», так і на адрас «маладых», калі ёсць да таго зачэпка, асабліва калі хлопец нязграбны і не сумее ўтрымаць дзяўчыну». Як трапна заўважаў А. Багдановіч, «Жаніцьба Цярэшкі» цікавіла «дарослых маладых людзей галоўным чынам таму, што тут нязмушана выяўляюцца іх густы і ўзаемныя схільнасці»[37]. Сучасная маладзёвая дыскатэка, антыіндывідуальная па сваім вызначэнні, дае значна меней шанцаў для рэалізацыі такіх магчымасцяў.

У той жа час большасць дарэвалюцыйных даследчыкаў адзначала «нясціплы» характар калядных ігрышчаў: «...часта гульня канчаецца шумным разгулам, які даходзіў да разнузданасці: абдымкам, пацалункам, жартам усялякім няма канца»[38]. Пэўныя «вольнасці» дапушчаліся самім характарам гульні. Так, у «Жаніцьбе Бахара» (смаленскі варыянт «Цярэшкі») да «бацькі» «падводзяць хлопцаў і дзяўчат, гавораць: «Цалуйся!» А яны (дзяўчаты) ў крык, не хочуць цалавацца. Вось яны падымуць ім вопратку... Тут яшчэ болей смеху...»[39]. Пры ўсім гэтым існавалі жорсткія этычныя нормы, абавязковыя для ўсіх удзельнікаў. За крыўду, нанесеную словам ці дзеяй, юнак ці дзяўчына маглі быць выдаленыя з маладзёвага калектыву на доўгі час.

Сімвалічны характар «Жаніцьбы», нягледзячы на «праграму-максімум», што ставілася перад «маладымі»:

*Мая ж ты жанулечка,*
*Я ж твой мужулечка!*
*Мы ж будзем на свеце жыць,*
*Мы ж будзем дзяцей пладзіць,*
*Мы ж будзем гарэлку піць,*
*Мы ж будзем дзяцей жаніць»,[40]*

абсалютна не вымагаў практычнай «рэалізацыі» тэмы: «Ня топай, дзядулька, нагой, / Ня лягу я спаць з табой, / Бо я нівянчоная / — На вечар злучоная»[41]. Прычым «спаць» у гэтым сэнсе азначала «выконваць шлюбны абавязак» і не выключала сумесных начовак мо-

[33] Жаніцьба Цярэшкі, с. 248.
[34] Народны тэатр. Мн., 1983. С.132.
[35] Бернштам Т.А. Совершеннолетие девушки в метафорах игрового фольклора (традиционный аспект русской культуры) // Этнические стереотипы мужского и женского поведения. СПб., 1991. С.238.
[36] Зямная дарога ў вырай: Беларускія народныя прыкметы і павер'і. Кн. 3. Мн., 1999. С.315.
[37] Жаніцьба Цярэшкі, с.72-73.
[38] Жаніцьба Цярэшкі, с.66.
[39] Гульні, забавы, ігрышчы. Мн., 1996. С.69.
[40] Жаніцьба Цярэшкі, с.73.
[41] Жаніцьба Цярэшкі, с.178.

